29 сакавіка 2019 | № 12 (623)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







**Апошнія выбары з тэлевізарам**
стар. 20



# Без ансамбля

## Памылкі «Саюзнай дзяржавы» павінен выпраўляць той, хто іх зрабіў



Сяргей ПУЛЬША

Так супала, што 2 красавіка адкрываецца шостая сесія Палаты прадстаўнікоў Беларусі. Нагадаю, гэта афіцыйны «Дзень яднання народаў» Беларусі і Расіі.

У гэты дзень у 1996 годзе Барыс Ельцын і Аляксандр Лукашэнка падпісалі ў Маскве дамову «Аб стварэнні супольнасці Расіі і Беларусі». Роўна праз год, 2 красавіка 1997-га, была падпісана дамова «Аб Саюзе Беларусі і Расіі». 25 снежня 1998 года кіраўнікі Расіі і Беларусі падпісалі Дэкларацыю «Аб далейшым яднанні Расіі і Беларусі». 8 снежня 1999 года набыла моц дамова аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Во колькі папераў было...

У гэтых дакументах кіраўнікі дзяржаў «цвёрда заявілі аб рашучасці працягнуць паэтапны рух да добраахвотнага аб'яднання ў Саюзную дзяржаву пры захаванні нацыянальнага суверэнітэту дзяржаў — удзельніц Саюза».

Выбачайце за «круглы кубік» — гэта не я прыдумаў. «Аб'яднанне ў Саюзную дзяржаву пры захаванні нацыянальнага суверэнітэту» — гэта на сумленні стваральнікаў так званай «Саюзнай дзяржавы».

І вось нарэшце ў Беларусі ўбачылі: «Саюзная дзяржава» пагражае нашай незалежнасці. Дэпутатка Ганна Канапацкая напярэдадні адкрыцця сесіі Палаты прадстаўнікоў напісала на сваёй старонцы ў Facebook, што «Саюзную дзяржаву» трэба скасаваць:

«Сёння... зноў востра паўстае пытанне захавання незалежнасці і суверэнітэту Беларусі ва ўмовах нечакана рэзкага фарсіравання інтэграцыйных працэсаў у рамках няскончанага 20-гадовага праекта Саюзнай дзяржавы, што прымушае задумацца, а ці патрэбны беларусам такі праект. Тым больш, калі ўжо створаны і функцыянуе Еўразійскі эканамічны саюз, куды, акрамя Расіі і Беларусі, уваходзяць яшчэ некалькі краін... Праект Саюзнай дзяржавы за 20 гадоў так і застаўся мёртванароджаным дзіцём. Першапачаткова яго ў сваіх палітычных мэтах выкарыстаў кіраўнік Беларусі. Затым пра Саюзную дзяржаву ўспаміналі хіба што 2 красавіка, і тое даволі вузкае кола людзей. Праект існаваў толькі на паперы і ў частцы створаных фармальных органаў. І вось сёння ў палітычных мэтах яго пачалі выкарыстоўваць расійскія палітыкі, прычым фактычна з пагрозамі эканамічнага ціску на нашу краіну».

«Магчыма, прыйшоў час паставіць кропку ў гісторыі з Саюзнай дзяржавай, каб назаўсёды спыніць у тым ліку шэраг скандалаў і ўзаемных папрокаў па пытаннях інтэграцыі паміж кіраўніцтвам Беларусі і Расіі, якія зноў пачалі публічна гучаць з канца мінулага года. Зрабіць гэта можна толькі праз рэферэндум, які могуць ініцыяваць ці 450 тысяч беларусаў, ці Нацыянальны сход, ці прэзідэнт», — напісала Канапацкая і спытала, хто з яе чытачоў падтрымлівае такую ініцыятыву.

Я вельмі паважаю спадарыню Канапацкую, таму што ведаю: яна шмат робіць для сваіх выбаршчыкаў. Яна правакуе — у тым ліку і падобнымі прапановамі — грамадскую дыскусію. Але, выбачайце, пра які рэферэндум ідзе гаворка?

Сапраўды, Канапацкая слушна заўважае: на рэферэндуме 1995 года было пытанне: «Ці падтрымліваеце вы дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?». 83% тых, хто прыняў удзел у галасаванні, выказаліся «за».




Але пры чым тут рэферэндум па «Саюзнай дзяржаве»? Хіба «Саюзная дзяржава» прымалася рэферэндумам? Не. Хіба стварэнне гэтай структуры атрымала ўсенароднае ўхваленне на рэферэндуме? Таксама не. «Эканамічная інтэграцыя» — не ёсць «Саюзная дзяржава», ці не праўда?

«Саюзная дзяржава» не прымалася на рэферэндуме. Яе не ўхваліў народ Беларусі. І чаму зараз трэба ладзіць рэферэндум, каб яе скасоўваць?

Мне вельмі падабаецца эсэ знакамітага пісьменніка Віктара Марціновіча, у якім ён зазначыў: ёсць нешта сакральнае ў тым, што ўлада ў Беларусі не змяняецца. Бо тыя, хто раней ганьбіў нацыянальную гісторыю і нацыянальныя сімвалы, зараз павінны іх ухваляць і абараняць — бо гэта падмурак незалежнасці і крыніца іх улады. Тыя, хто цкаваў беларускую мову, — зараз павінны яе вывучаць, бо гэта складнік суверэнітэту. І тыя, хто раней касцямі клаўся за «Саюзную дзяржаву», зараз павінны выблытвацца з гэтай пасткі. Самі. Самастойна. «Без ансамбля».

> **Лукашэнка і Чарнамырдзін не запытваліся ў беларусаў, калі выкопвалі памежны слуп у 1996 годзе**

Народ да «Саюзнай дзяржавы» — ні пры чым. Народ нават супраціўляўся. Дастаткова ўзгадаць шматтысячныя мітынгі ў Мінску 1996–1997 гадоў супраць падпісання тых дамоваў. І безліч іншых акцый у пратэст дэкларацый аб'яднання Беларусі і Расіі.

Тое, што зараз кіраўніцтва Беларусі загналі ў пастку «Саюзнай дзяржавы» — гэта толькі яго, кіраўніцтва Беларусі, правіна. Хай кіраўніцтва гэта і выпраўляе. Рэферэндум па скасаванні «Саюзнай дзяржавы» зробіць уяўленне, нібыта раней народ Беларусі гэтую дзяржаву ўхваліў. А насамрэч — не было нічога такога і блізка. Народ тут быў — ні пры чым.

Лукашэнка і Чарнамырдзін не запытваліся ў беларусаў, калі выкопвалі памежны слуп на мяжы Расіі і Беларусі ў 1996 годзе. Цяпер кіраўнікі Расіі і Беларусі хай укопваюць яго назад — але таксама без народа. Народ не павінен несці адказнасць за бездакказныя паводзіны правадыроў.

УМОВЫ ДЛЯ МОВЫ

# 101 год аднаўлення дзяржаўнасці беларускай мовы

Ігар СЛУЧАК, Аліна НАГОРНАЯ

**На тыдні Беларусь адзначала ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі — дзяржавы, без якой не было б сённяшняй Рэспублікі Беларусь.**



Хацелася б нагадаць, што Трэцяя Устаўная грамата была прынятая Радай БНР 25 сакавіка 1918 года, і згодна з ёй Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржавай. Пацвярджаліся таксама правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, абвешчаныя Другой Устаўной граматай, у тым ліку і роўнасць усіх моваў народаў Беларусі. У развіццё Трэцяй Устаўной граматы Народны Сакратарыят БНР прыняў пастанову аб тым, што беларуская мова абʼяўляецца дзяржаўнай, але нацыянальныя меншасці маюць права карыстацца сваёй мовай у стасунках з дзяржаўнымі ўстановамі БНР. У той жа час афіцыйныя акты, дакументы, перапіска паміж дзяржаўнымі ўстановамі БНР павінны весціся па-беларуску. Гэта было абавязковым у справаводстве БНР 101 год таму і не абавязковае ў сучаснай Беларусі.

Пастанова Міністэрства юстыцыі №4 ад 19 студзеня 2009 года «Аб зацвярджэнні інструкцыі па справаводстве ў дзяржаўных органах і арганізацыях Рэспублікі Беларусь» (далей — Інструкцыя па справаводстве) зʼяўляецца асноўным дакументам, што рэгулюе афіцыйнае справаводства. Пункт 30 Інструкцыі па справаводстве абавязвае вырабляць бланкі з рэквізітамі на абедзвюх мовах. Гэта правіла распаўсюджваецца на арганізацыі і ўстановы любой формы ўласнасці. Пункт 69 Інструкцыі па справаводстве вызначае, што мовамі справаводства і дакументацыі зʼяўляюцца беларуская і руская мовы. У Інструкцыі па справаводстве не прапісаны дэтальны парадак ужывання дзяржаўных моваў. Адсутнасць у Законе «Аб мовах» і ў Інструкцыі па справаводстве парадку вызначэння адной з прадугледжаных альтэрнатыў нярэдка вядзе да парушэння права грамадзяніна на ўжыванне яго роднай мовы і ставіць яго ад пачатку ў невыгоднае становішча, калі ён пазбаўлены інфармацыі на адной з дзяржаўных моваў.

Павінна быць забяспечана магчымасць для кожнага грамадзяніна атрымаць інфармацыю на той дзяржаўнай мове, на якой ён пажадае. Таму неабходна забяспечыць магчымасць альбо хуткага і афіцыйнага перакладу неабходных звестак, што запытвае ў арганізацыі грамадзянін, на дзяржаўную мову, на якой справаводства не вядзецца, або неабходна забяспечыць адначасовае стварэнне, выданне і прыняцце дакументаў, што могуць закранаць правы і законныя інтарэсы грамадзян, адразу на дзвюх дзяржаўных мовах. Гэта дазволіць на практыцы рэалізаваць канстытуцыйную норму аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў справаводстве і ўзаемаадносінах субʼектаў з дзяржаўнымі ўстановамі і іншымі арганізацыямі.

А зараз, як мы вам і абяцалі ў мінулым нумары, прыводзім вынікі народнага галасавання «Самы беларускамоўны футбольны клуб — 2018». Апытанне праводзілася ў некалькі тураў, і ў ім удзельнічалі ўсе 46 клубаў Вышэйшай, Першай і Другой ліг нацыянальнага чэмпіянату. У фінал прайшлі 7 камандаў. Гэта былі «Нёман», мінскае «Тарпеда», «Дняпро», «Крумкачы», «Гарадзея», «Белшына» і «Граніт», якія прызнана лічацца флагманамі беларускай мовы ў беларускім футболе. Самым жа беларускамоўным па версіі карыстальнікаў сацыяльных сетак (у фінальным апытанні прынялі ўдзел 1996 чалавек) былі прызнаны гродзенскі «Нёман». Ён на 150 галасоў абышоў мінскае «Тарпеда». Трэцяе месца заняў НФК «Крумкачы», што адстаў ад «Тарпеда» на 70 галасоў.

Для «Нёмана» гэта не першая перамога — у 2016 годзе ён ужо перамагаў у аналагічным народным галасаванні, а ў 2017-м быў прызнаны самым беларускамоўным клубам у ТОП–150 Рэйтынгу «Самы беларускамоўны спартовы клуб Беларусі», які з 2014 года складае ініцыятыва «Умовы для Мовы». Мы шчыра дзякуем «Нёману», прызёрам і фіналістам апытання, а таксама ўсім клубам, што выкарыстоўваюць беларускую мову ў сваім спартовым жыцці — гэта годная пазіцыя для камандаў нацыянальнага чэмпіянату.

Што тычыцца рэйтынгу «Самы беларускамоўны спартовы клуб Беларусі — 2018», то яго вынікі мы падвядзем у красавіку і абавязкова паведамім вам у гэтай калонцы. У гэтым годзе будзе складацца ТОП–130 самых беларускамоўных камандаў.

Нагадваем, што на скрыню umovymovy@gmail.com вы можаце дасласць пытанні да аўтараў калонкі, свае пажаданні і прапановы, а таксама цікавыя гісторыі, звязаныя з выкарыстаннем беларускай мовы ў Беларусі, і ваш вопыт абароны сваіх моўных правоў.

# «Хацела застрахаваць мужа-зэка, страхоўшчыкі адмаўляюць»

**На электронную скрыню Праваабарончага цэнтру «Вясна» напісала жанчына з не зусім звычайнай просьбай пра дапамогу.**

*«Добры дзень! У мяне пытанне: мой муж адбывае пакаранне на тэрыторыі Беларусі. Я хацела б яго застрахаваць ад няшчасных выпадкаў. Падрабязную інфармацыю ў інтэрнэце не знайшла. Можа вы падкажаце, якая кампанія на тэрыторыі Беларусі можа заключыць дамову з вязнем?»* — напісала яна ў лісце.

Праваабаронцы вырашылі разабрацца ў гэтай праблеме. Бо сапраўды, грамадзяне, якія адбываюць пакаранне ва ўстановах пенітэнцыярнай сістэмы, знаходзяцца ў зоне падвышанай рызыкі, і было б слушна, калі б іх жыццё можна было б застрахаваць ад магчымых няшчасных выпадкаў.

Аказалася, што не ўсё з пытаннем страхавання зняволеных так проста.

Яшчэ ў 2014 годзе праваабаронца з Віцебску Леанід Свецік звяртаўся ў Палату прадстаўнікоў з прапановай распрацаваць і заканадаўча замацаваць права зняволеных на страхаванне ад няшчасных выпадкаў. Дэпутаты перанакіравалі яго прапанову ў Дэпартамент выканання пакаранняў, і адтуль праваабаронцу прыйшоў адказ, што ў такім замацаванні няма неабходнасці, бо ў дзеючым заканадаўстве гэтае пытанне вырашана ў поўным абʼёме.

Але ці так яно на самай справе? Праваабаронцы вырашылі патэлефанаваць у беларускія страхавыя кампаніі і наўпрост спытаць у кансультантаў пра тое, ці можа ў іх застрахавацца зняволены. Прадстаўнікам усіх страхавых кампаній было агучана наступнае пытанне: «Ці можа ваша кампанія застрахаваць здароўе/жыццё майго мужа, які знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі на тэрыторыі Беларусі?»

І вось якія адказы мы атрымалі.

«У цяперашні час «Белдзяржстрах», зыходзячы з прынцыпу свабоды дамовы добраахвотнага страхавання, устаноўленага пунктам 1 артыкула 391 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, не ажыццяўляе страхаванне зняволеных (асуджаных) грамадзян. Гэта звязана з закрытасцю ўстаноў, дзе знаходзяцца зняволеныя, што абцяжарвае атрыманне страхоўшчыкам дакументаў для вырашэння пытання аб страхавой выплаце: вынікаў медыцынскіх аглядаў, пракурорскіх праверак, рашэнняў аб распачынанні крымінальных спраў, пастаноў судоў, дакументаў ад следчых, дазнаўцаў, якія пацвярджаюць факт нанясення пабояў. Інфармацыяй аб тым, якія страхавыя кампаніі ажыццяўляюць страхаванне зняволеных (асуджаных) грамадзян, «Белдзяржстрах» не мае», — паведаміла вядучы спецыяліст аддзела метадалогіі кіравання медыцынскага страхавання Анастасія Сідорык.

Кансультант кампаніі «Белросстрах» адразу сказала «не», толькі пачуўшы пытанне. У наступнай страхавой кампаніі «Купала» адказалі, што не страхуюць жыццё і здароўе тых, хто знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, то-бок іх страхоўка дзейнічае толькі па-за межамі краіны. Цікава, але з інфармацыі, змешчанай на сайце кампаніі, гэта ніяк не вынікае.

У кампаніях «БелВЭБстрахаванне» і «Белкаапстрах» таксама адмовіліся страхаваць жыццё зняволенага. У кампаніі «Індзяржстрах» на зададзенае пытанне адказалі, што на дадзены момант яны не страхуюць фізічных асобаў. А ў страхавой кампаніі «Таск» на сайце змешчана інфармацыя, што дамовы страхавання ад няшчасных выпадкаў не складаюцца ў дачыненні да асобаў, якія знаходзяцца пад следствам або асуджаных да пазбаўлення волі. Дарэчы, гэта адзіная страхавая кампанія, сайт якой утрымліваў такую інфармацыю.

Адзіная страхавая кампанія, якая пагадзілася застрахаваць зняволенага ад няшчасных выпадкаў, была кампанія «Белнафтастрах». Пасля некалькіх хвілін узгаднення дзяўчына-кансультант адказала, што забаронаў на такія паслугі ў заканадаўстве няма, і таму страхаванне магчыма. Для гэтага яна прапанавала сваяку (у дадзеным выпадку жонцы) прыйсці ў офіс кампаніі са сваім пашпартам і з копіяй пашпарту зняволенага.

Але больш чым праз два месяцы пасля публікацыі дадзенага матэрыялу з ПЦ «Вясна» звязалася спецыялістка галоўнага офісу кампаніі «Белнафтастрах» і паведаміла, што першапачатковая інфармацыя, дадзеная кансультантам, была недакладная. Спецыялістка патлумачыла, што, згодна з правіламі страхавання, іх кампанія не займаецца страхаваннем людзей, якія знаходзяцца ў месцах зняволення.

Дадаткова праваабаронцы накіравалі электронны ліст па пытанні страхавання зняволеных у Беларускую асацыяцыю страхоўшчыкаў, аднак ніякага адказу дагэтуль не дачакаліся.

З атрыманай інфармацыі вынікае, што страхавыя кампаніі ў сваёй большасці самі не зацікаўленыя ў аказанні такога віду паслуг, паколькі ім гэта нявыгадна эканамічна і прадугледжвае шмат рызыкі.

Галоўная прычына такога стаўлення палягае, хутчэй за ўсё, у закрытасці пенітэнцыярнай сістэмы, у сувязі з чым пры наступленні страхавога выпадку больш складана аформіць неабходныя дакументы, высветліць абставіны здарэння, атрымаць медычнае заключэнне, выканаць іншыя, неабходныя ў такім выпадку працэдуры.

Але ж, напрыклад, у Расійскай Федэрацыі можна налічыць дзясяткі кампаній, якія такія паслугі аказваюць, а таму маюць вопыт працы ва ўмовах пенітэнцыярных устаноў. Хіба цяжка скарыстацца іх напрацоўкамі?

На думку юрыста Праваабарончага цэнтра «Вясна» Паўла Сапелкі, наяўнасць у асуджанага страхавога полісу аб добраахвотным страхаванні здароўя або ад няшчаснага выпадку магла б палепшыць умовы працы зняволеных, узмацніла б працоўную дысцыпліну і палепшыла стасункі супрацоўнікаў Дэпартамента выканання пакарання з асуджанымі грамадзянамі.

**spring96.org**

# Не прапусціце! Пачаўся прыём матэрыялаў на Конкурс імя Аляксея Караля – 2019

**«Новы Час» сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў абвяшчае прыём матэрыялаў на конкурс маладых журналістаў імя Аляксея Караля.**

Ужо ў трэці раз запрашаем моладзь паспрабаваць сябе ў якасці аўтараў адзінай беларускамоўнай газеты. Дзякуючы конкурсу штогод наша рэдакцыя папаўняецца цудоўнымі таленавітымі аўтарамі. Магчыма, мы чакаем менавіта вас.

Асабліва, калі вы любіце Беларусь, яе гісторыю і культуру, валодаеце беларускай мовай. Вы лічыце, што Беларусь павінна быць вольнай і дэмакратычнай краінай, дзе выконваюцца законы і паважаюцца правы чалавека. Вы ўпэўненыя, што вам ёсць што сказаць людзям. Вы думаеце, што ваша пакліканне — журналістыка. Але вы не ведаеце, з чаго пачаць? «Новы Час» запрашае вас прыняць удзел у конкурсе імя нашага галоўнага рэдактара Аляксея Караля, які адышоў у лепшы свет у верасні 2015 года.

Больш падрабязна пра ўмовы конкурсу чытайце на адмысловай старонцы на нашым сайце. Там вы можаце пазнаёміцца з мінулагоднімі конкурснымі працамі і лаўрэатамі.

УВАГА! У гэтым годзе ў другі раз абвешчаная намінацыя — «найлепшы літаратурна-крытычны матэрыял», — пераможцы якога будуць вызначаны сакратарыятам ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Уручэнне ўзнагарод адбудзецца 29 траўня 2018 года (час і месца паведамім пасля 20 траўня).

ЗРАБІЦЕ СВОЙ ПЕРШЫ КРОК У «НОВЫ ЧАС». ПАДЗЯЛІЦЕСЯ ТАЛЕНТАМ! ЧАКАЕМ НА ВАШЫ МАТЭРЫЯЛЫ!

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД


Малюнак www.4tololo.ru

# Важкія дробязі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ёсць пэўныя дробязі, якія іншым разам кажуць пра стан нашай краіны больш, чым нейкія глабальныя рэчы.**

Напрыклад, на тыдні намеснік міністра энергетыкі Міхаіл Міхадзюк заявіў, што на сёння ступень гатоўнасці першага энергаблока Астравецкай АЭС у частцы рэалізацыі праектных рашэнняў можна ацаніць у 87%, другога — у 67%. «У дадзены момант мы ўшчыльную падышлі да этапу гідравыпрабавання, халоднай і гарачай абкаткі абсталявання. Пасля паспяховага завяршэння гэтага этапу наступны — фізічны пуск ядзернай устаноўкі першага энергаблока, што азначае загрузку ядзернага паліва ў рэактар і пачатак адпаведных выпрабаванняў на розных рэжымах.

Пасля паспяховага завяршэння фізічнага пуску наступны этап — энергетычны пуск, які будзе ажыццяўляцца з прыпынкамі на магутнасцях праз кожныя 5% для правядзення неабходных выпрабаванняў. На ўзроўні набору магутнасці прыкладна 40% праводзіцца ўключэнне генератара ў сетку з паступовым далейшым наборам магутнасці да праектнай.

«Уся наша праца накіраваная на праходжанне гэтых этапаў у 2019 годзе», — распавёў Міхадзюк у інтэрв'ю «СБ — Беларусь сегодня».

Намеснік міністра энергетыкі таксама паведаміў, што адпрацаванае паліва з БелАЭС плануецца накіроўваць на перапрацоўку ў Расію з вяртаннем у Беларусь «высокаактыўных адкідаў, уключаных у шклопадобную матрыцу, з выключэннем доўгажывучых радыенуклідаў». Гэта, па словах намесніка міністра, «дазволіць ажыццявіць іх пахаванне ў заглыбленых прыпаверхневых збудаваннях, а не ў глыбокіх геалагічных фармацыях». Праект стратэгіі абыходжання з адпрацаваным ядзерным палівам БелАЭС цяпер знаходзіцца на разглядзе ўрада.

Мяне заўсёды цікавіў такі падыход да падачы інфармацыі. Нібыта, па словах Міхадзюка, усё добра. Але… Што будзе, калі «халодная і гарачая абкатка абсталявання» не скончыцца «паспяхова»? Пры наборы магутнасці прыкладна 40% праводзіцца «ўключэнне ў сетку», — а сетка вытрымае? Адпрацаванае паліва «плануецца» накіроўваць у Расію — то-бок, гэта яшчэ недакладна? Праект стратэгіі абыходжання з радыеактыўнымі адкідамі знаходзіцца ва ўрадзе — ён яшчэ не падпісаны? Дзе будзе ажыццяўляцца «пахаванне ў заглыбленых прыпаверхневых збудаваннях»?

Ці не варта было б прыпыніць «праходжанне гэтых этапаў» запуску БелАЭС да тых часоў, пакуль мы не атрымаем уцямныя адказы на гэтыя пытанні? «Мірны атам» — гэта не жарт. І тут лепш перастрахавацца. Наеліся мы ўжо Чарнобылю, ці не так?

І, дарэчы. Хто-небудзь патлумачыў Аляксандру Лукашэнку, як АЭС будзе ўбудаваная ў нацыянальную эканоміку Беларусі? Ён гэтае пытанне задаваў два гады таму, а пра такія тлумачэнні нічога не чуваць.

Тым часам канцэрн «Газпрам» выдаў справаздачу пра тое, што ён паставіў у Беларусь у 2018 годзе 20,33 мільярда кубаметраў газу. Паводле ацэнкі гендырэктара кампаніі «Газпрам трансгаз Беларусь» Уладзіміра Маёрава, гэты аб'ём вырас больш чым на мільярд кубічных метраў у параўнанні з 2017 годам.

Фактычная максімальная прадукцыйнасць у аб'ёме 19,6 млн кубаметраў і агульны аб'ём вытворчасці ПСГ (сума адабранага і запампаванага газу) больш за 2 мільярды кубаметраў з'яўляюцца рэкорднымі паказчыкамі за перыяд усёй дзейнасці ПСГ ААТ «Газпрам трансгаз Беларусь».

Што на справе азначаюць словы Маёрава? Па-першае, яны з'яўляюцца фактычным абвяржэннем словаў пасла Расіі ў Мінску Бабіча, што «Расія корміць Беларусь». Каб «Газпраму» было не выгадна пастаўляць сюды газ — ён бы гэтага не рабіў. А калі ён рэкордна нарошчвае пастаўкі — значыць, давярае Беларусі і мае з гэтага пэўны гешэфт.

Па-другое, рэкордныя пастаўкі газу робяць сумнеўным праект запуску БелАЭС. Навошта нам такое небяспечнае прадпрыемства, калі мы газам перакрываем усе нашы патрэбы ў энергарэсурсах?

Яшчэ 20 гадоў таму ва ўніверсітэце на курсе «Экалогія і бяспека» мы, студэнты, разглядалі магчымасць пабудовы АЭС у Беларусі. І я тады рабіў даклад на тэму таго, што ў нас няма праблемаў з энергарэсурсамі. У нас ёсць праблема з аплатай гэтых рэсурсаў. Але гэта ўжо — праблема не рэсурсаў, а эканомікі. І тое, што зараз сказаў спадар Маёраў, толькі пацвярджае гэты тэзіс. Мы можам і без АЭС забяспечыцца энерганосьбітамі — трэба толькі разлічвацца за іх.

Яшчэ адна цікавая навіна: прадпрыемства «Віцязь» мае намер у 2019 годзе пачаць серыйны выпуск хуткіх зарадных станцый для электрамабіляў. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар прадпрыемства Генадзь Азараў на абласной нарадзе па пытанні эфектыўнасці работы прамысловага комплексу Віцебскага рэгіёну.

Паводле слоў гендырэктара, першыя дзве станцыі (ЭЗС) Mode 4 хуткага тыпу (зарадная прылада для электрамабіляў, якая забяспечвае хуткую зарадку — за 15–30 хвілін да 80%) прадпрыемства выпусціць ужо ў сакавіку. Яны цалкам адпавядаюць усім тэхнічным патрабаванням заказчыка — нацыянальнага аператара сеткі «Беларуснафта», па дамоўленасці з якой віцебскі завод у другім паўгоддзі плануе вырабіць не менш за 20 такіх ЭЗС. «Яны будуць усталяваныя па ўсёй краіне ў найбольш знакавых месцах на запраўчачных станцыях і іншых пляцоўках», — адзначыў Генадзь Азараў.

Безумоўна, гэта добры знак. Галоўнае, каб было што зараджаць гэтымі станцыямі. Тым не менш, калі паставіць такія станцыі, найперш, на заходняй мяжы — можа быць, гэта завабіць і турыстаў? Інфраструктура — першае, на што скардзяцца замежнікі ў Беларусі.

Яшчэ адзін прарыў у нас таксама можа быць. Рэзідэнтам СЭЗ «Гроднаінвест» стала кампанія «Габі-БЕЛ», якая мае намер пабудаваць мэблевую фабрыку для галандска-шведскай сеткі IKEA. Плануецца стварыць 170 новых працоўных месцаў.

Варта зазначыць, што IKEA некалькі разоў спрабавала трапіць у Беларусь з вытворчасцю мэблі і яе кампанентаў. Але праблема ў тым, што ў кампаніі прынцыповы момант: хабар не даваць. І з гэтага ўзніклі праблемы як у нас, так і ва Украіне, і ў Расіі. Але GABI Group, якая мае намер рабіць кампаненты IKEA, — кампанія польская. Можа, нешта атрымаецца?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Зміцер Дашкевіч



**Апазіцыйнага актывіста пакаралі штрафам за заклік ісці ў Курапаты. Хаця ён нікога нікуды не клікаў.**

Дашкевіч палічыў, што яго затрымалі, бо міліцыя пакрыўдзілася на яго словы. Ён сказаў на мітынгу 24 сакавіка ў Мінску, што «гэта свята і для «шунявак», і для «ихтаметов», для ілжывай прапаганды, і нават для самазванца. Бо калі б не 25 сакавіка і незалежнасць, дзе б яны зладзейнічалі? Таму давайце павіншуем іх».

Неўзабаве пасля таго, як Дашкевіч сказаў гэтыя словы і спусціўся са сцэны, ён знік. Ні яго цяжарная жонка Насця, ні яго сябры, ні гледачы таго канцэрту ў Кіеўскім скверы не ведалі, дзе ён і што з ім. Зміцер знайшоўся толькі праз шэсць гадзін — у ізалятары часовага ўтрымання.

Актывіст казаў, што нікога не заклікаў на масавае мерапрыемства. У сваёй прамове на мітынгу Дашкевіч казаў пра Курапацкую Варту і зазначыў, што кожную нядзелю ў Курапатах адбываецца малітва за загінулых. І не болей.

Суд пакараў яго штрафам у 1147 рублёў 50 капеек за нібыта «парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства» (ч. 2 арт. 23.34 КаАП). Такое рашэнне вынес суддзя Іван Касцян.

## Ніна Багінская



**Знакамітую актывістку 25 сакавіка двойчы за вечар (!) затрымалі за нацыянальную сімволіку. Але пратакол на яе не склалі.**

Першы раз яе затрымалі 25 сакавіка каля 18-й гадзіны. Яна вярталася з Курапатаў і на плошчы Якуба Коласа перасядала, каб патрапіць на вечарыну з нагоды Дня Волі ў кавярні на Валадарскага. «Я была ў паліто, на якім я нашыла лозунг «Свобода народу!», — расказала Багінская. — Да мяне падышлі адразу двое «ціхароў», потым падцягнуўся трэці. Я адмовілася з імі размаўляць, яны пачалі хапаць мяне за рукі. Звярнулася да людзей, каб выклікалі міліцыю. Пад'ехалі міліцыянты ў форме, «ціхарам» яны не пярэчылі. Тыя аднеслі ды пагрузілі мяне ў машыну».

Яе даставілі ў РАУС Савецкага раёна, дзе пратрымалі дзве гадзіны. Багінская абвясціла «маўклівы страйк», усе пытанні ігнаравала. Напачатку дзявятай яе адпусцілі. На развітанне яна зачытала верш Ніла Гілевіча «Будзьце праклятыя, каты свабоды!».

Багінская выправілася на Валадарскага, падышла ўшанаваць памяць лідараў БНР ля будынку на Валадарскага, 9. І з бел-чырвона-белым сцягам пайшла па праспекце побач з КДБ. Там за ёй зноў увязаліся.

«Я ім сказала, што гуляю, адпачываю, а сцяг не забаронены. Але яны запіхнулі мяне ў машыну і павезлі ў Маскоўскі РАУС. Я адмовілася выходзіць – яны вынеслі мяне на руках і зацягнулі ў аддзяленне. Зноў іх папярэдзіла, што ніякіх пратаколаў не будзе і размаўляць з імі наогул не збіраюся. Яны выйшлі, пра нешта пачалі дамаўляцца. А потым адзін вяртаецца і кажа: «Багінская, ідзіце дахаты». А палове 11-й я была дома», — расказала Багінская.

## Яраслаў Раманчук



**Беларускі эканаміст, які крытыкаваў пасла Расіі ў Беларусі Міхаіла Бабіча за словы пра «ўтрыманне» Беларусі з боку Расіі, сустрэўся з апанентам сам-насам.**

Паводле Раманчука, адной з тэмаў размовы была яго публікацыя: «Раманчук пра расійскае «мы вас кормім»: Гэта хлусня!».

Пасля сустрэчы Раманчук распавёў «Радыё Свабода»: «Гутарка працягвалася амаль дзве гадзіны. Гэта была размова двух людзей, якіяназіраюць за эканамічнымі працэсамі. Гутарка была вельмі грунтоўная, з дэталямі, з аргументацыяй. Мы абмяркоўвалі, што стаіць за беларускімі заявамі аб суверэнітэце, за расійскімі заявамі аб Саюзнай дзяржаве. Я хацеў зразумець расійскі пункт гледжання».

«Мы не абмяркоўвалі палітычныя пытанні. На ўзроўні эканомікі пазіцыя пасла, паводле яго гэта пазіцыя і Пуціна, — Расія запытваецца ў Беларусі: што вам трэба, чаго вы хочаце? Калі вы хочаце мець крэдыты як расійскія вытворцы, калі хочаце, каб кошты на энерганосьбіты былі як у расійскіх спажыўцоў, — тады трэба глядзець на Саюзную дзяржаву як на прававы механізм ажыццяўлення гэтага. Калі вы, беларусы, хочаце працаваць паводле схемы ЕАЭС — давайце працаваць па ёй», — распавёў Раманчук.

# Што вядома пра забудоўшчыка

Дзяніс ІВАШЫН

**Некалькі месяцаў трывае грамадскі розгалас вакол будоўлі ў цэнтры Брэста. «Прыбужскі квартал» на месцы знішчанай гістарычнай забудовы яўрэйскага гета спрабуе ўзвесці элітны жыллёвы комплекс прэміум-класа.**


Знішчаныя будынкі па адрасе Куйбышава, 87 (праваруч) і Машэрава, 60 (леваруч удалечыні) / Яндэкс

Журналісты tut.by яшчэ паўгода таму выказалі здагадку пра мажлівую прыналежнасць забудоўшчыка — кампаніі ТАА «Прыбужскі квартал» — да ўласнікаў ТАА «Маналіт Груп». Аднак у кампаніі гэтую інфармацыю абвергліі спаслаліся на тое, што прадпрыемства не мае аніякага дачынення да «Маналіт Груп» і афіляваных з ім юрыдычных асобаў.

Найпрасцейшых доказаў тады выяўлена не было. Таму мы вырашылі здзейсніць адмысловае расследаванне, каб расставіць усе кропкі над «і», а таксама публічна назваць імёны тых, хто з'яўляецца бенефіцыярам кампаніі-забудоўшчыка тэрыторыі яўрэйскага гета.

### Інвестыцыі перадусім

Падчас Другой сусветнай вайны на гэтай тэрыторыі знаходзіліся расстрэльныя двары Вялікага гета, у якіх гітлераўцы знішчылі тысячы жыхароў Брэста. 17 студзеня 2019 года падчас будаўнічых працаў былі знойдзеныя першыя парэшткі масавага пахавання людзей. Эксгумацыю з 24 студзеня пачаў праводзіць 52-гі асобны спецыялізаваны пошукавы батальён, які выявіў парэшткі ўжо 1140 чалавек.

Пра гэтае страшнае месца пакутлівай смерці людзей ведалі даўно. У 1964 годзе непадалёк, таксама падчас будоўлі, былі знойдзеныя чалавечыя парэшткі, якія перанеслі на Трышынскі цвінтар. У 1973 годзе была зробленая чарговая жахлівая знаходка. Улады, аднак, не выканалі абавязкі што да вывучэння архіўнай дакументацыі, не арганізавалі правядзенне археалагічных даследаванняў, не імкнуліся стварыць у гэтым раёне мемарыяльны комплекс. Насуперак усяму, яны вырашылі знайсці інвестара для забудовы. Усё вырашылі фінансавы чыннік.

У 2012 годзе была ўхваленая інвестыцыйная дамова з італьянскай кампаніяй СТАА «Італінвест», якая павінна была ажыццявіць комплексную забудову гэтай тэрыторыі офіснымі і гандлёвымі аб'ектамі. Гэты праект застаўся не рэалізаваны, і ў 2016 годзе быў знойдзены новы інвестар — ТАА «Прыбужскі квартал».

Пад рэалізацыю праекту адведзеная зямля агульнай плошчай амаль 0,83 гектара. Будаўніцтва ажыццяўляецца на тэрыторыі комплекснай гісторыка-культурнай каштоўнасці 2-й катэгорыі — «Гістарычны цэнтр Брэста», якая пад шыфрам 112Е000002 занесеная ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў (ГКК) Рэспублікі Беларусь паводле пастановы Савета міністраў Беларусі ад 14.05.2007 года №578. Да яе адносяцца будынкі і збудаванні, планіровачная структура, ландшафт і — што вельмі важна — культурны пласт.

Не зважаючы на статуснасць тэрыторыі, пад знос трапляе шэраг будынкаў, узведзеных яшчэ за польскім часам. Для рэалізацыі будаўнічага праекту забудоўшчык зруйнаваў дом з адрасам Машэрава, 58 — аднапавярховы каменны дом з мезанінам і двухскатным дахам, збудаваны яшчэ ў 1921 годзе з двухпавярховага, які стаяў тут раней. Такі ж самы лёс напаткаў і суседні дом на Машэрава, 60 — перабудаваны ў 1926 годзе аднапавярховы дом з мезанінам, узведзены яшчэ ў 1901 годзе. У межах запланаванай забудовы цалкам знішчаюць і будынак на Куйбышава, 87 — яскравы прыклад міжваеннай польскай гарадской забудовы, аднапавярховы драўляны жылы дом на дзве кватэры, які быў збудаваны ў 1930 годзе і ў нязменным стане дайшоў да нашых дзён.

Шмат падстаў для роздуму дае факт, што ўсе гэтыя будынкі нібы адмыслова не былі ўключаныя ў пазначаны вышэй Дзяржаўны спіс ГКК, хаця, безумоўна, былі часткай захаванай да 2018 года забудовы гістарычнага цэнтру Брэста, і перадусім часткай Вялікага гета Брэста, якое — разам з Малым — было адным з найбуйнейшых месцаў увязнення і знішчэння яўрэяў у Еўропе.

Паміж Брэсцкім аблвыканкамам і ТАА «Прыбужскі квартал» 19 красавіка 2016 года была ўхваленая інвестыцыйная дамова на будаўніцтва шматкватэрнага жылога дома з гандлёвым комплексам у цэнтры Брэста — у межах вуліц Савецкая, Дзяржынскага, Куйбышава і праспекту Машэрава. Падрыхтоўчы этап будаўніцтва распачаўся 17 верасня 2018 года. Будоўля павінна быць завершаная да сёлетняга святкавання ў верасні 1000-годдзя гораду.

### ТАА «Прыбужскі квартал»

Паводле пададзеных Міністэрствам юстыцыі Беларусі выпісаў з Адзінага дзяржаўнага рэгістру юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў (далей АДР), кампанія ТАА «Прыбужскі квартал» зарэгістраваная адміністрацыяй Маскоўскага раёна Брэста 30.07.2015 года. Асноўным відам дзейнасці з'яўляецца здача ў арэнду ўласнай і арэндаванай нерухомай маёмасці. Статутны фонд складае 500 рублёў (тут і далей усе грашовыя паказнікі пададзеныя з улікам дэнамінацыі. — аўт.). Заснавальнікамі кампаніі з'яўляюцца ТАА «Рэалці Інжынірынг» (памер долі — 1%) і ТАА «Маналіт Груп», якая 14.02.2018 года была выведзеная са складу ўласнікаў і замененая кампаніяй ТАА «Квад Груп». Апошняй належыць 99% долі ТАА «Прыбужскі квартал». Кіраўніком «Прыбужскага кварталу» з 01.10.2018 года з'яўляецца Уладзімір Біруля, які, паводле дадзеных адкрытага доступу, працаваў раней у кампаніі «Маналіт груп» спецыялістам па інвестыцыях.

Да яго кампанію з моманту заснавання і да канца траўня 2017 года ачольваў Аляксей Ермашоў, а пасля яго кіраўніцтва здзяйсняў ІП Аляксандр Казак.

Аляксей Сяргеевіч Ермашоў быў чальцом кіравання і дырэктарам па развіцці ТАА «Маналіт Груп». З'яўляецца заснавальнікам і чальцом кіравання ТАА «Квадрат груп» (не блытаць з «Квад Груп»), якой належыць брэнд «MDevelop».


**Аляксей Ермашоў.** Фота sb.by

Аляксею Ермашову належаць 50% расійскай кампаніі ТАА «ГКМ Инжиниринг», а да 2016 года ён валодаў паловай долі таксама расійскай кампаніі ТАА «Рентал Инжиниринг».

Характэрна, што ў выпісе з АДР адсутнічае інфармацыя пра тое, хто ачольваў кампанію «Прыбужскі квартал» на працягу чатырох месяцаў, з 31.05.2018 года і па 01.10.2018 года. Цалкам мажліва, што ў гэты перыяд прадпрыемства наогул функцыянавала без асноўнага кіраўніка.

Падобна, што кампанія «Прыбужскі квартал» была створаная ўласнікамі менавіта для рэалізацыі праекту пабудовы элітнага жылля ў цэнтры Брэста. «Маналіт Груп» усё ж меў дачыненне да гэтай кампаніі, але з пэўных прычынаў, якія стануць зразумелымі з расследавання, вымушаны быў выйсці са складу ўласнікаў кампаніі-забудоўшчыка. Папярэдне скажам, што звязана гэта з неабходнасцю мінімізацыі мажлівых фінансавых рызыкаў і рэпутацыйных стратаў для канцавога бенефіцыяра, які, як мы бачым, хаваецца за іншымі афіляванымі кампаніямі.

Абедзве кампаніі-ўласніцы «Прыбужскага кварталу» пазначаныя ў АДР у якасці беларускіх, аднак ці адпавядае гэта рэчаіснасці?

### ТАА «Рэалці Інжынірынг», Мікалай Ермашоў, Яўген Чумак і Аляксандр Штоц

Пачнём з кампаніі з мінімальным памерам долі ўласнасці «Прыбужскага кварталу» — ТАА «Рэалці Інжынірынг». Мінскі гарвыканкам зарэгістраваў яе 31.05.2007 года з першапачатковай назвай «СпецТрансІндустрыя», зменнай на бягучую назву ў 2014 годзе. З моманту стварэння яна спачатку знаходзілася ў Мінску, на вуліцы Бабушкіна, затым змяняла адрас на Калодзішчы, на вёску Вялікае Сціклева, аграгарадок Хацежына Мінскага раёна, а ў 2019 годзе вярнулася ў сталіцу і знаходзіцца зараз на вуліцы Сяліцкага, дом 37, пакой 21. Паводле АДР, прадпрыемства займаецца дзейнасцю ў галіне архітэктуры, а статутны фонд складае 480 рублёў. З 10.10.2018 года кампанію ачольвае Пётр Пшэн, які да гэтага працаваў у «Маналіт груп», меркавана, кіраўніком фінансавай службы.

А зараз цікавая інфармацыя: адзіным уласнікам «Рэалці Інжынірынг» са 100-працэнтнай доляй з'яўляецца ТАА «Квад Груп». Характэрна, што ў склад уласнікаў гэтая кампанія была ўведзеная ў чэрвені 2017 года, да гэтага «Рэалці Інжынірынг» кантралявалі, згодна дадзеным беларускага Міністэрства юстыцыі, фізічныя асобы з Расійскай Федэрацыі — Мікалай Сяргеевіч Ермашоў, Яўген Уладзіміравіч Чумак і Аляксандр Георгіевіч Штоц.

Мікалай Ермашоў — брат Аляксея Ермашова. Да снежня 2016 года ён быў адным з уласнікаў і (да студзеня 2017 года) топ-менеджарам ТАА «Маналіт Груп». Займаў 164 пазіцыю ў ТОП-200 паспяховых і ўплывовых бізнесменаў Беларусі за 2017 год паводле версіі выдання ej.by.


Мікалай Ермашоў

У 2014 годзе быў лаўрэатам штогадовага конкурсу «Чалавек справы» ў намінацыі «За высокую якасць бізнес-паслугаў у сферы будаўніцтва». Старшыня наглядальнай рады ТАА «СУ-3 Белбуд». Удзельнічае ў рэстарацыйным бізнесе (рэстарацыі «Госці», «7 Комнат»). Сярод актываў — ТАА «Зялёная Гавань» і іншыя.

Вынікае, што кола замкнулася на адной юрыдычнай асобе — кампаніі ТАА «Квад Груп», якая, па-сутнасці, і з'яўляецца на сення ўласнікам «Прыбужскага кварталу».

### ТАА «Квад Груп»

У адкрытым доступе практычна адсутнічае дадатковая інфармацыя пра дзейнасць гэтай кампаніі. Звестак пра яе няма і ў гандлёвых анлайн-каталогах. Паводле інфармацыі з АДР, кампанія ТАА «Квад Груп» зарэгістраваная 19.05.2016 года Мінскім аблвыканкамам. Асноўны від дзейнасці — аптовы гандаль лесаматэрыяламі, санітарна-тэхнічным абсталяваннем і будаўнічымі матэрыяламі. За невялікі час існавання гэтая кампанія ўжо тройчы мяняла сваё месцазнаходжанне: у 2017 годзе з вёскі Вялікае Сціклева яна перабралася ў аграгарадок Хацежына (усё — Мінскі раён), у 2018 годзе пераехала ў сталіцу і змяніла адрас спачатку на мінскую вуліцу Ляўкова, дом 30, а потым на вуліцу Перадавую, дом 15. Уласнікамі «Квад Груп» з'яўляецца расійская ТАА «Рентал Инжиниринг» і згаданы вышэй грамадзянін Расійскай Федэрацыі Яўген Уладзіміравіч Чумак. Апошні — адначасова і кіраўнік кампаніі «Квад Груп» з моманту яе стварэння.

Яўген Чумак да чэрвеня 2016 года быў саўласнікам ТАА «Маналіт Груп», з'яўляецца бізнес-партнёрам братоў Ермашовых.


**Яўген Чумак.** Фота znk.by

Абодва ўласнікі «Квад Груп» маюць парытэтную долю ў 50 працэнтаў маёмасці кампаніі. Як бачым, гаспадарамі «Прыбужскага кварталу» з'яўляюцца рэзідэнты Расійскай Федэрацыі.

Цікава, што, паводле інфармацыі інспекцый МНС па Мін-

# «Прыбужскага кварталу»




скай вобласці і Мінску, «Квад Груп», пачынаючы з 01.08.2018 года па 01.01.2019 года, мела запазычанасці па плацяжах у бюджэт. Згодна са звесткамі, пададзенымі на інфармацыйным рэсурсе Вярхоўнага суда Беларусі, 22.01.2019 года ад МНС паступіла заява ў гаспадарчы суд пра банкрутства ТАА «Квад Груп», але амаль праз тыдзень гэтая заява была адкліканая.

### «Рентал Инжиниринг», Аляксей Ермашоў

Для раскрыцця ўсёй схемы высветлім, каму належыць кампанія ТАА «Рентал Инжиниринг». Паводле інфармацыі з Адзінага дзяржаўнага рэестру юрыдычных асобаў Расійскай Федэрацыі (рус. ЕГРЮЛ), прадпрыемства зарэгістравана 15.01.2014 года інспекцыяй ФПС РФ па горадзе Кліну Маскоўскай вобласці з юрыдычным адрасам у горадзе Хімкі. Асноўным відам дзейнасці з'яўляецца аптовы гандаль машынамі і абсталяваннем для здабычы карысных выкапняў і будаўніцтва. Статутны фонд — 10 тысяч расійскіх рублёў. Генеральным дырэктарам прадпрыемства з'яўляецца Андрэй Сенін. Адзіным жа ўласнікам кампаніі «Рентал Инжиниринг» з'яўляецца ўжо вядомы нам Яўген Чумак.

Характэрна, што да лютага 2018 года адным з уласнікаў кампаніі быў таксама і Аляксей Ермашоў. Абодвум належала па 50 працэнтаў кампаніі. Прадпрыемства згадваецца сярод заснавальнікаў яшчэ адной расійскай юрыдычнай асобы — ТАА «Рентал Финанс».

З усяго пададзенага вышэй вынікае, што ТАА «Прыбужскі квартал» цалкам належыць замежнаму капіталу без удзелу беларускіх кампаніяў.

Падчас правядзення расследавання вызначана, што гаспадар кампаніі-забудоўшчыка яўрэйскага гета Яўген Чумак з'яўляецца таксама саўласнікам яшчэ нядаўна адной з найбуйнейшых дэвелаперскіх кампаніяў Беларусі — ТАА «Маналіт Груп».

### «Маналіт Груп»

Гэтая кампанія да нядаўняга часу з'яўлялася вельмі значным гульцом на будаўнічым рынку Беларусі. Яна мае датычнасць да рэалізацыі прыблізна 100 праектаў рознай складанасці, у іх ліку: будаўніцтва ў якасці генпадрадчыка жылога комплексу прэміум-класа «D3» у Мінску, спартовы комплекс «Сонечная даліна» ў парку «Курасоўшчына» з навучальна-спартовым цэнтрам гарналыжнага спорту і пунктам пракату, некалькі аб'ектаў спартова-забаўляльнага комплексу «Мінск-Арэны» — веладром і шматузроўневы паркінг. «Маналіт Груп» удзельнічаў у маштабнай забудове мікрараёну «Лебядзіны» («Лебяжий») на праспекце Пераможцаў у Мінску (дамы №8 і №9 з агульнай плошчай больш за 40 тысяч квадратных метраў), будаваў жылыя дамы ў шэрагу населеных пунктаў Мінскай вобласці: Заслаўі, Фаніпалі, Жодзіне, Калодзішчах, Азярцы, Салігорску. Апроч гэтага кампанія рэалізоўвала будаўніцтва адміністрацыйнага комплексу па вуліцы Гусоўскага ў Мінску і лагістычнага цэнтру «Налан» у вёсцы Хацежына Мінскага раёна, гандлёвых цэнтраў сеткі гіпермаркетаў «Гиппо» і «Скала» ў Мінску і шмат іншых інвестыцыйных праектаў.

Паводле інфармацыі з АДР, ТАА «Маналіт Груп» зарэгістраваная 29.11.2005 года Мінскім аблвыканкамам са статутным фондам 500 рублёў. Асноўным відам дзейнасці кампаніі з'яўляецца агульнае будаўніцтва. Цікава, што з 2005 па 2017 год кампанія 7 разоў змяняла месцазнаходжанне свайго юрыдычнага адрасу: ад аграгарадкоў Калодзішчы і Хацежына, вёскі Вялікае Сціклева (усё Мінскі раён) да Лельчыцкага сельсавета Гомельскай вобласці, горада Ліда Гродзенскай вобласці і Магілёва.

Паводле дадзеных Міністэрства юстыцыі, заснавальнікамі «Маналіт Груп» з'яўляліся Яўген Чумак і Мікалай Ермашоў, які персанальна ачольваў кампанію да 2017 года (зараз кіраўніком з'яўляецца Сяргей Кутузаў). Агульны штат супрацоўнікаў кампаніі налічваў 1300 чалавек.

Адным з уласнікаў кампаніі «Маналіт Груп» на працягу амаль чатырох гадоў быў таксама іх бізнес-партнёр па «Рэалці Інжынірынг» Аляксандр Штоц.

Увесну 2016 года «Маналіт Груп» трапляе ў цэнтр скандалу, звязанага з назапашваннем кампаніяй вялізнай запазычанасці па выплаце заробкаў сваім супрацоўнікам у памеры 130 тысяч рублёў. Паказальна, што адбываецца гэта на фоне істотнага павелічэння прыбытку кампаніі. Паводле дадзеных Міністэрства фінансаў Беларусі, чысты прыбытак «Маналіт Груп» толькі за першы квартал 2016 года ў параўнанні з аналагічным перыядам 2015 года павялічваецца ў 4,2 (!) раза — з 360400 да 1510800 рублёў. Вялізная колькасць скрайне негатыўных водгукаў пра кампанію ад яе непасрэдных супрацоўнікаў, якія маюцца на сэрвісах ацэнкі дзейнасці працадаўцаў, цалкам адлюстроўвае гэтую сітуацыю.

Для вырашэння фінансавых праблемаў «Маналіт Груп» пачынае рэарганізацыю. Так, 30.11.2016 года шляхам выдзялення з яе ствараецца ТАА «Норд Канстракшн», на якую пераводзяць усю дэбіторскую запазычанасць. Аднак, паводле крыніцы onliner.by, кампанія не ініцыюе аніводнага судовага працэсу, каб вярнуць свае грошы. Падчас расследавання вызначана, што «Норд Канстракшн» фігуруе ў зводах за 2018–2019 гады ў якасці вінаваўцы ў эканамічных судах Мінскай, Гомельскай вобласці і Мінска з агульнай сумай пазыкаў звыш за 185 тысяч рублёў. У той жа час на інфармацыйным рэсурсе Вярхоўнага суда не знойдзеныя ініцыяваныя кампаніяй эканамічныя справы па вяртанні ўласных грошай ад контрагентаў.

Вядома, што асноўнымі вінаваўцамі «Норд Канстракшн» з'яўляліся чатыры кампаніі: ТАА «Магнус Груп», ТАА «Мінскі Дом Вокнаў», ТАА «Белінвест-інжынірынг» і ТАА «Кампанія Дрэўка». Першыя дзве зараз знаходзяцца ў працэсе ліквідацыі і мелі дачыненне да бізнесоўца Юрыя Чыжа, які выйшаў са складу ўласнікаў гэтых кампаніяў. Апошнюю, «Кампанію Дрэўка», што з'яўлялася адным з найбуйнейшых прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці, асабіста ачольваў Аляксей Ермашоў.

То-бок кампанія, звязаная з братамі Ермашовымі, мела запазычанасць перад іншай, выдзеленай з «Маналіт Груп». Фінансавы крызіс не абышоў бокам і «Кампанію Дрэўка», у дачыненні да якой у жніўні 2017 года Эканамічны суд Мінскай вобласці ўхваліў рашэнне пра прызнанне банкрутам і пачаў ліквідацыйны працэс. Крэдыторы маюць патрабаванні да «Кампаніі Дрэўка» на агульную суму 7.863.512,47 руб. (больш за 3,8 мільёна долараў).

Цікава, што пэўны час «Маналіт Груп» была зарэгістраваная менавіта ў будынку цэху дрэваапрацоўкі з пабытавымі памяшканнямі ў Лельчыцкім сельсавеце, на 61-м кіламетры трасы Р128 — там жа, дзе знаходзілася «Кампанія Дрэўка» і «Норд Канстракшн»!

У сакавіку 2017 года «Маналіт Груп» працягвае рэарганізацыю і выдзяляе з сябе яшчэ адну кампанію — ТАА «Кам'юніці Інжынірынг», якая практычна адразу пачынае рэалізацыю будаўнічых праектаў у Салігорску. Адзін з іх — будаўніцтва жылога дома на месцы стадыёна школы №2, якое, паводле інфармацыі мясцовай прэсы, выклікае шквал негатыўных эмоцый у жыхароў шахцёрскага горада. Паказальна, што гэтая наваствораная кампанія ўжо ў лістападзе 2017 года мела запазычанасць па плацяжах у бюджэт. Аднак гэта не перашкаджае будоўлі, кватэры для продажу ў гэтым доме прапануе ўжо іншы актыў Ермашовых — ТАА «Квадрат Груп».

У верасні 2017 года «Маналіт Груп» трапляе ў новы гучны скандал у Фаніпалі, звязаны з рэалізацыяй праекту пабудовы жылога дому «Моладзевы», які ператвараецца ў даўгабуд і які рэалізоўвае, збольшага, кампанія «Квадрат Груп». Абураныя інвестары запісваюць нават відэазварот да Лукашэнкі, аднак дом будуюць яшчэ на працягу года і ўводзяць толькі ў 2018 годзе.

На фоне паглыблення фінансавых праблем «Маналіт Груп» Мікалай Ермашоў, Яўген Чумак і Аляксандр Штоц у 2016 годзе выходзяць са складу яго заснавальнікаў, а ўсе іх долі пераходзяць згаданай вышэй расійскай ТАА «Рентал Финанс», якая на гэты момант з'яўляецца стопрацэнтным уласнікам кампаніі. Кіраўніцтва кампаніі спрабуе запэўніць сваіх крэдытораў, што новы расійскі ўласнік нібыта зможа вырашыць усе фінансавыя праблемы. Фінальным акордам робіцца змяненне ў сакавіку 2017 года добра вядомай крэдыторам назвы кампаніі «Маналіт Груп» на «ЖылРусБуд» (рас. 11. «ЖилРусСтрой») і вывядзенне кампаніі з заснавальнікаў «Прыбужскага кварталу».

Эканамічны суд Магілёўскай вобласці 28.12.2018 года ў адносінах да ТАА «ЖылРусБуд» ухваліў вызначэнне пра пачатак працэдуры банкрутства. Паводле матэрыялаў справы, кампанія мае запазычанасць перад бюджэтам у памеры 1551597,73 рублёў (больш за 720 тысяч долараў). Згодна з інфармацыяй onliner.by, агулам з «ЖылРусБуд» толькі з 2015 па студзень 2017 года судзіліся амаль 680 разоў!

Схема з вывадам са складу ўсіх заснавальнікаў кампаніі і заменай іх на замежную кампанію вельмі падобная да схемы, якую выкарыстоўваюць для пазбягання субсідыярнай адказнасці па пазыках, асабліва калі неплацежаздольнасць кампаніі ёсць вынікам дзейнасці яе кіраўніцтва. У гэтым выпадку, каб унікнуць пагрозы грамадзянска-прававога і крымінальнага пераследу ўласнікаў і кіраўніцтва кампаніі досыць часта яе новым гаспадаром робяць афшорную кампанію і прызначаюць новага кіраўніка-нерэзідэнта.

Прапануем чытачам пільна вывучыць далейшую інфармацыю і самастойна зрабіць выснову, ці адпавядае аперацыя з «Маналіт Груп» схеме пазбягання адказнасці.

**Працяг у наступным нумары**



**Скрыншот з відэазвароту да Лукашэнкі інвестараў ЖД «Моладзевы» ў Фаніпалі**

# Зорка Наталі Санько

Уладзімір АРЛОЎ

**У хуткаплыннасці сучаснага, перанасычанага падзеямі ды інфармацыяй жыцця здараецца так, што ты вельмі даўно знаёмы з некім, сустракаешся на літаратурных прэзентацыях і вернісажах, у рэдакцыях і выдавецтвах, але гэтае знаёмства не пераходзіць мяжы ўзаемапавагі і ветлівасці.**

Але аднойчы надыходзіць момант, калі як быццам нанова адкрываеш для сябе гэтага чалавека, і ягонае жыццё паўстае перад табой ува ўсёй сваёй шматфарбнасці і непаўторнасці. Высвечваецца сапраўдная значнасць асобы. Так у мяне адбылося з Наталяй, спадарожніцаю жыцця майго шматгадовага рэдактара і сябра Змітра Санько.

Наталя прыйшла на свет семдзясят гадоў таму ў старадаўнім украінскім горадзе Жоўква, вядомым сваім замкам, што быў рэзідэнцыяй манарха нашых продкаў — вялікага князя і караля Яна Сабескага. На пачатку XX стагоддзя Жоўква, якая тады разам з усёй Галіцыяй уваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі, «адзначылася» і ў гісторыі беларускай літаратуры. Менавіта там у базыльянскай манастырскай друкарні ў 1906 годзе Цётка (Алаіза Пашкевіч) выдала свае паэтычныя кнігі «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду».

Месца нараджэння, genius loci часта, калі і не прадвызначаюць лёс асобы, то, прынамсі, метафізічна ўплываюць на жыццёвы шлях. У Наталі ён будзе звязаны і з гісторыяй, і з кніжнаю справай.

Наталін бацька Міхаіл Шчука быў кадравым вайскоўцам родам з Лепельшчыны, маці Вольга (у дзявоцтве Дайнека) мела настаўніцкую адукацыю, а нарадзілася ў Клічаве. У 1955-м сям'я вярнулася на радзіму. Найбольш уразіла сямігадовую дзяўчынку тое, што ў беларускай сталіцы не размаўлялі па-беларуску. Гэтае зусім не радаснае дзіцячае адкрыццё пазней таксама адгукнулася ў лёсе — заўсёдным імкненнем адстойваць спрадвечнае, роднае.

Спатоліць яшчэ неасэнсаванае дзіцячае прыцягненне да беларускага слова Наталі дапамагала клічаўская бабуля, добрая пяюха Паліна, што на радасць дзецям і ўнукам пражыла больш за сто гадоў. Асабліва, як згадвае ўдзячная ўнучка, ейную душу кранала народная песня «Я пасею агурочкі».

Можна сказаць, што ўжо з тых далёкіх часоў Беларусь сталася для Наталі зоркаю, якая вяла яе па жыцці.

Пасля школы, закончанай са срэбным медалём, Наталя паступіла на біялагічны факультэт БДУ, дзе спецыялізавалася на кафедры біяхіміі і біяфізікі. Там і пазнаёмілася з будучым мужам Змітром Санько, які стане вядомым выдаўцом і асветнікам-адраджэнцам.

Трапіўшы па размеркаванні ў Беларускі навукова-даследчы інстытут гематалогіі і пералівання крыві, Наталя выявіла схільнасць да эксперыментаў і атрымала некалькі патэнтаў на вынаходкі. Яна падрыхтавала дысертацыю на «закрытую» тэму (экспрэс-метад вызначэння характарыстык крыві ў палявых умовах), аднак заняткі навукай саступілі месца іншым клопатам і інтарэсам.

На пачатку 1970-х разам са Змітром Наталя ўвайшла ў нонканфармісцкую творчую суполку «На паддашку». Яе пасяджэнні адбываліся ў майстэрні мастака Яўгена Куліка, што месцілася пад дахам дома, які стаяў на галоўным менскім праспекце акурат насупраць будынку КГБ. Ва «ўсёмагутным» ведамстве і не падазравалі, што побач з ім збіраецца інтэлігенцыя з выразнымі апазіцыйнымі поглядамі: Зянон Пазьняк, Лявон Баразна, Міхась Чарняўскі, Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, Міхась Раманюк, Алесь Разанаў...

«На Паддашку» не толькі абмяркоўвалі палітычную і культурную сітуацыю ў краіне. Там нараджаліся ідэі спачатку культурніцка-асветных, а затым і палітычных акцый і праектаў. Наталя Санько брала ўдзел у арганізацыі мастацкіх выставаў да 100-годдзя з дня нараджэння Цёткі (згадаем дзяцінства нашай гераіні ў Жоўкве) і да 500-годдзя аўтара знакамітай «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, якія прагучалі як выклік афіцыйнаму мастацтву.

Калі вам у рукі патрапіць тагачаснае выданне «Песні...» з ілюстрацыямі Яўгена Куліка, ведайце: беларуска ў традыцыйным строі з дачушкай на руках, што знаходзіцца ў цэнтры аднаго з графічных аркушаў, — гэта Наталя.



З Радзімам Гарэцкім на прэм'еры оперы Яна Голанда «Чужое багацце нікому не служыць». 7 ліпеня 2009 г. Фота з сямейнага архіва

Разам з мужам ды іншымі аднадумцамі яна ўдзельнічала ў падрыхтоўцы першага, нелегальнага, выдання працы Міколы Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа», якая ўвайшла ў гісторыю беларускага самвыдату і спрычынілася да плённай навуковай дыскусіі пра ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Праблемаў была безліч. Можна пачаць з таго, што ў савецкія часы ўсе друкавальныя машынкі стаялі на ўліку ў спецслужбаў, а памнажэнне непадцэнзурных «крамольных» тэкстаў (нават пад звычайную капірку) каралася паводле Крымінальнага кодэксу і магло прывесці ў турму.

Але з дапамогаю сваякоў набылі ў Смаленску машынку, Наталіна маці дамовілася з майстрамі, што крыху выраўнялі шрыфт і паставілі беларускія літары «ў» ды «і». Калі машынапісны тэкст быў памножаны на ратапрынце і набыў выгляд нечага накшталт шпалерных рулонаў, Наталя і Зміцер зноў і зноў раскочвалі тыя рулоны па кватэры і выразалі нажніцамі старонку за старонкай. Якая гэта нялёгкая і карпатлівая праца, ведаю з уласнага досведу: мы з сябрам, цяпер вядомым пісьменнікам Вінцэсем Мудровым, таксама займаліся самвыдатам і разам з маёй маці шмат дзён разразалі, да прыкладу, рулоны з «Расійска-крыўскім (беларускім) слоўнікам» Вацлава Ластоўскага.

Жыццё Наталі Санько ўсё больш звязвалася з кнігавыдавецкай справай. На пачатку 1990-х яна супрацоўнічала з выдавецтвам «Беларусь», якое распачало выпуск беларускамоўнага адрыўнога календара «Родны край» (пасля Другой сусветнай вайны такія календары не выходзілі). Наталя рыхтавала для «Роднага краю» нататкі пра славутых суайчыннікаў, і гэта была ўдзячная праца, бо каляндар выходзіў 100-тысячным накладам.

**Калі вам у рукі патрапіць тагачаснае выданне «Песні пра зубра» з ілюстрацыямі Яўгена Куліка, ведайце: беларуска ў традыцыйным строі з дачушкай на руках, што знаходзіцца ў цэнтры аднаго з графічных аркушаў, — гэта Наталя**



Наталя ў традыцыйным строі (з калекцыі Міхася Раманюка) з дачушкай Ясяй. 1979 год. Фота Яўгена Куліка

Не пабаюся сказаць, што Наталя Санько адна з першых у нашай краіне асвоіла персанальны кампутар, які толькі пачынаў заваёўваць пазіцыі ў выдавецкім працэсе. Яна стварыла макеты такіх папулярных кніг, як «Дзесяць бітваў» Міхася Чарняўскага, «Адкуль наш род» (Уладзімір Арлоў) і «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» (ён жа ў суаўтарстве з Генадзем Сагановічам. Бліскуча справілася Наталя са складаным макетаваннем кнігі «150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі», вельмі патрэбнай ва ўмовах невысокага ўзроўню гістарычнай свядомасці нашага грамадства.

Шчырая падзяка належыць Наталі і за ўдзел у падрыхтоўцы выдадзеных шматтысячнымі накладамі ілюстраваных выданняў «Краіна Беларусь» і «Вялікае Княства Літоўскае» (Уладзімір Арлоў і мастак Зміцер Герасімовіч) і нядаўняй кнігі «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі» (Уладзімір Арлоў і мастак Павел Татарнікаў).

Калегі і навукоўцы адзначаюць неацэнны ўклад Наталі Санько ў факсімільнае выданне легенды нашага Адраджэння пачатку XX стагоддзя — першай масавай беларускай газеты «Наша Ніва». Наталя здзейсніла сапраўдны подзвіг, некалькі гадоў скануючы, рэтушуючы і рэстаўруючы старонку за старонкай. За гэтую тытанічную працу ніхто не хацеў брацца: стан шматлікіх выпускаў газеты быў проста варты жалю, а калі казаць пра нумары 1920 года, то там даводзілася працаваць амаль што з кожнай літарай.

Усе, хто ведае Наталю, захапляюцца шырынёй і рознабаковасцю яе поглядаў і зацікаўленняў.

Яе здаўна вабілі таямніцы Сусвету, і — прызнаецца Наталя — калі б выбірала прафесію цяпер, то магла б звязаць жыццё з даследаваннямі космасу. Спіс прачытанай ёю літаратуры па касмагоніі і касмалогіі заняў бы, відаць, не адну старонку.

Наталя наогул надзвычай таленавіты чытач. Апрача згаданай вышэй літаратуры, яна чытае і перачытвае беларускую і замежную класіку, вельмі шануе дэтэктывы, дзе на першым месцы ў яе раманы Агаты Крысці.

Не раз мы сустракаліся з Наталяй у Купалаўскім тэатры — на «Тутэйшых», «Пінскай шляхце», «Паўлінцы», на прэм'ерах у Тэатры беларускай драматургіі, на джазавых канцэртах.

Найбольш шчаслівай Наталя адчувае сябе, вядома, у коле сям'і, дзе радуюць дачка Яніна і сын Кастусь ды светлая зорачка — унучка Міхаліна. Для іх і для мужа Змітра (ён кажа, што зусім не гурман, але ад жончынага кулінарнага таленту бывае ў захапленні) Наталя гатуе на святы і без усякіх святаў непаўторныя мачанкі, бабкі, дранікі... Непаўторныя, бо тут таксама выяўляецца даўняя схільнасць «аўтаркі» да эксперыментаў: у традыцыйных рэцэптах узнікаюць самыя нечаканыя інгрэдыенты.

А яшчэ мне цяжка ўявіць Наталю без кветак. У яе дома — маленькі, але вельмі густоўны ружоўнік і цудоўная калекцыя архідэяў. Няхай гэтыя кветкі радуюць яе яшчэ доўга-доўга!

***P.S.** Цяпер, дарэчы, Наталя Санько рыхтуе для «Новага Часу» артыкул пра слоўнікі нашага знакамітага рэлігійнага і грамадскага дзеяча, гісторыка і аднаго з інтэлектуальных лідараў паваеннай беларускай эміграцыі архімандрыта Льва Гарошкі.*

Новы Час | 29 сакавіка 2019 | № 12 (623) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №3



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (151)
(сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



## Змест



# Права выбару,
## або Як я позна адчула сябе беларускай



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

**Сёння мы разгублена здзіўляемся: «Што здарылася з нашымі дзецьмі?»! Што штурхае іх на нематываваную жорсткасць, бессэнсоўнае забойства кагосьці ці сябе. А жорсткасць, непрыманне іншага, непадобнага, незразумелага — ёсць фашызм, і прыжываецца ён у тым грамадстве, дзе зруйнавана права ВЫБАРУ.**

Выбару поглядаў, слова, мовы, думкі, інфармацыі, праўды. Дзе навязліва, з года ў год дэманстратыўна культывуецца фізічная моц, перавага «рэжымнай сілы» і гарлапанства над законам, правамі, доследам і доказам, «удалблівaецца» адзінамагчымае падпарадкаванне адной асобе, аднаму напрамку, аднаму голасу, аднаму кулаку, адной хлусні. І нікуды не схавацца ад гэтай навалы, і не магчыма супрацьстаяць ёй без моцных каранёў.

Перад развалам СССР мы сям'ёй адпачывалі за Ленінградам, у Каннэль-ярвэ. Менавіта там мне выпадкова адкрыўся сакральны сэнс слова *карэнны*. Эканамічны стан дзяржавы пагаршаўся на вачах: карткі, купоны, адсутнасць прадуктаў, фальшывыя грошы, падробка на прылаўках, засілле жулля, прайдзісветаў. І сярод гэтай багны і хаосу нам сустракаліся па сапраўднаму харошыя, чыстыя людзі. Карэнныя жыхары тых мясцін. Яны імкнуліся выручыць, дапамагчы, запрашалі ў дом, давяралі ключы, прапанавалі карыстацца іх пашпартамі. Я адмаўлялася — настойвалі: «Як вы з траімі дзецьмі даедзеце ў Беларусь. Нават ежы не купіш на дарогу». Потым я зразумела, чаму кожная таталітарная бесчалавечная сістэма заўсёды і абавязкова вяла, вядзе і будзе весці вайну з карэнным насельніцтвам, асабліва прыгнечаных краін, будзе праводзіць гвалтоўнае перасяленне народаў, будзе змагацца з любой праявай нацыянальнай адметнасці і самаўсведамлення, бо *карані* не даюць упасці долу, дапамагаюць выстаяць у вятрах і бурах, даюць магчымасць быць абазнаным, заставацца *сабой* і на *сваім* месцы.

Мяне быццам не існавала да нейкага моманту, да таго часу, калі пачало нарэшце даходзіць, што жыву я не ў СССР, а ў сваім краі, што я не дробязны вінцік велізарнага агрэгату, у чэрава якога дзеля застрашвання людзей усяго свету ваеннай магутнасцю патрабуецца закідваць энергетычнае паліва ў выглядзе ўсё новых і новых ахвяр: знішчэнне цэлых народаў, людскіх сіл, жыцця, здароўя, працы, творчасці, шчасця...

Адкрылася нечакана, седзячы на першым міжнародным конкурсе піяністаў, які адбываўся ў Беларусі («Мінская вясна-1996»... я, шматдзетная маці, адукаваны чалавек, дырэктар музычнай школы, празаік (мела публікацыі ў рэспубліканскіх выданнях), мастак (з персанальнымі выставамі), далёка не цёмная істота сярод свайго атачэння, раптам адчула: у нас, у Беларусі, ёсць *свая* культура, свае музыканты, кампазітары, пісьменнікі, паэты, мастакі, навукоўцы?! Далібог, амаль палову жыцця я пакутліва ўтойвала любоў да «малой радзімы» як хваравлівую няздольнасць адрачыся ад рудыментаў дзікунства, саромелася ўсяго свайго, нацыянальнага да чырвані на твары. Так цвёрда добрасумленная, паслухмяная школьніца засвоіла ўрок: я ўсяго толькі другасны элемент вялікага і магутнага. Недачалавек, якому, каб наблізіцца да правамоцных абранага грамадства, неабходна пазбавіцца сябе, сваёй радзіннасці, сваёй мовы, сваёй радасці і смутку, бо яны чамусьці саромныя, няправільныя. Ад нараджэння я адчувала калецтва свайго паходжання. З гэтым адчуваннем пачала зжывацца ад першага класа школы, у якую так імкнулася, так спяшалася па веды і... спатыкнулася з веданнем таго, што я — не я, і ўсё, што лічыла сабою — не мае ніякай вартасці. Перш за ўсё мяне перайменавалі ў школе з Люсі ў незнаёмую Людмілу, і я, не любячы новага імя, балюча саромелася свайго ранейшага. Да таго ж, змусілі размаўляць інакш, не так, як сем гадоў размаўляла ў сваёй сям'і. Чаму?! Чаму?!

*Беларуская мова — гэта мова беларускага народа, а не апазіцыі.*

*Шкада, што толькі апазіцыя гэта разумее...*

Фота www.twitter.com

Гэта цяпер у Глыбокім аж тры школы, і ніводнай беларускамоўнай, але ўжо ніхто не шкадуе і не пытаецца ў кіраўніцтва краіны: «Чаму?!»

Супала так, што ў той навучальны год, калі я стала першакласніцай, школа спраўляла наваселле ў новым, добра па тым часе ўладкаваным будынку. Школу адразу, яшчэ ў працэсе будоўлі, называлі рускай. А «старая», якая месцілася ў некалькіх маленькіх будынках былой канюшні, лічылася беларускай. Пакрыўджаныя бацькі дзяцей, якіх не пусцілі ў новую школу, узгневаліся, пачалі выказваць нязгоду. Хтосьці хітра-разумны зверху імгненна скумекаў, як накіраваць «негодование и ропот в нужное русло», каб адразу забіць двух зайцоў: суцішыць бацькоў і пазбавіцца ад шкоднай мовы. Да бацькоўскага сходу «старой» школы выкладчыкаў падрыхтавалі, яны «сталі гарой за інтарэсы дзяцей», «выказвалі за бацькоў думкі».

**Мяне быццам не існавала да нейкага моманту, да таго часу, калі пачало нарэшце даходзіць, што жыву я не ў СССР, а ў сваім краі, што я не дробязны вінцік велізарнага агрэгату**

«Доколе мы ходить будем в невеждах? Это как же наши дети будут поступать в вузы? Да их с такой неразвитой речью, косноязыких, не пустят на порог заведений! Неужели нашим детям веками оставаться дремучей деревенщиной!? Вторая школа — русскоязычная! А нам — дурманить детям головы этой мовай?»

Сход скіравалі ў іншы напрамак, бацькоў напалохалі: якая ўжо там школа нумар два, з «навaротамі», трэба дзяцей ратаваць ад цемрашальства! Пра сцюдзёны дашчаты туалет наводшыбе ў цемры, пра тое, што з урока на ўрок прыйдзецца вучням перабягаць праз двор, бо мала, што школа месцілася ў двух адасобленых будынках, — майстэрні, ваенны кабінет, сталовая — усё размяшчалася ў маленькіх дамках, а дзеці, вядома, палянуюцца кожны раз апранацца і будуць бегаць без паліто, і будуць часта хварэць... І шмат, шмат пра што іншае ўжо ніхто не ўспамінаў. Бацькоў падбухторылі. Бацькам ДАЗВОЛІЛІ баставаць супраць роднай мовы. Яны і забаставалі. У 1965 годзе!.. У Савецкай Беларусі!..

Мая мама жадала сваёй дачцэ «шчаслівай будучыні» і далучылася да рускіх «забастоўшчыкаў». У класе было нямала рускіх дзяцей: Глыбокае заўсёды мела шмат заводаў і прадпрыемстваў, а кіраваць імі на ўсіх узроўнях «здольнымі выяўляліся» толькі рускія.

Палова класу ўсё ж наведвала беларускамоўныя ўрокі. А я сядзела невукам дома яшчэ два тыдні. Нарэшце дачакалася! Адвялі мяне ў клас, пасадзілі за парту.

— Дети, что вы видите на картинке? — настаўніца торкнула ўказкай у плакат.

Прыгожанькі чарнявы хлопчык аж падскочыў, трасучы паднятай рукой, так хацелася яму адказаць перад новымі дзецьмі. Ён хадзіў на ўрокі...

— Качка!

— Нет, Миша, неправильно, с сегодняшнего дня ты должен отвечать: «Утка».

Гэта быў першы і апошні адказ на ўроках Мішы Грыцкевіча, хлопчыка з маленькай вёскі Жураўнёва. Я вучылася з ім да восьмага класа, мы сядзелі побач, цераз праход, яго выклікалі — Міша ўставаў з-за парты, таропіў вочы ў падлогу, дуркавата ўсміхаўся і ўпарта маўчаў. Атрымліваў чарговую «цугу» (так мы казалі пра двойку), сядаў і бубнеў выдатна вывучаны матэрыял сам сабе пад нос. На Новы год у сёмым класе Міша прыслаў мне паштоўку з прызнаннем у каханні, не ад свайго імя, ад Дзеда Мароза, але хіба хто яшчэ ў той час прызнаўся б у каханні на роднай мове, акрамя Мішы? Да сёмага класа мы ўжо ўсе парабіліся «нямымі», «актыўна, аж ад пятага! класа, ажно па дзве гадзіны ў тыдзень!» вывучаючы родную мову.

Працяг на стар. 9 (3) »




# Стыпендыі імя Магдалены Радзівіл

**У офісе Саюза беларускіх пісьменнікаў былі ўганараваныя новыя стыпендыянткі Прэміі імя Магдалены Радзівіл: паэткі Вольга Гронская, Марыя Мартысевіч і Ларыса Раманава.**

Стыпендыя імя Магдалены Радзівіл для пісьменніц і перакладчыц, заснаваная Саюзам беларускіх пісьменнікаў у 2017 годзе, прызначаная на творчую працу і ўручаецца раз на год. Узрост аўтарак, намінаваных на яе, не абмяжоўваецца.

Спіс кандыдатак і імёны пераможцаў абіраюцца Радай стыпендыі, у склад якой уваходзяць Святлана Алексіевіч (старшыня Рады), Уладзімір Арлоў, Алена Макоўская, Барыс Пятровіч (Сачанка) і Юлія Чарняўская.

У мінулыя гады стыпендыяткамі станавіліся: Таццяна Барысік, Алена Брава, Вера Бурлак, Ярына Дашына, Наста Кудасава, Дар'я Ліс.

**Прэс-служба СБП**

# Сёмы нумар «Новага замка»

**Пабачыў свет сёмы выпуск літаратурнага альманаха Гродзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Новы замак».**




Галоўны рэдактар і ўкладальнік выдання Янка Трацяк адзначыў, што ўпершыню альманах выйшаў на 277 старонках, а гэта на трыццаць пяць старонак больш, чым ранейшыя.

«У альманаху шмат надрукавана твораў новых аўтараў, якія жывуць у Прынёманскім краі ці родам з Гарадзеншчыны, а гэта — Святлана Адамовіч, Ганна Крофта, Раіса Раманчук, Таццяна Яцук, Таццяна Валенцік, Надзея Чукічова і іншыя. Пашырылася і колькасць літаратурных рубрык. Нумар, мяркую, атрымаўся разнастайным і цікавым», — сказаў Янка Трацяк.

Сапраўды, «Новы замак» горадзенскіх літаратараў парадуе не толькі аўтараў, але і чытачоў. Бо ў ім ёсць што пачытаць, пачынаючы ад прозы старога горада Віктара Варанца да хронікі літаратурнай Гарадзеншчыны за 2018 год, якую падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч. З новымі вершамі і празаічнымі творамі чытачоў знаёмяць Святлана Абдулаева, Святлана Адамовіч, Юрка Голуб, Галіна Самойла, Сяргей Чыгрын, Уладзімір Васько, Рычард Бялячыц, Мікола Кантановіч, Іван Буднік, Янка Трацяк, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Валянцін Дубатоўка, Альжбета Кеда, Віктар Шалкевіч і многія іншыя гарадзенскія літаратары.

Па-беларуску ў альманаху можна прачытаць творы Мікалая Гумілёва, Жака Прэвера, Юльяна Тувіма, Ільдэфонса Галчыньскага. На суд чытачоў свае ўспаміны вынес Аляксей Пяткевіч; пра Ігара Жука і яго творчасць успамінаюць і распавядаюць Людміла Сінькова і Анжэла Мельнікава. Павел Сцяцко даследуе онімы творцаў Гарадзенскай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў і сталых аўтараў «Новага замка». Сяргей Чыгрын друкуе сваю перапіску з Алесяй Бабарэка — дачкой вядомага беларускага пісьменніка Адама Бабарэкі. Алесь Бельскі разважае пра жыццёвы і творчы шлях Сяргея Чыгрына.

Гумарыстычныя творы ад Юркі Голуба, Святланы Адамовіч, Івана Будніка, Янкі Трацяка, Ладзіка Майніча прымусяць усміхнуцца ўсіх, хто гэтыя сатыру і гумар прачытае. З дзіцячымі творамі на старонках «Новага замка» выступаюць Раіса Раманчук і Галіна Самойла.

Першая прэзентацыя «Новага замка» адбылася 23 сакавіка.

**Барыс Баль, Радыё Рацыя**

# Дзённікі Барадуліна 1989–1991 гадоў

**2 сакавіка споўнілася пяць гадоў з дня смерці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. За некалькі дзён да гэтай даты выйшла ягоная новая — пятая — кніга дзённікаў.**



Натальля Давыдзенка (Courtesy Photo)

Яе героі — і партыйныя функцыянеры Яфрэм Сакалоў, Мікалай Слюнькоў, Мікалай Дземянцей, і нацыянальная эліта: Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш, Алесь Адамовіч, Генадзь Бураўкін, Карлас Шэрман, Зянон Пазьняк...

На думку даследчыцы і ўкладальніцы барадулінскіх «Дзённікаў і запісаў» Наталлі Давыдзенкі, 1989–1991 гады — бадай, самы цікавы перыяд і ў гісторыі Беларусі, і ў дзённікавых нататках Рыгора Барадуліна.

«Гэта новыя часы, гэта новы голас Барадуліна. Гэта не дзядзька Рыгор памяняўся — змяніўся час. І тут ужо больш «укручанасці» ў грамадскія справы. Але шмат гумару, іроніі — калі б Барадулін мог перачытаць тое, што тут ёсць, — сам бы дзівіўся і рагатаў», — кажа даследчыца ў інтэрв'ю «Свабодзе».

«Кожны новы дзень прыносіў немагчымыя яшчэ ўчора падзеі і здарэнні: «перабудова», «дэмакратыя», «галоснасць», мітынгі і шэсці — на Курапаты, у гадавіну Чарнобыля, Першы з'езд народных дэпутатаў у Маскве... Перад Домам урада галадае (!) рабочы, які патрабуе, каб ягоную тэлеграму зачыталі на з'ездзе. Рыгор Барадулін — сябра БНФ і ўдзельнік ягоных Соймаў. Камуністы пачынаюць здаваць партыйныя білеты... Новы час дае падставы і для новых сатырычных тэм: у «Вожыку» друкуюцца эпіграмы на вядомых персон, набіраюцца вясёлыя і з'едлівыя нізкі «Дзіцячыя цвялілкі для дарослых», «Хвіліны мычання. Жывёльная лірыка» ды іншыя, якія не заўсёды трапляюць у друк, застаючыся ў рабочых блакнотах», — піша ў прадмове да выдання ўкладальніца «Дзённікаў і запісаў» Наталля Давыдзенка.

Лёс звёў юную рэдактарку Наталлю Давыдзенку і ўжо знакамітага паэта Рыгора Барадуліна на пачатку 1980-х, калі Наталля прыйшла працаваць у выдавецтва «Мастацкая літаратура».

«У нас зболышага быў жаночы калектыў і два хлопчыкі, як мы іх тады называлі, — Рыгор Барадулін і Васіль Сёмуха. Гэта былі залатыя часы. І так па жыцці мы пасябравалі... Вы нават не ўяўляеце, колькі ў Барадуліна было запісаў, нататнікаў, працоўных блакнотаў, папер, тэчак, перапісак! І я даўно казала яму: трэба здаваць рукапісы ў архіў, бо завалы былі — да столі. Нешта я разбірала, выпісвала, сістэматызавала», — узгадвае Наталля Давыдзенка.

І ўжо ў 2000 годзе дзядзька Рыгор з жонкай, Валянцінай Міхайлаўнай, калі ўсе ўжо не працавалі ў дзяржаўных выдавецтвах, запрасілі Наталлю Давыдзенку ў госці ў Вушачы.

«Там таксама было шмат папер. І трапіў мне дзённічак, які падлетак Рыгор пісаў у 8-м класе. Сціплы такі сшытачак. Гэта быў штуршок! І там жа я знаходжу студэнцкі дзённік, 1955–56 гады: вучоба ў БДУ і цаліна. А потым ужо сістэматызаваных дзённікаў не было, былі нататкі, зацемкі. І пачалася апантаная праца», — згадала Наталля Давыдзенка.

У 1970-я Барадулін пачаў ездзіць у Прыбалтыку, а там былі ўжо такія невялікія штодзённічкі, у якіх ён рабіў працоўныя нататкі: каму патэлефанаваць, што зрабіць. Але гэта было фрагментарна. Таму матэрыялы для першых чатырох тамоў даводзілася збіраць і сістэматызаваць з бязлічы крыніцаў: з працоўных нататнікаў, лістоў, зацемак на палях рукапісаў. А вось з 1989 года Барадулін пачаў весці дзённікі ў «чыстым» выглядзе, кожны дзень занатоўваў падзеі, сустрэчы.

— Спадарыня Наталля, з аднаго боку, дзённік — рэч асабістая, прыватная, у нечым нават інтымная. Ці даводзілася вам, рыхтуючы дзённікі да друку, нешта цэнзураваць, рабіць купюры, штосьці «не даваць»? Да таго ж, Барадулін яшчэ вельмі востры на язык...

— Ведаеце, у першых чатырох тамах — амаль не. Было звычайнае савецкае жыццё. А пачынаючы з пятага тома, з 1989 года, у нас усё перакулілася. І гэта выявілася і ў запісах Барадуліна. З 1989 года ён піша кожны дзень. Дый паездак хапае — і ў Кіеў, Маскву, краіны Балтыі, у Кітай, у Парыж. Пяты том — пераломны... Вы запыталіся пра купюры. Ён мог вельмі эмацыйна выказацца. Мы з ім крыху паспелі абгаварыць, што даваць, а што не. Бо дзённікі ён пісаў толькі для сябе. Я разумела, з чым магу сутыкнуцца, я ж не гаспадыня, прывыкла аўтараў паважаць. І частку нейкіх момантаў асабістага жыцця, згадак пра людзей я не ўключала. Я старалася далікатна падаваць матэрыял, але, наколькі гэта магчыма, не «прыгладжваючы» аўтара. Мы з ім абгаварылі, што абразлівыя эпітэты ў кнізе не павінны быць. Кожны чалавек можа пакрыўдзіцца на, здавалася б, любую драбязу. Але ёсць у Барадуліна рэзкія ацэнкі, досталося ўсім: і сваім, і чужым, камуністам, бальшавікам, недэмакратам, нават ветэранам — «прыпячатаць» ён мог. Ён быў з такім фантастычным чуццём нават не да слова, а да гуку. Як ён умеў перарабляць прозвішчы! Часам я не магла гэта падаць — ён жа не сябраў перайначваў, ну проста не ў брыво, а ў вока. Часам я змякчала, як магла. Некалькі разоў ставіла шматкроп'і замест прозвішчаў. У яго безліч эпіграм, прысвячэнняў, віншаванняў, і не толькі сяброўскіх. Яго ж прасілі, і ён пісаў, вельмі арыгінальна. У мяне іх цэлыя тэчкі. Немагчыма апублікаваць усё, але было б цікава.

**Іна Студзінская, Радыё Свабода.**

**Друкуецца ў скароце**

# «Паэты планеты» ў Брэсце



**У Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. Пушкіна прайшла прэзентацыя серыі «Паэты планеты», што выходзіць у выдавецтве Зміцера Коласа.**

У сустрэчы бралі ўдзел Лявон Баршчэўскі, Зміцер Колас, Барыс Пятровіч, Алесь Разанаў. Публіцы былі прадстаўленыя некаторыя выданні з перакладной серыі. Усяго пабачылі свет 53 кнігі аўтараў з розных краін свету. На сустрэчы прысутнічалі аматары паэзіі, сябры абласной філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў, навучэнцы брэсцкіх ліцэяў.

Другая сутрэча, што мелася адбыцца ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце, на жаль, была ў апошні момант адмененая адміністрацыяй гэтай навучальнай установы. Такім чынам, са студэнтамі-філолагамі не змог сустрэцца нават славуты выпускнік гэтай ВНУ Алесь Разанаў.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Права выбару,

## або Як я позна адчула сябе беларускай

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1 (7)**




Каб мысліць і разважаць, мову трэба адчуваць генетычна і адмалку пашыраць слоўны запас з яе багатай скарбонкі. Школьнае ж вывучэнне чужой мовы мала таму спрыяла, ва ўсялякім разе, у школе тых гадоў і таго моўнага стану грамадства. Мы сталі самымі звычайнымі «быдлосамі»! Мы саромеліся сваёй мовы, а я яшчэ і свайго імя, бо ў галаве засела: усяго, што дома, трэба стыдацца. І я стыдалася. Маці дабаўляла: «Чаму ты, дачушка, не гаворыш, як Зоя? Па-руску. Красіва!» І гэта мне гаварыла мая мама, геніяльная казачніца... Яна так умела распавядаць, знаходзіла такія трапныя беларускія словы, што да гэтай пары не ўсе магу згадаць. А мне рабілася балюча ўдвая. Чаму я павінна гаварыць, «як Зоя», значыць, я не такая харошая, і мяне нельга любіць, як Зою, да таго ж ува мне расло і шырылася штосьці ўпартае наконт мовы. Не хацела крыўляцца, пераймаць чужыя словы, фразы.

Маё навучанне супала, да ўсяго, з адукацыйным эксперыментам!.. Нашым першым і другім, і наступным падручнікам стала «Родна́я речь» (зусім не ро́дная!), на кожнай старонцы, у кожным апавяданні чужыя, нязвычныя словы гнялі-палохалі дзіця, прыніжалі невядомасцю, прымушалі адчуваць сябе другасортным «отныне и впредь, то бишь, повсеместно, сплошь и рядом, чай, ведь, не здешнего-то макара...». Мы спявалі толькі рускія песні, глядзелі рускамоўныя фільмы, чыталі рускія газеты і часопісы, чулі толькі пра рускіх артыстаў, спевакоў, музыкантаў. Беларуская мова ў нашым жыцці з'явілася толькі на пятым годзе навучання на дзве гадзіны за тыдзень, і сустрэлі мы яе ўжо не любімай, не чаканай, а прыстарэлай дзеўкай-векавухай, дзеревеншчыной.

У сёмым класе нас павезлі на экскурсію ў Віцебск, вадзілі ў музей Шмырова. Нам распавядалі пра партызанскага камандзіра Бацьку Міная. Не пажадала сумясціцца ў маёй галаве геройства з ахвярай — чацвёра дзетак! Прасцей было б зразумець, каб не прадстаўлены фотаздымкам на цаглянай сцяне факт: Бацька Мінай са сваёй новай жонкай-каханкай вясёлыя, сытыя ў абдымку на санях па снезе з гармонікам. Ці здольны нармальны чалавек без паталагічнай цягі да ўлады, без маніякальнага пачуцця значнасці і гіпертрафіраванага гонару дазволіць чужым людзям «велічаць» сябе БАЦЬКАМ?

Пра ўсё так хацелася дазнацца, запытацца, а як?! У каго?! Чамусьці ў нашых мясцінах людзі не любілі партызан. Лічылі, што ў лесе хаваліся ад вайны, прыходзілі ноччу, каб адабраць апошняе, помсцілі аднасяльчанам, з кім да вайны мелі нязгоду, забівалі сведак, узрывалі цягнікі, якімі везлі гвалтам схопленых на працу ў Нямеччыну людзей. Мамін малодшы браток Паўла шаснаццаці гадоў пайшоў у самым канцы вайны з вёскі Прыпернае ў Глыбокае шукаць работу і не вярнуўся. (Да гэтага часу ніхто з радні не ведае, дзе дзеўся хлопец.) Той парой хапалі жыхароў раёна на вываз у Нямеччыну, магчыма, папаўся і Паўла. Партызаны падарвалі цягнік. За падрыў выстраілі немцы ў шыхт вяскоўцаў і на «айн, цвай, драй...» забілі кожнага чацвёртага, ім аказаўся і Міша, малодшы браток майго бацькі. І як разабрацца ва ўсім: дзе дабро, дзе зло, што праўда, што памылка? Не насмелілася я тады запытацца пра ўсё ў класнай. Уяўляю, што б яна адказала! Не адну сваю думку ў стадыі зіготы загубіла я ад боязі аказацца «няправільнай», смешнай, незразумелай, няздольнай знайсці слова, каб выказацца. Бо сваёй мовы ўжо амаль не памятала, а новую паспрабуй адчуць так, каб розумам і душой разважаць на ёй. А ў восьмым я скончыла школу, паступіла ў музычную вучэльню, дзе праграма па макаўку перапоўнена спецыяльнымі навукамі, і не да мовы там...

Выкладчыкі беларускай мовы ў школе, ды і ў вучэльні, абавязкова пачыналі ўрокі са здзеклівага правіла, складзенага на рускай: «В белорусском языке всё как слышится — так и пишется». Гэтую лухту потым паўтараў кожны дурань! Такая багатая, самаўтваральная складаная мова — і так проста?! «Как слышится...» Дык жа, калі «слышится», а калі думаць і разважаць? Ці гэта нікому і не трэба, не абавязкова — «што загадана, тое і пішы!?»

Пры паступленні ў музычнае вучылішча педагог запытаўся ў мяне, адкуль вытокі майго таленту, ці не было сярод продкаў музыкантаў, я адказала — не, не было. Ён надта здзівіўся: «Так бывае рэдка, каб на няўродным месцы ды штосьці вырасла». А ў сям'і майго дзеда (па маці) Юстына было семера дзяцей, яны рабілі сваімі рукамі цымбалы, балалайкі, скрыпкі, дудкі, правілі гармонікі, маглі граць на любым інструменце без навукі, адразу «з вуха»! На маіх вачах мама, ўпершыню ўзяла ў рукі балалайку, наладзіла строй і сыграла матыў без пярэдняй спробы. А я адказала педагогу: «Не было музыкантаў!» «А якія ж гэта музыканты?! — думалася мне без кроплі сумневу. — Мужыкі-беларусы, цемната!» Так мне ўдаўблівалі ў галаву ўсё маё жыццё. Як жа мне сорамна, як балюча за той ганебны адказ перад усімі маімі продкамі, якіх я не бачыла, бо ў мяне не было жывых бабуль і дзядоў. Толькі пад склон жыцця пачала разумець, якія гэта былі людзі: добрыя, дружныя, сціплыя, якімі чулымі былі мужчыны з роду Юстына!

Напэўна, адным з самых згубных для беларускай мовы і культуры стаў час, калі Пётр Машэраў, жадаючы вызваліць сялян, замест таго, каб зрабіць больш заможным і перспектыўным жыццё ў вёсцы, распусціў моладзь па гарадах. І пайшлі «новаспечаныя гараджане» ствараць «новую культуру». Скараспелыя на абрусенне «недачалавекі», каб адчуць сябе роўнымі, сарамліва глытаючы нязвычныя для генетычна абумоўленай артыкуляцыі гукі, спяшаліся «загергатаць» з вульгарным акцэнтам, які (проста як на пасмешышча!) прыжыўся ў народзе і закаранеў трывучым пустазеллем: «Гаварат, пракрасна жывём! Моат быць, моат быць... Харошанькава — па нямношку! Сіводня такой празнік, такоя шоу устроили, лучшэ, чэм вчэра и пазавчэра! Вааще, харэ балдзэц, рэбята! Кахда ужэ прэкрацацца разгаворчыкі этай горсткі недавольных!» — аднолькава абражаючы Купалу і Пушкіна. Я не хацела *так* размаўляць. Мой нявёрткі язык беларускі ў школе, дома і паўсюль імкнуўся пазбягаць доўгіх гутарак, размоў з аднагодкамі, каб не зачапіцца аб вуглавата-вострыя рускія «г» і «рь», не паслізнуцца на птушына-шчабятлівых «чь» і «щя», каб не ўжываць чужых для душы слоў і фраз... Ведаць рускую мову хацела, замяніць ёй сваю — *ніколі!* Дарэчы, пра вышэй згаданую «забастоўку»: з усяго класу, а гэта трыццаць «з гакам» чалавек, «в вузы» паступілі толькі шасцёра, нягледзячы на «великий русский».

Я пакутавала ў той час яшчэ неабазнанай, але ўжо грунтоўна ўкаранёнай у маю псіхіку фобіяй: страх немагчымасці выказаць думку. У гэтай фобіі магутныя карані. Адзін з іх сямейны, родавы: асаблівасць людзей, блізкіх да прыроднага ладу жыцця, звыклых працаваць як вол, здавальвацца філасофіяй пастуха, па кацінаму велічна-маўкліва сузіраць свет. Другі гістарычны: гвалтоўнае адлучэнне вякамі ўсяго народу ад роднай мовы, на якой толькі і здольны чалавек праз слова пасцігаць і ўсведамляць жыццё ў сабе з вонкавым яго праяўленнем. Страта роднай мовы народам непазбежна нясе правал у генетычнай памяці і немы страх перад працэсам мыслення. Трэці «корань» мае сацыяльна-палітычнае паходжанне: значна прасцей кіраваць «немаўлятамі», навязаць ім якую заўгодна «навукова-абгрунтаваную» хлусню пад сцягам духоўнасці, маралі, прытрымліваючыся якой чалавек вучыцца прамаўляць толькі патрэбныя ўладам фразы лозунгавымі ўзорамі і забывае пра тое, што ён, чалавек, сам па сабе — каштоўнасць.

**Каб мысліць і разважаць, мову трэба адчуваць генетычна і адмалку пашыраць слоўны запас з яе багатай скарбонкі. Школьнае ж вывучэнне чужой мовы мала таму спрыяла, ва ўсялякім разе, у школе тых гадоў і таго моўнага стану грамадства. Мы сталі самымі звычайнымі «быдлосамі»!**

Моцны ўплыў у «працэсе вызвалення» ад страху перад словам аказала выкладчыца мовы і літаратуры ў музычнай вучэльні. Яе метад быў двухбакова перспектыўны: замацоўваў сістэмай зададзены курс і развіваў веды чужой мовы. Толькі патрабавалася паўтараць зазубраныя хрэстаматыйныя фразы, ні слова не змяніўшы сінонімам! Яна вышкалярвала з нас аратараў чужых думак. Не чытаючы тэкстаў Талстога, Дастаеўскага, Блока, мы здавалі ўступныя экзамены ў ВНУ на выдатна, запраста пісалі сачыненні, абсалютна не здольныя самастойна разумець тэкст, адчуваць *слова*.

Адгукнулася ў маім жыцці тая «забастоўка»... Ніколі я не любіла размаўляць на жаргоне, цуралася моднага ў юнацкім асяродзі слэнгу, затое заўсёды шукала прыгожую фразу... Ішла ў музычную школу дзіцём і падбірала для сваіх думак словы. Потым гэтая гульня праявілася ў сталым жыцці стойкай патрэбай. Думкі часцей прыходзілі ноччу, калі адпачывала ад паўсядзённых клопатаў: я, ужо тройчы мама, падхоплівалася за ноч разоў пяць, шэсць, каб не забыцца, не згубіць фразу, думку, пакідала яе на паперы да раніцы, бо тады яшчэ не ўмела запамінаць іх лагічна альбо асацыятыўна. Так да двух, трох гадзін начы. Рабіла я гэта толькі для сябе, бо не магла не запісваць: думкі не давалі спакою, прасіліся на паперу, перарасталі сябе, пераўтвараліся, нараджалі новыя сэнсы, патрабавалі ўпарадкавання. Мова, якой я карысталася, вядома, была рускай. Бо мае веды роднай мовы былі не проста дрэннымі — нулявымі. Я атрымала адзіную двойку за ўсе сямнаццаць гадоў навучання па роднай літаратуры, у інстытуце. Шмат чытала з рускай літаратуры, захаплялася яе прыгажосцю і разумела: гэта мова ніколі не стане мне роднай, я не адчуваю яе генетычна так, як павінен адчуваць чалавек з прэтэнзіяй асведамляць сваё жыццё, а родную — не ведаю. Як можа піса́ць чалавек, не ведаючы роднай мовы? Гэта сапраўдная трагедыя, калі ты маеш *што* сказаць, цябе проста разрывае, а ты не маеш на тое СЛОВА! А так многія беларусы. Ведаю людзей, якія ў сталым веку пачынаюць складаць вершы, пішуць апавяданні, але яны малавартасныя па беднасці мовы: альбо «хліпенька» карыстаюцца рускай, альбо трасянкай. Атрыманы «моўны вопыт» і мне часта не дазваляе ўзяцца за жаданую тэму. Паразважаю, прыкіну «слоўнікавы багаж» — і пакідаю задумку.

Па сваёй прыродзе я касмапаліт, мяне больш цікавяць праблемы сусвету, чым адасобленыя нацыянальныя пытанні, аднак ад несправядлівасці ці ў знак чалавечага пратэсту мая душа ў нейкі момант запатрабавала змяніць мову, толькі, напэўна ўжо ніколі, нават у сваёй роднай краіне, я не навучуся не адчуваць сябе другасортным чалавекам...

**Людміла Андзілеўка**

# Дабрыня заўжды перамагае

Сумная навіна прыйшла з Гомеля: 22 лютага не стала найстарэйшага сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхася Пятровіча Даніленкі, які яшчэ паспеў падрыхтаваць у друк гэтыя свае апоregistered… Рада і Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў глыбока смуткуюць з прычыны адыходу найстарэйшага сябра нашай арганізацыі і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Міхась ДАНІЛЕНКА

## Памаранчавая небяспека

Калі адключылі дротавае радыё, Кацярына Ігнатаўна па першым часе бедавала па ім. Раней, перад тым, як гатаваць каву (яна амаль штодзённа варыла яе), абавязкова ўключала яго. Любіла слухаць песні, асабліва тыя, калі яны гучалі па заяўках слухачоў.

— Бабуля, а чаму ты сама не пашлеш заяўку на любімую песню? — аднойчы запытаўся ў яе ўнук Славік. — У цябе ж ёсць любімыя, ці не так?

Чаму? А і праўда. Не задумвалася над тым, што яна і сапраўды можа напісаць у радыёрэдакцыю і папрасіць, каб адшукалі для яе любімы твор, які яна памятае з даўніх гадоў.

Унук як бы падштурхнуў яе да дзеяння, і яна аднойчы наважылася тое зрабіць.

«Я — былая настаўніца, — пачала так пісаць ліст, — шмат гадоў адпрацавала ў школе. Вучыла дзятву любіць родны край, дапамагаць людзям… Нешта ў апошні час развялося шмат злыдняў, такіх, што пройдуць побач і пальцам не паварушаць, каб памагчы слабейшаму чалавеку, які, знясілеўшы, прысеў на лаўку…»

Кацярына Ігнатаўна падумала крыху і далей пачала пісаць. Слова за слова, і не заўважыла, як пачала пісаць падрабязна пра сябе. Апавядала, што калі маладзейшай была, то з ахвотаю слухала выступленні Азершчынскага народнага хору, якім кіравала заслужаны дзеяч мастацтваў Тацццяна Карнееўна Лапаціна. Успомніла пра тое, як некалі, а дакладней, летам, калі яна, Кацярына Ігнатаўна, са старшакласнікамі запісвала народныя песні і паданні, ёй пашанцавала пабыць у тым казачным краі — у Азершчыне.

То вялікая вёска паблізу Дняпра. І сустрэлася з кіраўніцай хору. І Тацццяна Карнееўна расказвала вучням, калі яна палюбіла народныя песні: як яе бацька ганяў плыты ва Украіну.

— Ад бацькі я і навучылася любіць песні. І вы, мае дзеткі, не цурайцеся ўсяго, што стварыў народ, — казала сівавалосая жанчына, — у нашых песнях — сіла народная.

Таму, заканчваючы свой ліст да працаўнікоў радыё, папрасіла: «Вы ўжо там пастарайцеся, дарагія, знайсці адну песню, якую спяваў Азершчынскі хор — а menaвіта «Шчабятуху»».

— Будуць яны шукаць табе тваю «Шчабятуху», — амаль фыркнуў унук. — Мо яны яе і самі не чулі. Ім лягчэй Пугачыху паставіць ці Кіркора, а для цябе…

— Пабачым, — прымірэнча прамовіла бабуля.

Аднойчы, як звычайна, Кацярына Ігнатаўна крутанула гузік прымача і пачула голас дыктаркі:

— Па просьбе нашай пастаяннай слухачкі перадаем жартоўную песню «Шчабятуха» ў выкананні Азершчынскага народнага хору.

Ёкнула сэрца ад радасці ў жанчыны, і яна адразу ж выгукнула:

— Славік! Дзе ты там? Ідзі хутчэй сюды!

У той час унук ладкаваў заплечнік з кнігамі — збіраўся ісці ў школу.

Але адклаў зборы, прыйшоў да бабулі, якая сядзела ў мяккім крэсле і шчасліва ўсміхалася. Яна, мусіць, у гэты час была ў сваёй маладосці, твар яе асвятліўся, нібы яго кранулі промні сонца… Унук прытуліўся да яе галавой, радуючыся, што радыё задаволіла бабулеву просьбу…

— А я лячу і шчабячу, — прыемным галасам выводзіла спявачка, насалоджваючы душу былой настаўніцы.

З таго часу мінула шмат часу.

Адключылі даўно тое дротава-праваднoе радыё. Ніхто не ведае, чаму адключылі, чым яно замінала вясковаму люду.

Але Славік купіў сваёй бабулі невялічкі прымач, які можна было ўключаць у разетку. Абрадавў бабулю. Ды ўсё добра здавалася напачатку, але з цягам часу ў бабулі пагоршылася здароўе. Старая пачала горш бачыць, ды і слых пагоршыўся…

Сын, які жыў і працаваў у сталіцы, прывёз маці адмысловыя кроплі. Яна навучылася сама закапваць піпеткай вочы. Кроплі дапамаглі — стала выразней бачыць. Але праходзіў час — і зноў слабеў зрок. Раней за акном на галінкі ліпы садзіліся сініцы ці амялушкі, і яна чула іх шчэбет, а цяпер вочы падводзілі, не бачыла іх…

Бабуля засталася ў кватэры адна, унук яшчэ не прыйшоў са школы. Кроплі скончыліся, а ў запасе не было. І наважылася бабуля схадзіць у аптэку, якая знаходзілася недалёчка ад дома. Але не спяшалася, нечага марудзіла. Уключыла тэлевізар, хацела паслухаць, што скажуць пра надвор'е…

Дыктарка акурат заканчвала гаварыць пра прагноз, але на заключэнне прамовіла:

— Папярэджваем: чакаецца памаранчавы ўзровень небяспекі. Будзьце ўважлівыя і па магчымасці не выходзьце з дому, асабліва гэта тычыцца людзей пажылога веку.

Яна не зразумела, пра што папярэджвала дыктарка. «Памаранчавая небяспека… Прыдумаюць жа, — падумала Кацярына Ігнатаўна з усмешкай, — адкуль можа сыходзіць тая небяспека?..»

Паклаўшы ў кішэню рэцэпт на лекі, пакінула кватэру.

У аптэцы тых кропель не было, аптэкарка прапанавала замяняльнікі. Яна пагадзілася.

Выйшла на ганак, паглядзела вакол. Падалося, што зноў вочы яе пачалі падводзіць — суцэльная шэрань вакол. Нечакана вецер шпурнуў ёй у твар прыгаршчы снегу, як быццам хто штурхануў у спіну. Жанчына здагадалася адступіць назад і прытуліцца ў зацішку да сцяны. А завіруха не спынялася, яшчэ болей узлавалася і падкідвала ўгару снежныя воблакі.


Фота Алега Белавусава, gp.by

«Пакуль не замяло дарогу, трэба ісці дадому, — падумала яна, — бо прыйдзе Славік, а мяне няма. Што падумае?»

Ступіла на адну прыступку, потым на другую. Ужо не зважаючы на снегакаламуць, пакрысе патэпала да свайго жытла. А снег і сапраўды замёў сцежку, якой яна ішла да аптэкі. Ужо цяжка стала і перасоўваць ногі. Адчула, што стамілася, і побач не было лаўкі, каб прысесці і перадыхнуць…

«Вось што азначала тая «памаранчавая небяспека», — запозненa падумала Кацярына Ігнатаўна пра папярэджванне дыктаркі. Не знайшоўшы апірышча, прысела ў гурбу снегу. Як на тое, вуліца ўсцяж пуставала…

Колькі так сядзела, не ведае. Але пачула побач тупат ног і галасы.

— Бабуля, вам блага?

— Вы не можаце падняцца?

Яна паглядзела на дзяцей, пажартавала:

— Якая я вам, дзеці, бабуля? Цётка я — Кацярына.

— Цётачка Кацярына, мы правядзем вас дадому — дзе вы жывяце?

Яна здагадалася — то былі старшакласнікі. З той школы, дзе вучыўся Славік.

Вучні падвялі Кацярыну да яе дзвярэй, развіталіся. Хацелі ісці да выхаду, але яна перапыніла іх, пацікавілася:

— Скажыце, дзеткі, а ці не чулі вы такой песні — «Шчабятуха»?

Яны пераглянуліся, паціснулі плячыма:

— Не, не чулі.

— Будзе жаданне, знайдзіце і паслухайце. Песня пра тое, як людзям памагае дабрыня. І мне яна дапамагла, вашая дабрыня.

Калі ж дзеці пакінулі яе, падумала: «Людзей добрых больш, чымся кепскіх. І так будзе заўсёды… Дарэмна я ў лісце-заяўцы напісала пра кепскіх людзей».

І толькі пасля гэтага ўставіла ключ у адтулінку замка.

## Птушкам усё бачна

У апошні год дачка вывозіла яго на балкон.

Каляску на лёгкіх гумавых колах сын прывёз Антону Іванавічу з Нямеччыны. Паслалі сына туды ў камандзіроўку, ну сын і падумаў пра бацьку, які пакутаваў без такога «транспарту». Зайшоў у дабрачынную арганізацыю, паказаў бацькавы паперы.

Сядзіць ветэран на балконе, аглядае наваколле. З дванаццатага паверху яму адкрываецца цудоўная панарама горада. Унізе гудуць легкавікі, фыркаюць дымам, ад'язджаюць і прыязджаюць. Да яго балкона далятае той смярдзючы пах, і ён туліцца да сцяны, каб хоць неяк меней нюхаць тое атручанае паветра…

— Можа, цябе назад, тата, адвезці ў залу, — заглядвае да яго дачка, быццам адчуўшы яго стан і настрой, — шмат машын сёння на пляцоўцы.

— Не, дачка, не трэба. І я, дачка, падумаў пра тое ж — чаму столькі транспарту сабралася сёння ля нашага пад'езда?

— Ведаю, чаму. Першае верасня, навучальны год пачынаецца. Вось і прывозяць бацькі свах дзяцей у гімназію.

— Зразумеў. Перацярплю неяк…

Непадалёк ад іх «каробкі», на пагорку, месціўся трохпавярховы будынак школы. Не, ужо не школа… Раней яна, як і ўсе ў горадзе, была школай. Па нечым загадзе нечакана ператварылася ў гімназію. А потым з'явіліся яшчэ і ліцэі. Былі інстытуты (сын заканчваў адзін з іх), а цяпер з'явіліся ўніверсітэты. Быццам ад гэтага выпускнікі набывалі больш ведаў. Не разумеў таго Антон Іванавіч, не разумеў…

— Вось я, Нінка, і думаю: ці болей за гэты час стала сяроод нас разумнейшых людзей?

— Ну, бацька, пачалося… — дачка незадаволена нахмурыла бровы. — Табе ўсё не даспадобы… Час такі настаў. Наперад рухаемся.

— А не назад? — удакладніў ветэран.

— Не ведаю… Але мне трэба, бацька, на дзяжурства ў бальніцу. Вытрымаеш тут адзін, пакуль я вярнуся?

— А мне што — харчы ёсць, у лядоўні ўсё, што трэба. Едзь сабе спакойна, не турбуйся.

Дачка пачала пераапранацца. Потым нешта клала ў сваю валізу, прыхапіла з сабой парасон — на вуліцы пачынала псавацца надвор'е, а потым пачуў, як шчоўкнула засаўка замка. І ў хаце стала зноў ціха.

Колькі ён думак перадумаў, знаходзячыся на тым балконе!

Колькі відовішчаў пераглядзеў, знаходзячыся на вышыні птушынага палёту! Птушкі не заляталі вышэй дванаццатага паверху, унізе махалі крыламі.

Колькі гадоў дамагаўся, каб яму выдзелілі тую каляску. Яму хацелася на вуліцу, падыхаць паветрам, перакінуцца словам з людзьмі, з ветэранамі вайны, распытаць, дзе хто ваяваў…

Тыя ж немцы, з якімі ён ваяваў, і падбіў не адзін фашысцкі танк, і наладзілі яго той інвалідныя каляскай. У якасці гуманітарнай дапамогі. Абрадваўся былы танкіст, марыў ужо, як яго дачка ліфтам спусціць на першы паверх, як выкаціць па дарожцы на лужок…

Але аказалася, што будаўнікі не прадугледзелі тое, што ў доме могуць быць калекі ці інваліды: па прыступках Ніна не магла скаціць каляску… Паспрабавала, але не здолела. Села на прыступку і заплакала…

Змірыўся з часам, усцешвала хіба, што балкон быў, з якога ўсё відаць. Відаць будучае, відаць мінулае…

І ўжо як найвялікшае шчасце ўспамінаў той час, калі за тры кіламетры хадзіў у школу. Зрэбную сумачку на плячо — і ў дарогу! Зусім жа малым яшчэ быў. Бацькі не баяліся пускаць яго аднаго, каб ён перабег грэблю. А ён мог спыніцца і доўга слухаць спеў птушак. Як яны тады хораша спявалі!

Яго ніхто не падвозіў да школы, як гэтых вісусаў. Дзеці неяк ляніва і неахвотна вывальваліся з «вольваў» і «мэрсэдэсаў» і пляліся, як пад прымусам, у сваю гімназію. Кім яны вырастуць, калі скончаць вучобу? І хто з іх стане сапраўдным чалавекам? І ці не заслоніць іх розум смага здабываць долары?

Яму з вышыні птушынага палёту тое бачылася яскрава і дакладна — вышыня ніколі не падманвала. Падумаў толькі: «Мае думкі і прагнозы — нішто. Усё размяркуе Бог — усё Яму падуладна…»

…Антон Іванавіч памёр ціха, як і жыў.

Нялёгка давялося яго спускаць з верхняга паверха. І нават ніхто з тых перарослых-гімназістаў, перад якімі ён выступаў напярэдадні Дня Перамогі, не пацікавіўся, каго гэта выносяць на коўдры з іх пад'езда.

Яго, сядзячага, так і выносілі, быццам ён прыкіпеў да танкісцкага сядзення і працягваў ваяваць з ворагам.

Як кажуць: амінь яму! І — вечная памяць!

# Перад сусветам…



Васіль ЗУЁНАК



Фота www.pustunchik

* * *

*Зорак міліцэйскія «мігалкі»*
*Вызначаюць курс на Млечны шлях*
*Душам, каб пакінуўшы магілкі,*
*Не блукалі марна па начах.*
*Не шукалі сцежак абарваных,*
*Не гукалі незваротны лёс,*
*Зналі, што сусветная нірвана*
*Ні зямлі не мае, ні нябёс...*
*Толькі шлях — нікому не вядомы...*
*Супачні, стамлёная душа:*
*Ты нідзе, і ты заўсёды дома...*
*Толькі здрадліва мяне пакінь спярша...*

## Спеў

*Ён са мной, — чую, чую той спеў,*
*Як вясна з-пад снегу траву.*
*Я вярнуцца адтуль не паспеў, —*
*Там застаўся, і тым жыву.*

## Сэнс

*Хоць і добрыя маю намеры,*
*А да сэнсу дагрукацца ў дзверы —*
*Аніяк не магу.*

*Пэўна, сэнс ужо й сам паверыў,*
*Што гукаць да ўчарашняй вячэры,*
*Як скупому быць у даўгу.*

*Што жыццё ўжо, лічы, мінавала,*
*Сэнсу ж — кот наслязіў занялалы...*
*Але сэнс таю ўсёадно:*

*Не пускаюць дзвярныя завалы?! —*
*Дык, нібы да каханай бывала:*
*Дабяруся і праз акно!..*

## Найвышэйшая з узнагарод

***Анатолю Вярцінскаму — стваральніку выдатнага паэтычнага сузор'я, дзе, між іншых, праменяцца зорныя кнігі «Песня пра хлеб» і «Чалавечы знак»...***

*Знае Бог: Анатоль Вярцінскі*
*Па жыцці не хадзіў бачком,*
*Прад уладай не гнуўся націнкай,*
*Не сядзеў у закутку маўчком.*

*Гаварыў без прыкрас — а па цэлі —*
*Праўду з самых высокіх трыбун,*
*Каб у тых паджылкі трымцелі,*
*Хто пражэцца ў чыноўны табун.*

*І твары натхнёна, адкрыта,*
*Рыфму ў верш не гнаў без патрэб:*
*Нáперш трэба пасеяць жыта,*
*Каб спяваць потым песню пра хлеб.*

*Ён — паэт! Як належыць паэту,*
*Музе словам пустым не пыліў —*
*Знаў да сэрца яе сакрэты,*
*А зрэдзьчас каньячком весяліў.*

*Не мамоне — служыў народу,*
*Не бадзяўся ў тусоўках гуляк.*
*І вышэйшы за ўсе ўзнагароды —*
*Мае ён — Чалавечы Знак!*

## Эфект бязважкасці

*Прагрэс душу прагрыз,*
*Натуры з'еў абрыс.*
*Прагрэс — жыцця пратэз*
*І чалавецтва крыз.*
*Прагрэс — дэлікатэс*
*На ўсезямным стале*
*І да разгадкі тэст*
*Усезямной, — але*
*Ён па нябесны прыз*
*Нагамі ўверх палез*
*І галавою ўніз...*

* * *

*Ці ты жыццём, ці ты смерцю наліты, —*
*Час, нібы яблык спакусы нашчадкам,*
*Час неадольны, час прагавіты:*
*Ні берагоў, ні канца, ні пачатку...*

*Знаю: не ўдасца тваю невымернасць*
*Мне прыручыць да імгнення зямнога, —*
*Ды развітацца з вясной, можа, вернеш*
*Дзень хоць адзін мой? Ці гэта замнога?!.*

## Нарадзіўшыся...

*Не здумай памерці, схаваны зямлёй,*
*Хоць раз нарадзіўшыся ў гэтым жыцці,*
*Бо кропля святла ад усмешкі тваёй*
*Між зор несмяротна і юна ляціць.*

## Перад сусветам...

*Адно, што — не-не! — не палохае неба,*
*а тайнай пакутнай*
*Вярэдзіць бязмежжа:*
*якая ў ім будзе прысутнасць мая*
*Ці адсутнасць?*

*Зямныя шляхі непазбежна*
*злiюцца ў сцяжынку —*
*Жывым падысці да грудка,*
*дзе я час адслужыў свой.*

*І як без мяне ён цяпер?*
*І куды ён скіруе*
*Ўсе думы мае?*
*Ці бяспамятна з імі памру я?*

*Таму як няўцямны дакор*
*пытанні свае*
*шлю ў бясконцасць Сусвету:*
*Пясчынка, — ну што ж...*
*Але ўсё ж:*
*Ці я растваруся між зор,*
*ці згіну пры гэтым*
*Бязмэтна?.*

* * *

*А кожная вясна — як дзень апошні,*
*А кожны дзень — не ява, а ўспамін.*
*І ўжо для неба вольны ты ад пошлін,*
*І ўжо зямля маўчыць — «бывай, мой сын...».*

*«Бывай...» — і ўжо расклад*
*сам Бог не можа*
*Змяніць, паслабіць, адмяніць... Аднак,*
*Хай зорнае цікуе раздарожжа,*
*А мне залёты космасу не ў знак.*

*А мне вясна як горкі дар зазімкаў,*
*Пярэдадзень зімовай нематы,*
*А кожная квяцінка — як слязінка*
*Аб тым, што будзе і не страціш ты.*

## Снежаньская фантазія

*Хвалі белыя ўзбушаваліся,*
*Коцяць снежны дзявяты вал.*
*Лістапад абувае валенкі,*
*Справы здаў — і хутчэй на вакзал!..*

*Снежань следам памахвае дуйкаю:*
*Да сустрэчы праз год, лістадзёр!..*

*Вось такую зіму прыдумаў я,*
*А таму — я паэт-фантазёр*

*І адно ў сакрэце трымаю:*
*Снежань сённяшні снегу не мае.*

## Голас

***Для мяне наша беларуская літаратура, паэзія — такі клад! У мяне, напэўна, большая палова жыцця звязана з паэзіяй.***
***Марыя Захарэвіч,***
***Народная артыстка Беларусі***

*Нарачанскія хвалі*
*Яго нашапталі,*
*Узнімалі*
*Блакітныя крылы нябёсаў,*
*Летуценна ў палях*
*Каласы калыхалі,*
*Перапёлкі гайдалі*
*Званочкамі росаў,*
*Срэбны звон жаўрукі з вышыні паўтарылі,*
*І зацвердзілі ўсё нарачанскія сосны —*
*У сугуччы адным:*
*Захарэвіч Марыя —*
*Беларускай паэзіі*
*Голас узнёслы!*

*Голас, што роднай зямлёй бласлаўлёны,*
*Матчыным словам і песняй натхнёны,*
*Голас душы, цеплынёю сагрэты,*
*Шчыры, глыбінны, зямны, сакавіты,*
*І сінявой васільковай спавіты,*
*Голас, што ключык знайшоў да сакрэтаў*
*Вершаў лірычных, балад і санетаў, —*
*Слухаюць людзі і самі паэты, —*
*І ў захапленне прыходзяць пры гэтым!...*

## Шчасце

*Шчасця шмат не бывае, —*
*Дзеліць Бог пакрысе.*
*Ах, пабольш бы! — шукаем.*
*Ды знаходзяць не ўсе...*

## Даніна

*Далёкім нашчадкам даніна —*
*Тварылася на вякі.*
*Таміны, як дамавіны,*
*А ў іх — мерцвякі, мерцвякі...*

## А ў салаўя...

*А ў салаўя на каханне песенны дар —*
*Праз ноч ні хвілінкі не ўтоіцца ціха.*
*Эстрады начной — чараўнік і пясняр:*
*Спявае і — за-ча-роў-ва-е —*
*салаўіху.*

*А салаўіха пярынкаю кожнай трымціць —*
*Ні бачыць, ні чуць больш не трэба нікога ёй.*
*Але ж і такое бывае ў жыцці,*
*Што захапленне мяжуе з трывогаю:*

*«А песень зашмат — ці не быць бядзе?..» —*
*І салаўінаму богу моліцца...*
*А песня песню, як з неба, вядзе, —*
*І як салаўю тут ад песень адмовіцца?!.*

## Хай там расце...

*Шукаў Зюганаў*
*У нас заганы,*
*Шукаў Праханаў*
*У нас прафанаў, —*

*Ды не знайшлі.*
*З тым і пайшлі*
*Ў сваю Расею*
*«Вечнае» сеяць.*

*А нам прасцей:*
*Хай там расце!*

## Ад кораня...

*Ад кораня чыннага права*
*Не меў я, каб чын закілзаць:*
*Не меў належнай паставы,*
*Як мусіў мне крытык сказаць.*

*З выглёндам такім — пугу ў рукі*
*Ды статкам гайда кіраваць;*
*Калі ж не тупы да навукі,*
*То й вершык які зрыфмаваць...*

*Ну што ж, я ў прынцыпе згодны...*
*Адным тое мог апраўдаць:*
*Не з гэткага, пэўна, я роду,*
*Каб пыхай сябе надзімаць.*

*Яшчэ й падкажу дадаткова:*
*Каб крэсла чыноўнае мець,*
*Павінен чын адмысловы*
*Паставіць подпіс умець.*

*Ну так, каб было па-мастацку —*
*Такі «рукапісны Гамер»,*
*Шэдэўр на магіле брацкай*
*Усіх уладных папер.*

*А гэтаму трэба вучыцца,*
*Руку віртуозна набіць.*
*Мяне ж абышло тое — быццам*
*Планіда сказала: не быць!..*

*Не быць! — подпіс мой нехлямяжы*
*У факсіміле не звініць:*
*Прасцяк, — гляне кожны і скажа:*
*З такім у чыноўных не быць...*

*Бы крыжык у непісьменных:*
*Дзве літаркі — нельга прасцей...*
*Ды подпіс такі, несумненна,*
*Падробіць кожны круцель!..*

*Не быць мне міністрам фінансаў,*
*Тым болей — замежных спраў:*
*Не толькі паставы нюансы —*
*А й подпіс не распрацаваў!..*

* * *

*Ну вось, здаецца, той — ён самы! — час гарачы,*
*І з дня на дзень вузее далягляд,*
*І засталося ўжо зусім-зусім не шмат:*
*Абгрунтаваць віну, падсумаваць няўдачы...*

*Было ўсяго!.. Было — не пералічыш,*
*Ды й сэнс які лічыць — нічога не вярнуць...*
*І ўсё ж прад вечнасцю па-добраму зірнуць*
*Сам на сваё стараешся аблічча.*

*Нарэшце, схамянешся неўспадзеў*
*І зразумееш: марныя старанні...*
*Жыццё мільгае, быццам на экране,*
*Ці ўжо амаль на Страшным тым Судзе...*

## Дзень за днём...

*І тая ж зямля пад нагамі,*
*І той жа, як быў, зеніт,*
*Ды ўжо дзень за днём вымагаюць*
*Браць звыштэрміновы крэдыт...*

# Таемныя таварыствы



Уладзімір АРЛОЎ

**Створаная расейскім царызмам каланіяльная імперыя не была падобная да іншых імперый, пра гэта ведаем з падручнікаў гісторыі. Тагачасныя брытанскія альбо французскія калоніі звычайна знаходзіліся далёка за морамі і акіянамі. Расея ж захапіла суседнія народы, якія часам мелі падобную мову і веру. Гэта дазваляла царскім каланізатарам маскаваць прыгнёт, навязваць паняволеным народам расейскую гісторыю і культуру. Беларусаў-ліцьвінаў хацелі пераканаць, што яны таксама «русские», што жывуць не ў чужой, а ў сваёй дзяржаве. Але на землях былога Вялікага Княства Літоўскага не спынялася змаганне за свабоду. Пра вызваленне роднага краю ад расейскага панавання марылі многія студэнты і выкладчыкі Віленскага ўніверсітэта, а таксама іхнія аднадумцы па ўсёй Літве-Беларусі…**

### Мары філаматаў

На летніх вакацыях 1817 года два віленскія студэнты — Адам Міцкевіч з Наваградка і Тамаш Зан з-пад Маладзечна — вырашылі згуртаваць сяброў у таемную патрыятычную суполку.

Адам і Тамаш ужо рабілі першыя крокі ў паэтычнай творчасці, здабывалі аўтарытэт сваімі поглядамі і ўчынкамі. Яны хацелі, каб у будучае таварыства ўвайшлі тыя, хто любіў Айчыну і таксама захапляўся літаратурай, філасофіяй ды наогул навукамі.

Увосень, калі пачаліся заняткі ва ўніверсітэце, задума Міцкевіча і Зана здзейснілася. Старшынём згуртавання абралі Язэпа Яжоўскага, які лічыўся адным з самых таленавітых студэнтаў і ўжо здаў экзамен на навуковую ступень кандыдата філасофіі. Створаную суполку юнакі назвалі таварыствам філаматаў. З грэцкай мовы слова «філамат» перакладаецца як «той, хто імкнецца да ведаў».

Пераважная бальшыня сяброў суполкі паходзіла з Літвы-Беларусі.

Філаматы пастанавілі: іхняе брацтва аднадумцаў ствараецца «не на хвіліну, не для легкадумнай забавы, а на ўсё жыццё». Спачатку ў статуце таварыства было запісана, што кожны філамат мусіць набываць глыбокія веды сам і дапамагаць таварышам. Але неўзабаве маладыя патрыёты паставілі перад сабой мэту паляпшаць асвету ўсяго роднага краю і такім чынам рыхтаваць яго да барацьбы за вызваленне ад расейскай улады. Яны марылі пра незалежнасць народаў колішняй Рэчы Паспалітай і скасаванне прыгону, ад якога пакутавалі сяляне. Маладыя сэрцы пратэставалі супроць цяжкіх падаткаў, бязлітасных рэкруцкіх набораў, абмежаванняў у правах для жанчын і габрэяў ды іншых усталяваных расейцамі парадкаў.

Надзейнымі дарадцамі моладзі сталі прафесары Віленскага ўніверсітэта Яўхім Лялевель, Ігнат Даніловіч ды Міхал Баброўскі.

### Сустрэчы ля вогнішча і навуковыя паседжанні

Штотыдзень філаматы збіраліся на «навуковыя паседжанні». Там яны чыталі не толькі свае даследніцкія працы, але і вершы ды апавяданні. Затым распачыналіся цікавыя гарачыя спрэчкі на розныя тэмы. Каб прыйсці нарэшце да адзінай думкі, спрэчкі звычайна канчаліся галасаваннем. На тых паседжаннях часта абмяркоўвалі новыя творы Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота, якіх ужо ведала ўся Вільня.

Асаблівую ўвагу таварыства надавала вывучэнню гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Юнакі запісвалі народныя песні і казкі, легенды і паданні. Філаматы распрацавалі адмысловую інструкцыю для апісання родных мясцін. Яе таемна надрукавалі ў віленскай базыльянскай друкарні і ўручалі кожнаму новаму сябру арганізацыі. Статут суполкі нагадваў пра неабходнасць ведаць і шанаваць родную мову. У большасці філаматаў такой мовай была беларуская.

Сотні юнакоў збіраліся на вольныя сустрэчы, што ладзілі філаматы ў ваколіцах Вільні. На зялёным беразе ракі або возера, на лясной паляне каля вечаровага вогнішча гучалі вершы і песні, нараджаліся новыя ідэі ды планы.

Да гэтых сустрэч сябры таварыства рыхтаваліся вельмі старанна. Ян Чачот абавязкова складаў займальны сцэнарый з тэатральнымі сцэнкамі, разнастайнымі конкурсамі, спаборніцтвамі, забавамі. Напрыклад, пачуўшы адзін паэтычны радок, трэба было назваць аўтара ўсяго верша. Падабалася юнакам і спаборнічаць, хто каго перастаявае або перетанчыць. Тагачасная віленская моладзь размаўляла пераважна па-польску, бо такой была мова навучання, але ўсе добра ведалі беларускую. Таму, калі Чачот прапанаваў сцэнарый, напісаны па-беларуску, яго віталі ўдзячнымі воплескамі.




У шчырых размовах маладых віленцаў не раз узнікала думка пра будучы збройны выступ супроць расейскай улады. Да гэтага рыхтаваліся і сябры філіяў (аддзяленняў) таварыства філаматаў, якія дзейнічалі ў Віцебску, Беластоку, Свіслачы. У Полацку сябры такой філіі пашыралі антыўрадавыя вершы. Аднойчы ў самым цэнтры горада нехта расклеіў вершаваныя заклікі скінуць ненавіснае царскае ярмо. Паліцыя здолела знайсці толькі аўтара ўлётак Восіпа Дабашынскага. Гэты юны шляхціч прыняў віну на сябе і не выдаў нікога з таварышаў.

**У шчырых размовах маладых віленцаў не раз узнікала думка пра будучы збройны выступ супроць расейскай улады. Да гэтага рыхтаваліся і сябры філіяў (аддзяленняў) таварыства філаматаў, якія дзейнічалі ў Віцебску, Беластоку, Свіслачы**

### «Прамяністыя» і філарэты

Каб пашырыць уплыў на ліцьвінскую моладзь, філаматы стварылі легальнае (адкрытае) таварыства «Прамяністых». Яго ўзначаліў студэнт фізічна-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта Тамаш Зан. Ён вызначаўся кемлівасцю, вясёлым тавакскім норавам і добрымі здольнасцямі завадатара. «Прамяністыя» абвясцілі, што будуць далучаць моладзь да навукі, падтрымліваць, насуперак каланізатарам, сваю мову і культуру ды змагацца за добрыя паводзіны студэнтаў падчас заняткаў і за сценамі навучальных.

Адным з галоўных правілаў таварыства была «прыхільнасць да айчыннай зямлі». Яна палягала ў тым, каб «жадаць дабра ўсяму народу, захоўваць карысныя звычаі бацькоў, вывучаць і берагчы роднае слова, помніць славу продкаў і памнажаць яе».

Першая сустрэча, на якую новая суполка запрасіла ўсіх ахвочых, адбылася ў траўні 1820 года паблізу Вільні. Тамаш Зан выступіў у той цёплы вечар з дасціпнай прамовай, што раз-пораз перапынялася выбухамі рогату. Потым юнакоў паклікалі «піць малако»: пад нядаўна зазеленелымі дрэвамі, вакол якіх радасна кружлялі меднакрылыя хрушчы, распачыналася вясёлая балюшка без моцных напояў, затое з гульнямі, спевамі ды шматлікімі жартамі на тэмы студэнцкага жыцця.

Вестка пра новае таварыства імгненна разляцелася па Вільні. Яно хутка расло і праз некалькі месяцаў налічвала блізу трохсот сяброў. «Прамяністыя» сумленна і вынаходліва змагаліся за дасягненне абвешчаных мэтаў. Універсітэцкія выкладчыкі з радасцю заўважылі, што ўвачавідкі палепшала дысцыпліна і на лекцыях зрабілася «ціха, як у вуху». Студэнты больш стрымана і паважна паводзіліся ў храмах і на вуліцах. Калі «прамяністыя» чулі з нечых вуснаў брыдкае слова, яны моршчыліся і затыкалі насы, нібыта вакол дрэнна пахла.

Неўзабаве да таварыства належаў ужо кожны трэці віленскі студэнт. У той час універсітэцкі бібліятэкар, былы паўстанец-касцюшкавец, Казімір Кантрым занатаваў у дзённіку: «Той дурань або лайдак, хто не належыць да «прамяністых», бо гэта добрыя людзі».

Вялікі аўтарытэт таварыства напалохаў кіраўніцтва ўніверсітэта. Там разумелі, што «прамяністыя» не абмяжуюцца адным змаганнем за дысцыпліну і парадак. Баючыся трапіць у няміласць да расейскай улады, рэктар загадаў распусціць «прамяністых». Яны выканалі загад, але амаль адразу аднавілі дзейнасць, зрабіўшы яе таемнай і назваўшыся таварыствам філарэтаў (у перакладзе з грэцкай — тых, хто любіць дабрачыннасць). На чале суполкі застаўся Тамаш Зан, які ўжо заслужыў у сяброў велізарныя давер і павагу.

### Цяжка за кратамі вольнай душы

Царская паліцыя падазравала пра існаванне нелегальных студэнцкіх арганізацый, але не магла выйсці на іхні след, бо маладыя змагары былі неблагімі канспіратарамі. Але ў траўні 1823 года грымнуў гром…

У дзень, калі ў 1791-м Сойм зацвердзіў Канстытуцыю Рэчы Паспалітай, адзін з вучняў Віленскай гімназіі напісаў крэйдаю на дошцы: «Няхай жыве Канстытуцыя 3 траўня!» Другі вучань дадаў: «О, які мілы дзя ўсіх нас успамін!» Трэці вучань дапісаў: «Але няма каму пра гэта ўспомніць».

Пра «абуральныя» паводзіны гімназістаў хтосьці даклаў расейскім уладам. Паліцыя пачала следства і выйшла на след філарэтаў. Арыштаваны сябра суполкі Ян Янкоўскі спалохаўся турмы і выдаў усіх вядомых яму удзельнікаў таварыства. Царскія служкі ў мундзірах схапілі Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота, Язэпа Яжоўскага, Ігната Дамейку ды яшчэ болей за сотню філаматаў і філарэтаў. Патрыётаў кінулі за краты ў Віленскі базыльянскі манастыр, ператвораны ў турму.

Зняволеным юнакам спачувала ўся былая сталіца Вялікага Княства. Сабраныя грошы дапамаглі падкупіць варту, і тая дазволіла вязням пакідаць уначы адзіночныя камеры-келлі і збірацца разам. Найчасцей сыходзіліся ў камеры Адама Міцкевіча, які ўжо быў прызнаным паэтам і пазней па-мастацку распавёў пра тыя цяжкія дні ў паэме «Дзяды».

Філаматы і філарэты вялі шчырыя гутаркі, спрабуючы зазірнуць у сваю будучыню. Потым хтосьці ціха пачынаў песню, і ўсе падхоплівалі яе. Асабліва натхнёна спявалі патрыятычныя песні-гімны «Хай радасць з вачэй нашых блісне» ды «Пагоня наш сцяг» на вершы Адама Міцкевіча і Міхала Рукевіча. Улюбёнай была і «Песня філарэтаў», напісаная ўжо ў няволі Антонам Адынцом:

*Будзем сонцам шчэ сагрэты,*
*Віват, брацці філарэты,*
*Што няўдачы па-юначы*
*Зносяць для даброт.*

Пасля кожнага спеву ў камеры гучалі воплескі аўтарам песняў, галасы якіх толькі што гучалі ў агульным хоры. «Можа, нас чуе і дарагі Тамаш», — пра-

маўляў нехта з вязняў, маючы на ўвазе Зана. Яго трымалі ў няволі асобна, але кіраўнік філарэтаў змог перадаць таварышам, што — каб палегчыць долю астатнім — вырашыў ускласці ўсю віну на свае плечы.

### Расейскі суд

Пасля заканчэння следства зняволеных часова выпусцілі на парукі блізкіх і знаёмых. За кратамі засталіся тры «самыя небяспечныя злачынцы»: Тамаш Зан, Ян Чачот і Адам Сузін. Не выйшаў на волю, але з іншай прычыны, і Ян Янкоўскі, што выдаў сяброў на допытах. У Вільні не знайшлося нікога, хто згадзіўся б паручыцца за здрадніка.

У жніўні 1824 года цар Аляксандр I зацвердзіў прысуд, паводле якога дзесяць філаматаў і дзесяць філарэтаў высылалі з роднай Літвы-Беларусі ў аддаленыя губерні Расеі. Айчыну мусілі пакінуць Ян Чачот, Адам Міцкевіч, Язэп Яжоўскі, Язэп Кавалеўскі, Адам Сузін...

Самае цяжкае пакаранне атрымаў Тамаш Зан. Яго пад канвоем адпраўлялі ў далёкі расейскі Арэнбург, дзе першы год галоўны з філарэтаў мусіў адседзець у турме. У апошні вечар перад высылкай у камеру да Тамаша пусцілі родных і сяброў. Ян Чачот пад гітару спяваў толькі што складзеную ім на беларускай мове журлівую развітальную песню:

*Ды лятуць, лятуць ды дзікія гусі,*
*Ды нас павязуць да далёкае Русі...*

Расейскі суд пакараў таксама выкладчыкаў, якія дапамагалі і спачувалі маладым патрыётам. Універсітэт і Вільню загадалі пакінуць прафесарам Яўхіму Лялевелю, Міхалу Баброўскаму, Ігнату Даніловічу, Язэпу Галухоўскаму. Звольнілі з працы ўніверсітэцкага бібліятэкара Казіміра Кантрыма, які захапляўся сябрамі таемных таварystваў і ўпотай даваў ім чытаць забароненыя царскай уладаю кнігі.

### Лёсы, вартыя раманаў

Нягледзячы на цяжкія выпрабаванні, шмат хто з філаматаў і філарэтаў не проста на ўсё жыццё захаваў вернасць ідэям і мэтам сваіх таварystваў, але і дасягнуў вялікіх поспехаў у розных галінах культуры і навукі.

Сусветную славу геніяльнага паэта здабыў Адам Міцкевіч.

Як таленавітага паэта мы шануем і Яна Чачота. Першую кнігу вершаў і песняў ён склаў і перадаў каханай дзяўчыне Зосі Малеўскай яшчэ калі быў зняволены разам з сябрамі ў базыльянскім манастыры. Жыццёвыя нягоды адно загартавалі душу песняра. Надзвычай каштоўныя ў ягонай спадчыне дзве кнігі «Сялянскіх песняў з-над Нёмана і Дзвіны» і рыфмаваная гісторыя Вялікага Княства Літоўскага — «Спевы пра даўніх ліцьвінаў», у якой апетыя Міндоўг, Гедзімін, Альгерд, Вітаўт, Давыд Гарадзенскі.

Тамаш Зан пасля турэмнага зняволення плённа займаўся даследаваннямі Урала і стварыў першы ў Арэнбургскім краі музей. Нядаўні кіраўнік філарэтаў здабыў вядомасць як таленавіты горны інжынер, але не пакідаў і паэтычнай творчасці.

Застаўся ў навуцы як прызнаны знаўца Манголіі колішні філамат Язэп Кавалеўскі. Ігнат Дамейка стаў выдатным даследчыкам і асветнікам паўднёваамерыканскай краіны Чылі і быў абвешчаны яе нацыянальным героем.

### «Вайсковыя сябры»

Вальналюбныя думкі ды мары філаматаў, філарэтаў і «прамяністых» не зніклі бясследна. Філарэт Міхал Рукевіч, які пазбег высылкі на чужыну, ужо праз год пасля суду над аднадумцамі заснаваў таемнае таварыства «Вайсковыя сябры». У яго ўваходзілі вайскоўцы, чыноўнікі, гімназісты і студэнты. Суполка, што дзейнічала на Гарадзеншчыне і Беласточчыне, пастанавіла змагацца за «вольнасць, усеагульную асвету і дабрабыт».

«Вайсковыя сябры» мелі сувязі з расейскімі таемнымі таварystвамі дзекабрыстаў. Трэба сказаць, што дзекабрысты былі мужнымі людзьмі, але лёс Літвы-Беларусі і беларускага народа мала цікавіў іх. Яны лічылі царскую імперыю толькі «русской» дзяржавай, у якой усе мусяць быць расейцамі і размаўляць на «общепонятном русском языке». Старшыня Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў Павел Пестэль сцвярджаў, што «белорусы должны отказаться от права особой народности». Назвы «нерусских народов» імперыі ён прапаноўваў проста скасаваць.

У снежні 1825 года «Вайсковыя сябры» сарвалі прысягу цару Мікалаю I у расквартараваным на Беласточчыне сапёрным батальёне. Міхала Рукевіча і ягоных паплечнікаў Аляксандра Вягеліна і Канстанціна Ігельстрома прысудзілі да смяротнага пакарання, якое замянілі 10 гадамі сібірскай катаргі.

**У адным з сваіх палымяных артыкулаў-улётак Францішак Савіч пісаў: «Будзем загартоўваць дух, працаваць да канца жыцця! Хто ведае, дзе і як суджана нам памерці? Магчыма, не адзін з нас сканае пад рукою ка́та! Але няхай і смерць будзе працягам барацьбы за свабоду!»**

### «Племя сарматаў» і зброя ў Бараўлянах

Прамінула два гады, і ў Віленскім універсітэце ўтварылася таварыства «Племя сарматаў», або «Патрыёты Айчыны». Галоўнай мэтай яно вызначыла вызваленне земляў былой Рэчы Паспалітай. Арганізацыю раскрылі, і яе кіраўнікоў Канстанціна Заху, Адама Траскоўскага і Фелікса Ліга выслалі шараговымі салдатамі ў расейскую армію на Каўказ.

У той самы час браты Аляксандр і Францішак Далеўскія заснавалі «Братні саюз літоўскай моладзі», які інакш называўся «Саюзам свабодных братоў». Галоўная сядзіба таварыства знаходзілася ў Вільні, а філіі дзейнічалі ў Менску, Горадні, Навагрудку, Слоніме і Лідзе. Саюз аб'ядноўваў некалькі сотняў студэнтаў, вучняў, шляхцічаў, чыноўнікаў і рамеснікаў. Сваю краіну яны бачылі ў будучыні дэмакратычнай рэспублікай.

Рыхтуючы паўстанне супроць каланіяльнай расейскай улады, «свабодныя браты» наладзілі сувязь з салдатамі Менскага гарнізона і Бабруйскай фартэцы. Пад Менскам, у фальварку Бараўляны, для будучага паўстання выраблялі зброю і адлівалі кулі.

Жандарам удалося разграміць і гэтае згуртаванне, але змаганне працягвалася.

### Гартаваць ліцьвінскі дух

Студэнт Віленскай медычна-хірургічнай акадэміі Францішак Савіч стварыў з сябрамі Дэмакратычнае таварыства. Яно абвясціла сябе спадкаемцам справы філаматаў і філарэтаў. У вершы «Там, блізка Пінска, у шырокім полі» Савіч заклікаў паняволеныя народы яднацца, каб перамагчы агульнага ворага:

*Ліцьвін, валынец, падайце ж*
*мне рукі.*
*Так прысягаем на Госпада Бога,*
*Царам на згубу, панам —*
*для навукі...*

Жандары высачылі і схапілі Савіча. Яго выслалі салдатам у царскую армію, што вяла захопніцкую вайну з каўказкімі горскімі народамі. Такая служба пярэчыла ўсім перакананням Францішка. Ён здолеў уцячы і пад чужым імем працаваў лекарам ва ўкраінскім мястэчку Янушпаль на Жытоміршчыне, чакаючы магчымасці пакінуць Расейскую імперыю. Калі стваральнік Дэмакратычнага таварыства ўжо атрымаў замежны пашпарт, у мястэчка прыйшла халера. Ратуючы іншых, ён невылечна захварэў сам.

У адным з сваіх палымяных артыкулаў-улётак Францішак Савіч пісаў: «Будзем загартоўваць дух, працаваць да канца жыцця! Хто ведае, дзе і як суджана нам памерці? Магчыма, не адзін з нас сканае пад рукою ка́та! Але няхай і смерць будзе працягам барацьбы за свабоду!»

Так маглі сказаць вельмі многія з тых, хто гераічна змагаўся з расейскай тыраніяй. Свабода і незалежнасць былі ім даражэй за жыццё.

**Малюнак Паўла Татарнікава**

## ГІСТАРЫЧНАЯ ВІКТАРЫНА

1. Як з грэцкай мовы перакладаецца слова «філамат»?
2. Што было запісана ў Статуце таварыства філаматаў?
3. Паспрабуйце апісаць навуковыя паседжанні філаматаў ды іх сустрэчы ў ваколіцах Вільні.
4. Хто такія «прамяністыя»? Як дзейнічала гэтае таварыства?
5. Як узнікла таварыства філарэтаў?
6. Як слова «філарэт» перакладаецца на беларускую мову?
7. Раскажыце пра арышт маладых беларускіх патрыётаў і таемныя сходы за кратамі.
8. Як царскія суддзі пакаралі сябраў таемных таварystваў?
9. Хто з былых філаматаў і філарэтаў здабыў славу творцы або вучонага?
10. Што вы даведаліся пра «Вайсковых сяброў»?
11. Якія мэты ставілі перад сабой «Племя сарматаў» і «Саюз свабодных братоў»?
12. Хто такі Францішак Савіч? Раскажыце пра ягоны лёс.




Гэты малюнак адлюстроўвае рэкруцкі зборны пункт у Глыбокім на пачатку XIX стагоддзя. Пад вартай расейскай канвойнай каманды ў горад прыгналі сялянскія юнакі і маладыя мужчыны. Справа цырульнік голіць рэкруту палову галавы, каб у выпадку ўцёкаў няшчаснага было лёгка злавіць. (Дарэчы, ад гэтага ў расейскай мове і пайшоў выраз «забрить в солдаты».) Рэкруты сапраўды часта спрабавалі ратавацца ўцёкамі, бо на пажыццёвую службу ў чужое войска забіралі і зусім падлеткаў, і жанатых мужчын, якія мелі дзяцей.

У правым куце малюнка гаспадарчыя будынкі — лямусы былога радзівілаўскага двара, прыстасаваныя пад армейскія правіянцкія «магазыны» (склады). У такія склады па ўсім нашым краі звозілі забраныя ў беларусаў прадукты харчавання і фураж ды зганялі жывёлу. Збор гэтых велізарных падаткаў меў рабаўнічы характар.

Перад ганкам вялікага гаспадарскага дома штаб-афіцэр зачытвае царскі ўказ пра рэкруцкі набор. Злева каля канвойных вы бачыце хлопца, пераапранутага ў «смурны» рэкруцкі каптан (шынель). З рэкрутамі назаўсёды развітваюцца родныя. Іх праводзяць амаль як на той свет. У развітанні бяруць удзел і некалькі святароў з глыбоцкіх касцёлаў і царквы.

Ажыццяўленне рэкруцкіх набораў і збору падаткаў каланізатары перакладалі на мясцовую шляхту і сялянскіх старастаў. Такім чынам расейскія ўлады адводзілі ад сябе незадавальненне насельніцтва гэтым гвалтам.

# Дзень Падзякі





Томас ВЯНЦЛАВА

### Верш пра сяброў

*Наталлі Гарбанеўскай*

*Ніхто чужы на свеце не чужы,*
*Бо ўсё, што не збываецца наяве,*
*Нябыт-рака нясе да той мяжы,*
*Дзе ўсе сваімі будзем неўзабаве.*
*Шматлюдны дзень за горадам замоўк*
*І радыё хрыпіць, бо хутка зліва,*
*І не ўратуюць клямка ці замок,*
*Бо лета паміраe так імкліва.*

*Якраз такою позняю парой*
*Збіраюцца разгубленыя госці,*
*Загубленыя госці... Наш пакой*
*Элізіюмам будзе для кагосьці.*
*Хай прывіды ў дрымотнай чарадзе*
*Між забыццём блукаюць і любоўю —*
*Схаваюцца ў люстэркавай вадзе*
*І вынырнуць з глыбіняў залюстроўя.*

*Хай постаці, паўстаючы з магіл,*
*Крылатых сёстраў і празорцаў здані, —*
*Хто на палях тамоў вартуе пыл,*
*А хто ў палях сухой травою стане.*
*Жывы брыдзе ў нікуды з ніадкуль*
*Ці абжывае схованку пустую*
*Маўчання, што гучнейшае ад куль, —*
*І, можа, Апалон яго ўратуе.*

*Мяжой сусвету будуць іх дамы́.*
*Ноч маразамі закуе адлігу.*
*Але ў смяротным холадзе зімы*
*Не здрадзіць мова, не саступіць ліху.*
*Ім атруцілі думкі, ночы й дні,*
*Каваным ботам сталь звініць чаканна,*
*Ды ўсё, што замуруюць камяні,*
*Іх будучыня знойдзе нечакана.*

*Яны і ў нашым лесе. Пальцы іх,*
*Як дрэва, адгукнуцца ў мёртвым крэсле,*
*Іх голас між галін яшчэ не сціх,*
*Бо вышынёю сталаю ўваскрэслі*
*Ў сям'і, дзе ёсць імя для ўсіх дзяцей,*
*І што зямны ім суд і вырак нечы?*
*А ўнізе — пустата, і ўсё часцей*
*Прастору глушаць гукі паражнечы.*

*Не веру ў беды, верачы сябрам!*
*Бо ў памяці і ўяўнае магчыма —*
*Падзелены на ўсіх няісны храм,*
*Адлегласць паміж светам і вачыма.*
*Хай зранку ўсё растане й праміне,*
*І сонца іх сляды з люстэрка змые,*
*Ды крокі іх сыходзяцца ўва мне,*
*Нібыта паралельныя прамыя.*

*Дажынкі шчодры верасень нясе*
*У горад, што на ўзроўні душ трывае,*
*І восень увахо́дзіць пакрысе*
*Ў чужыя думкі, вуліцы, трамваі.*
*Пагойдваюцца баржы на вадзе.*
*Нервуешся, бы ў нечым вінаваты.*
*Асенні ліст на ходнік упадзе,*
*Як рыцарскія гербы, вуглаваты.*

**1968**

* * *

*Як ззяе небасхіл, як паліць вочы сквар —*
*Паўвыспу папалам гарачы поўдзень рэжа.*
*Салёнай пенаю палацы на ўзбярэжжы:*
*То знікнуць, то ўстаюць,*
*нібы ў траве пажар,*

*Бы выдмы на пяску, бы хвалі на вадзе...*
*Іх цёмны лексікон цяжэйшы ад людскога.*
*У памяці глухой нічога і нікога,*
*І толькі ў глыбіні адвечны рытм гудзе.*

*Прырода йдзе на штурм.*
*Раз'ела соль замок.*
*Маяк на страшны суд склікае, трубнавокі.*
*Аблогай над зямлёй згушчаюцца аблокі.*
*У шчыліны дзвярэй пасыпаўся пясок.*

**1970**

### Вершы пра каханне

**I**

*Калі ў самоце мудрасць завітае незнарок*
*і абарваны дыялог яшчэ гучыць на сходах,*
*на мокры сад без сораму навальваецца*
*змрок*
*і над пустым Зарэччам чуеш флейты,*
*арфы подых.*

*Калі засохлае ручво пад стромай ажыве,*
*і кропля прабіваецца праз камень*
*запацелы,*
*аркестр блізкага канца гучыць у галаве,*
*і болей не патрэбныя ні словы, ні іх целы.*

*На вуснах соль, на лобе кроплі*
*вільгаці марской.*
*А горад, як вялізны кіт, быў кінуты*
*на бераг —*
*у выгнутай прасторы ўсіх вякоў, перад якой*
*спыніўся бег шалёных душ, бясконца*
*блізкіх, белых.*

*Дзве зоркі паміж вейкамі запаляцца, калі*
*дзве выпуклыя лінзы нам падораць*
*свет — і досыць.*
*Тваё жыццё, як ластаўка, ляціць*
*вакол зямлі,*
*сядае на плячо, дрыжыць, нічога больш*
*не просіць.*

*Не азірайся, нас даўно скарыў*
*сусвет стары,*
*дзе пад канвоем скразнякоў у танцы робім*
*колы:*
*аблокаў шэрых кравабег і пульс зямной*
*кары*
*ўзялі ў аблогу лёгкія, штурмуюць*
*альвеолы.*

*І ўсё вяртаецца. І верш, як памяці сябрук,*
*схіляе ўлева ўсе дамы́ — і хіляцца стра-*
*ката.*
*Над вільчаком рассейваецца змрок, і пара*
*рук*
*чапляецца за небасхіл, як за штурвал*
*фрэгата.*

**II**

*Не маю адрасоў, а значыць — і гасцей,*
*і ямб чужы, як свой, стамляе ўсё часцей,*
*і навіна з нябёс не выглядае свежай.*
*Але прастора — тут: яна цячэ ракой,*
*фарсіруе парог і проста ў мой пакой*
*з вадою па́дае адлюстраванай вежай.*

*Трох вымярэнняў рып, хоць латы з іх*
*надзень, —*
*да вечара на іх святлом гуляе дзень,*
*а потым па кутах згушчаецца паволі*
*спачатку травеньскі, а потым летні*
*змрок.*
*Ды пра канец жыцця не думаеш знарок,*
*бо лямпа на стале — і ты ў ахоўным коле.*

*Дык не спяшаймася.*
*Ноч на падстрэшку тчэ.*
*Цуд не народжаны і дзеці спяць яшчэ.*
*Паруе цёплы плёс і лета даспявае.*
*Як лодкі за вадой, сплываюць нашых сноў*
*пейзажы й галасы, і зразумець наноў*
*кароткай ночы сэнс наш дзень*
*не паспявае.*

*Лавіна вобразаў, і кожны, быццам вой,*
*узяўшы розумы ў аблогу — мой і твой, —*
*штурмуе іх: чуваць малітвы, крыкі,*
*мантры.*
*А целы нашыя ляжаць, бы камяні,*
*так блізка, і муроў абрысы ў вышыні,*
*і больш няважна, што адкрылася*
*Касандры.*

**1973**

### Nel mezzo del cammin di nostra vita

*Памяці Канстанціна Багатырова*

*Я да сваёй сярэдзіны зямной*
*Вучыўся ў смерці, бы шкаляр на ўроку.*
*І смерць жыла ў пакоі за сцяной,*
*Як сваяка, трымала ў поле зроку.*
*Я прыручаў, карміў з рукі нябыт,*
*Каб не цяпер, не кропка...*
*хоць шматкроп'е...*
*Шторанцы прыносіў краявід —*
*Найпрыгажэйшы горад у Еўропе*
*Усходняй, дзе чарот гніе наўкол,*
*Дзе моляцца нажу і верацъ прэнту,*
*Дзе машыніст не запаволіць кол,*
*Бензін гарыць і спальвае дашчэнту.*
*Я сэнс у ёй знаходзіў і мараль,*
*Я называў яе сваёй сям'ёю,*
*Я спаў і еў, я жыў у ёй амаль,*
*А звыкнуцца не змог, не звыкся з ёю.*

*Я адчыняю дзверы ў калідор,*
*Як б'ецца сэрца — пад яе аховай.*
*Мой родны край так шмат каго памёр,*
*Што смерць бывае нават выпадковай.*

**1976**

* * *

*За мяжой кантынента і часу мяжой*
*Не адразу мяняюцца сны,*
*Ды, блукаючы ў мовах, сваёй і чужой,*
*Не выходзяць на яву яны.*

*Знік асенняй лагчыны нягалены твар,*
*Знікла з мовы журба яе хвой,*
*Над раўнінаю смерці вільготны пажар*
*І за брамай лядовы канвой.*

*Адступае развязка — і хлусіць наўзбоч:*
*Паўзямлі, ад якіх не ўцячы.*
*Перакрочыўшы глобус, ты слухаеш ноч*
*І каханае цела ўначы.*

*Слухай шум незнаёмай і роднай крыві,*
*Толькі ў ёй — застанешся пасля.*
*Бо адбіткаў тваіх, дзе цяпер ні жыві,*
*Не пазнаюць Нява і Вялля.*

**1979**

### Дзень Падзякі

*Балотны, металічны пах наўкол,*
*А конь травіцу свежую скубае*
*І восем гаспадынь нясуць на стол*
*Асенні пачастунак. Штат Агаё.*
*Выгодныя выходныя. Раса.*
*Чырвоны колер клёна (ці вагона,*
*Адсюль не бачна). Позняя краса*
*Вісконсіна, Дакоты, Арэгона —*

*І Арыён. Жыцця жахлівы дар*
*Ідзе лавінай, літасці ніякай,*
*А ты, што сэрцам лічыш кожны ўдар,*
*За новую зямлю Яму падзякуй.*
*Хай краявіды для тваіх вачэй*
*Нязвыклыя яшчэ, але жывыя.*
*Бо чым далей ад дому, тым хутчэй*
*Па Адысею пёс стары завые.*

*Падзякуй за адказ, што болей не*
*Гаворыць тваймy глузду нічагутка.*
*За новую ваду ў тваім збане.*
*За новую траву, што ўзыдзе хутка.*
*За камень і пліту, за крыж і глыб*
*Чужой зямлі, што нам закрые вочы.*
*За смерць. За ўсё, што мы зрабіць маглі б,*
*Каб зноў дала жыццё. Як Ён захоча.*

*За музыку, якую іншасвет*
*Нам сёння пасылае без падману.*
*У гэтых прыцемках любы прадмет*
*Такі ж, як з таго боку акіяну.*
*Гадзіннікі стаяць па трох кутах,*
*І вока не памыліцца ў шаленстве,*
*Знайшоўшы клямку, стол і зорны дах —*
*Тамсама, дзе знаходзіла ў маленстве.*

**1979**

**Пераклаў з літоўскай**
**Андрэй Хадановіч**

# Пад залатымі трубамі

## Пачатак кінааповесці-фантасмагорыі па матывах гітарычных хронік



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

Імчыць вершнік. Мільгаюць магутныя дрэвы, узгоркі, палі…

Вершнік у ваўчынай скуры, накінутай на плечы, у скураным шлеме з рагамі час ад часу падносіць да вуснаў медны паляўнічы рог (на ім сляпуча ззяе адбітак сонца), закідвае галаву і трубіць. Гукі ўрачыста ўзлятаюць у неба. Над вершнікам кружляе чорны арол…

— Так наш далёкі продак, найбліжэйшы радца вялікага князя Альгерда, за параду будаваць слаўны горад Вільню атрымаў ва ўладанні столькі зямлі, на колькі будзе чуваць гук ягонага рогу цягам дня… І герб наш адгэтуль — «Трубы»… І чорны арол — знак наш…

Вершнік працягвае свой шлях. Узнімаецца ў неба труба, на якой ззяе сонца… Кружляе ў небе чорны арол.

Высокі худы чалавек з груганам на плячы, захутаны ў манаскі чорны плашч з каптуром, з нянавісцю глядзіць на арла, які кружляе ў небе.

— Замнога табе гонару, паганец. Ніколі не дарую. Заўсёды буду стаяць на тваім шляху.

З пляча Вялікага Інквізітара зрываецца чорны груган. Узлятае ўверх, туды, дзе кружляе арол.

Зноў гучыць труба. Яе залаты бляск асляпляе, нагадвае кругі на вадзе… І застывае малюнкам на гербе «Трубы», які вісіць над камінам.

1529 год. Гербавая зала ў палацы Радзівілаў.

Юры Радзівіл па мянушцы Геркулес, магутнага складу мужчына з рудаватымі валасамі і барадой, адкінуўшыся ў фатэлі з высокай спінкай, гартае цяжкі фаліянт. У Радзівіла перавязана рука — ён толькі што пасля чарговай бітвы. Вакол яго сядзяць і ўважліва слухаюць дзеці — Мікалай Радзівіл Руды і ягоны стрыечны брат Мікалай Радзівіл Чорны, абодва падлеткі, трохі маладзейшая за іх Ганна Радзівіл, а таксама анёлак дзевяці гадоў — Барбара Радзівіл. У крэсле сядзіць жонка Юрыя Радзівіла, Барбара Кола, уладная жанчына з цяжкім падбароддзем і бляклымі блакітнымі вачыма, яна вышывае. Павολі праступаюць на белым шоўку цяжкія гронкі рабіны, бы кроплі крыві. Ля крэсла стаіць паж, Міхал Рашчынскі, які па звычаі трымае малітоўнік сваёй пані і ўважліва прыслухоўваецца да размовы ля каміну. Міхал трохі па-падлеткаваму няўклюдны, але відаць, што вырасце вялікім, дужым, у ім адчуваецца незвычайная моц: і дзікая, мядзвежая сіла, і шчырасць, наіўнасць простай натуры. Ягоны позірк увесь час спыняецца на Ганне Радзівіл, танклявай, гожай, дзёрзкай, якая сядзіць збоку на лаўцы, і адзіная з усіх дзетак круціцца, відавочна нудзіцца ўрокам генеалогіі.

Радзівіл Геркулес працягвае аповед:

— Паводле легенды, наш продак, жрэц князя Гедыміна Ліздзейка, убачыў у прарочым сне Жалезнага Ваўка… Які паказаў месца для пабудовы Вільні.

Мікалай Чорны, хлопец з тонкімі рысамі твару, з «фамільным» радзівілаўскім гарбатым носам, па звычаі падмячае тое, на што іншыя не звярнулі ўвагі:

— Дык што, дзядзечка Юры, Радзівілы паходзяць ад паганскага жраца?

Геркулес паблажліва ўсміхаецца.

— Гэта толькі легенда. Насамрэч першым прыняў герб «Трубы» ваш прадзед, баярын Осцік… Ад назвы маёнтка Трабы. І было гэта пры слаўным князе Вітаўце… І няма, і не будзе роду мацней за наш… Пакуль Радзівілы трымаюцца разам. Як калісьці трымаліся мы — я, мой брат Ян, мой брат Мікалай, мая сястра Ганна Мазавецкая. Адзін я застаўся з іх. Ваш час. Ты, мой сын, Мікалай Руды, і ты, мой пляменнік, Мікалай Чорны, будзеце, як лязо і тронак аднаго мяча.

Браты абменьваюцца позіркамі: адкрыты, шчыры твар гарачага па натуры Мікалая Рудога, засяроджаны, хітраваты — Чорнага.

Увесь гэты час Ганна круціцца на месцы, паглядае за вакно, дзе за ўзорчатымі рамамі пагойдваецца голле дрэў. Тузае на шыі медальён — срэбны арол са смарагдавымі вачыма. Дзяўчынка азіраецца на маці — тая прыдрамала ў крэсле, вышыўка з барвовымі гронкамі рабіны ляжыць на каленях. Пакуль бацька размаўляе з братамі, Ганна ціхенька ўстае. Барбара, якой таксама не вельмі цікава, спалохана глядзіць на сястру. Ганна жэстам кліча яе з сабой. Барбара адмоўна круціць галавою. Ганна ціхенька выслізвае з пакою. Мікалай Чорны кідае пільны хуткі позірк убок — але не выдае сястру. Уцёкі Ганны заўважае і паж Міхал.

Ганна выходзіць у сад. Прабіраецца між дрэў і кустоўя, расхінае голле, усыпанае кветкамі, захоплена сочыць за матылькамі. У траве ёй трапляецца здохлая варона — дзяўчынка не выяўляе грэблівасці, схіляецца, тыцкае ў птушку прутком, заглядае ў мёртвае вока… Ёй цікава — што такое смерць? Відовішча дзіўнае: дзяўчынка-анёлак у белай сукенцы — і мёртвая варона… За княжной, хаваючыся за кустамі, крадзецца Міхал, які таксама пакінуў свой пост, скарыстаўшыся тым, што княгіня заснула. Міхал паглядае з-за голля, як маленькая танклявая княжна ў белай сукенцы гуляе па чароўным садзе. Відаць, што сад і ўвогуле палац толькі будуюцца. Там-сям груды камення, чуваць гукі будоўлі.

Між тым Ганна выходзіць на невялікую палянку, пасярод якой высіцца незразумелае збудаванне. Штосьці высокае, абстаўленае жэрдкамі. Гэта яшчэ не дароблена эолава арфа — вельмі складаная па задуме канструкцыя. Блішчаць паміж жэрдак яе пазалочаныя струны, але яшчэ не гучыць музыка ветру… Так, асобныя дзіўныя гукі, падобныя да жаласных крыкаў птушкі. Ля пастамента пакінутыя рабочыя інструменты, чарцяжы.

Збудаванне ўвенчвае выява арла, таксама не дробленая. Адно залатое пёрка дрэнна замацаванае, амаль адвалілася. Ганна спрабуе яго дастаць, ускарасквáецца па жэрдках…

Усё збудаванне са страшэнным грукатам і звонам абрушваецца, Ганна з крыкам спрытна адскоквае — Міхал не паспеў кінуцца на дапамогу.

Да абрушанай эолавай арфы збягаюцца слугі, урэшце прыходзіць сама княгіня, Барбара Кола.

— Зноў шкода ад цябе, Ганна! Твой бацька ўлучыў вам увагу, няглядзячы на свае раны. А ты не цэніш. Цяпер не адкруцішся ад розгаў.

Ганна бялее. Наперад выходзіць Міхал:

— Ваша княская мосць, гэта мая віна. Я тут усё разбурыў выпадкова.

Барбара Кола грэбліва падціскае вусны:

— Ты? Што тут робіш? Здаецца, мой муж памыліўся, калі ўзяў цябе да свайго двара, Міхал. І каб не тое, што твой бацька загінуў, ратуючы князя… Спадзяюся, справядлівае пакаранне стане табе добрай навукай.

Спыняе позірк на медальёне, які ўпрыгожвае шыю Ганны.

— І колькі разоў табе казала… Не карыстайся гэтым упрыгожваннем. Яно… не пасуе юнай дзяўчыне.

1518 год. У малой зале Кракаўскага каралеўскага палаца сабраліся самыя важныя людзі каралеўства. Гэта першы прыём для эліты, у якім удзельнічае новая каралева — Бона Сфорца.

Уваходзіць кароль Жыгімонт Стары, ён вядзе Бону Сфорцу. Яна прыгожая, з залатымі валасамі, трымаецца ганарліва. У яе сукенкі моднае глыбокае дэкальтэ. Дамы перашэптваюцца.

— Грудзі вываліла… Сораму няма… У іх у Італіі што — усе кабеты так ходзяць?

Кароль і каралева ўсаджваюцца. Усе схіляюцца перад каралеўскай парай. У першых шэрагах — Радзівіл Юры, ягоныя браты Ян Барадаты і Мікалай Радзівіл і сястра Ганна Мазавецкая. Непадалёк Альбрэхт Гаштольд, Канстанцін Астрожскі. Вылучаецца купка італьянскай світы каралевы.

Сярод іх — радца Боны Сфорца, лекар Луіджы Сфорца, у якім пазнаецца Вечны Інквізітар. Сфорца займае месца за крэслам каралевы.

Кароль паварочваецца да Боны:

— Тут сабраліся толькі самыя лепшыя і блізкія да трону. Дазвольце прадставіць вам, каралева, маіх верных паплечнікаў, першых людзей дзяржавы. Альбрэхт Гаштольд, ваявода полацкі… Першым клічу яго, бо толькі што вярнуўся ён з радаснай весткай — яго багатыры разбілі войска вялікага князя маскоўскага!

Да рукі каралевы падыходзіць Альбрэхт Гаштольд. Усе крычаць «Віват!», твар Юрыя Радзівіла крывіцца.

— Канстанцін Астрожскі, вялікі гетман літоўскі! Ён прынёс нам слаўную перамогу пад Воршай!

Канстанцін Астрожскі падыходзіць да рукі каралевы пад «Віваты» прыдворных.

— Мікалай Радзівіл, ваявода Віленскі, вялікі канцлер, уладальнік тытула князя Святой Рымскай імперыі на Мядзелі і Ганёндзах!

Да каралевы падыходзіць Мікалай Радзівіл.

— Юры Радзівіл, мой даўні сябар, па мянушцы Геркулес. Ніводнай бойкі ён яшчэ не прайграў. Няхай жа і ў бойцы за сяброўскія пачуцці маёй каралевы ён не прайграе.

Радзівіл Геркулес падыходзіць да каралевы. Тая зацікаўлена паглядае на магутнага, віднага сабою рыцара. Геркулес прыкладаецца да яе рукі. Гаворыць па італьянску:

— Рады служыць маёй каралеве!

Каралева кідае скосы позірк на Луіджы Сфорца, той ледзь заўважна ківае.

— Мне вельмі патрэбны сябры пры маім новы двары.

Радзівіл пільна глядзіць у вочы каралеве.

— Маё сэрца адкрытае для шчырых пачуццяў.

Жыгімонт Стары працягвае прадстаўляць арыстакратаў.

— Наша добрая суседка, княгіня Ганна Мазавецкая, уладарка слаўнай Мазовіі.

Ганна Мазавецкая ганарыста падыходзіць, нізка кланяецца каралю і толькі лёгка ківае галавой каралеве, як ніжэйшай. Бона Сфорца ўгневаная.

Ганна вяртаецца да братоў. З нянавісцю паглядае на каралеву.

— Гэта я павінна быць на яе месцы. Я не разумею, чаму ён выбраў не мяне. Я прыгажэй. Я магла б прынесці яму ў пасаг Мазовію.

Ян Барадаты ўсміхаецца.

— Можа, каралю не спадабалася гісторыя з тваім каханкам Жэлінскім, сястра? Ты дала той нікчэмнасці такую ўладу, што падданыя паўсталі!

— Я іх уладарка. Я маці двух каралевічаў, удава Конрада Мазавецкага. Яны мусілі цярпець.

Геркулес скептычна круціць галавой.

— А вось кароль не хоча цярпець чыіхсці выбрыкаў. Хаця з гэтай кабетай…

Юры сустракаецца позіркам з Бонай.

— Думаю, ён пашкадуе, што выбраў не цябе.

Луіджы Сфорца нешта шэпча на вуха каралеве, і тая ўтароплівацца позіркам у Ганну Мазавецкую. Ганна з выклікам сустракае яе погляд. Блакітныя вочы і брунатныя вочы гараць аднолькавай нянавісцю.

Ганна няголасна кажа братам:

— Я ўсё адно не адступлю. Я слабая ці моцная? Італьянка вызваліць трон для мяне.

Юры Радзівіл пяшчотна прыабдымае сястру, нешта шэпча ёй на вуха. Ганна сціскае яго руку ў пошуку падтрымкі. Бона заўважае гэта. Яе твар на імгненне змяняецца ад гневу. Бона пераводзіць позірк на караля і бачыць, што ён таксама глядзіць на Ганну Мазавецкую з нейкай тугою.

Бона шэпча Вечнаму Інквізітару.

— Гэта жанчына занадта шмат сабе дазваляе. Не спускай з яе вачэй.

Між тым у зале пачынаюцца больш вольныя гаворкі. Каля караля і каралевы ўтвараецца кола просьбітаў і лісліўцаў, астатнія госці пачынаюць хадзіць па зале, размаўляць між сабою. Канцлер Мікалай Радзівіл — ля караля. Каралева час ад часу шукае позіркам Юрыя Геркулеса.

Да Яна, Юрыя і Ганны падыходзіць Альбрэхт Гаштольд. Ён звяртаецца да Яна з ледзь прыхаванай нянавісцю:

— Як ваша сямейнае жыццё, пан Ян?

Барадаты насцярожана глядзіць на Гаштольда.

— Дзякуй, ваша мосць, я шчаслівы.

— Цаной жыцця маёй няшчаснай сястры, вашай былой жонкі?

Ян бянтэжыцца.

— Паслухай, Альбрэхт… Ты несправядліва судзіш. Прысягаю, я не вінаваты ў смерці Лізаветы. Ты ж ведаеш, яна была слабая здароўем…

Гаштольд крывіць вусны.

— Слабая… Не надта ты думаў пра яе, калі з'ездзіў у сваты да Кішак, і замест таго, каб высватаць брату іх дачку, закахаўся ў яе сястру!

— Альбрэхт, у імя былога нашага сяброўства…

— Наша сяброўства з'елі паўтары гады турмы, куды мяне паклёпам засадзіў ваш брат Мікалай. І я нізавошта не паверу, што гэта проста супадзенне — калі ў той самы час ты пачаў пагарджаць маёй сястрой і адкрыта заляцацца да другой кабеты…

Твар Яна Барадатага, разумны, з тонкімі рысамі, адлюстроўвае сапраўдную пакуту.

— Усё не так…

Гаштольд паглядае з нянавісцю.

— Не дарую.

Сыходзіць. Юры Геркулес спачувальна кладзе руку на плячо брату, Ганна Мазавецкая кладзе яму руку на другое плячо. Зверху, невядома адкуль, спускаецца, кружляе пяро гругана.

**Цалкам кінааповесць-фантасмагорыю можна прачытаць у № 99 часопіса «Дзеяслоў».**

## След, вечна жывы

**Палуян Сяргей. След, вечна жывы: Творы. Успаміны. Прысвячэнні. Даследаванні / Сяргей Палуян; уклад., падрыхт. тэксту, агляд. аналіт. арт., прадмова і камент. Т. Кабржыцкай, В. Рагойшы. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 336 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Выпуск 114).**




Аснову выдання складае творчая спадчына самабытнага публіцыста, крытыка, празаіка і паэта Сяргея Палуяна (1891-1910), рупліва сабраная даследчыкамі ва ўкраінскай і беларускай перыёдыцы.

У кнізе ўпершыню найбольш поўна прадстаўлены ўспаміны пра пісьменніка яго родных і знаёмых, мастацкія творы, прысвечаныя яму, матэрыялы пра радаслоўе Палуянаў. Укладальнікі кнігі — Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша — ставяць Сяргея Палуяна поруч з Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Вацлавам Ластоўскім, рашуча і доказна ўпісваюць яго асобу ў панараму гісторыка-філасофскіх, эстэтыка-культурных характарыстык беларускага адраджэння пачатку XX ст.

## Яблычны пах цішыні

**Баторын Фелікс. Яблычны пах цішыні. Вершы і паэмы. Мінск: Кнігазбор, 2018 — 308 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Выпуск 115).**




У кнігу ўвайшлі вершы, балады і паэмы, складзеныя Феліксам Баторыным, за адзінкавымі выключэннямі, у 2007–2018 гадах. Значная іх частка публікуецца ўпершыню.

У творах паэта пераважаюць грамадзянская, любоўная, пейзажная лірыка, але гэтым іх тэматыка не вычэрпваецца. Паэтычнай мове аўтара ўласцівыя празрыстая прастата і складаная метафарычнасць, тонкі лірызм, які, пры ўсёй пэўнай парадаксальнасці, часта арганічна спалучаецца з філасофскімі развагамі, іроніяй і самаіроніяй.

У гэтай кнізе таксама змешчаны пераклады з іўрыту, з ідыш, рускай і нямецкай моў, зробленыя ў нядаўні час.

## Я веру ў Цуд

**Ваганаў Сяргей. Я веру ў Цуд: вершы розных гадоў (1963–2018) / Сяргей Ваганаў. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 140 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып.113).**

Вершы, сабраныя ў гэтай кнізе, ствараліся журналістам Сяргеем Ваганавым цягам жыцця, але амаль нідзе не друкаваліся, за выключэннем часопіса "Дзеяслоў", газеты "Народная воля", альманаха "Мішпоха" і Сеціва. Такім чынам, гэта першая паэтычная кніга аўтара, у якой вы знойдзеце і любоўную лірыку, і філасофскую, і грамадзянскую, — на беларускай і рускай мовах. Вершы наўмысна не пазначаны аўтарам канкрэтнымі датамі, бо, як ён маркуе, вельмі важна ўспрымаць іх з адчуваннем безупыннасці Часу.






# Альтэрнатыва для Басі, альбо Не трэба баяцца

**Дыпломная работа мусіць паказаць, што студэнт засвоіў матэрыял, які старанна ўкладалі ў яго вушы выкладчыкі цягам навучання. Вось, я стараўся. Умею тое і тое... У гэтым сэнсе дэбютная кніга Кацярыны Захарэвіч — тыповы дыплом.**




«Час вогненнага птушкалова» — двухпланавая аповесць. Фантастычная? Магчыма. Калі адштурхоўвацца ад вызначэння, што фантастыка паказвае рэчы нерэальныя. Але ёсць у аповесці не такое заўважнае другое дно, якое значна ўскладняе схематычныя просты твор. Пра гэта пазней...

Аповесць Кацярыны Захарэвіч з тых тэкстаў, якія маюць вузка акрэсленую аўдыторыю. Не ў тым сэнсе, што іншы прачытаць не здолее. Але ў тым, што найбольшы водгук яна атрымае ў чытача з пэўным наборам рысаў. Гэта мусіць быць чалавек беларускамоўны. Лішняя, здавалася б, пазнака. Але мы да таго звыклі стасавацца ў моўным гета, што перастаем заўважаць відавочнае: далей за нашае кола кніга наўрад ці выйдзе.

Другое — гэта чалавек маладой, лепей сказаць — юны. У слова «юны» ёсць шэраг прычэпаў: узнёсла-палымяны, рамантычны, схільны да драматызацыі. Месцамі сентыментальны. Карацей, аматар гераічнай рамантычнай прозы.

То бок тая ж катэгорыя чытачоў, якая запойна чытае прыгодніцкія раманы Людмілы Рублеўскай і ведае імя Ксеніі Шталянковай.

Вось тут — самае цікавае.

І Ксенія, і Кацярына прайшлі Школу маладога пісьменніка. Школу, у якой выкладае Людміла Рублеўская. З аднаго боку, можна казаць пра ўплыў натуральны: аўтаркі ўпадабалі эстэтычную сістэму Рублеўскай, перанялі і г.д. З іншага — ёсць рызыка, што гэты ўплыў чыста школьны. Чаму рызыка? Таму што спатрэбіцца час, каб зразумець, што гэта менавіта ўплыў, штучнае ўздзеянне, а не асабістае светабачанне.

Калі слушны першы варыянт, можна казаць пра новую літаратурную традыцыю, запачаткаваную некалі яшчэ Караткевічам, перахопленую Дайнекам, Арловым і Рублеўскай, і далей — навучэнцамі Школы пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.

Але.

Зазвычай у прыгодніцкіх творах акцэнт ставіцца на моцы герояў, іх баявітасці, авантурнасці, адметнасці. Кацярына Захарэвіч падкрэслівае адваротны бок медаля: ейная гераіня — няўклюдная, няўпэўненая ў сабе, яна пачуваецца лішняй. У развіцці сюжэта роля гераіні мінімальная. Яна на пазіцыях ахвяры. Яна разумее несправядлівасць свету, глыбока перажывае, але нічога не робіць. Гэтыя рысы належаць абедзвюм Басям. Рэч у тым, што гераіня мае дзве іпастасі. Першая — рэалістычная: дзяўчына, што жыве ў сучаснасці, пачуваецца самотнай у сям'і і парыяй — у школе. Другая Бася існуе ў паралельнай лініі. Яна паходзіць з «расы» адметных.

Для разумення сітуацыі: Кацярына Захарэвіч распрацавала міні-міф, паводле якога адпачатку існавалі «сапраўдныя» людзі. Адметныя. 121 чалавек, усе — прыгожыя знешне, але даволі млявыя па натуры. Жылі бы ў райскім садзе, цешыліся самі сабе і жыццю. Знайшоўся бунтар, які стварыў големаў для чорнай працы. Адметныя разленаваліся дарэшты і сталі зусім безабаронныя. Карацей, гліняны пралетарыят паўстаў і загнаў адметную шляхту на задворкі жыцця. Вось з гэтых адметных і паходзіць другая Бася.

Кацярына Захарэвіч разгортвае абедзве лініі, але Басі не асабліва змяняюцца. Эвалюцыі гераінь як такой няма. Падзеі — а там і прыгоды, і здрады, і інтрыгі — ёсць, але не пакідае

**Зазвычай у прыгодніцкіх творах акцэнт ставіцца на моцы герояў, іх баявітасці, авантурнасці, адметнасці. Кацярына Захарэвіч падкрэслівае адваротны бок медаля**

адчуванне, што яны, насамрэч, не маюць асаблівага значэння.

Самыя яркія моманты аповесці — стыкі двух сусветаў. Яны — чыста кампазіцыйныя, то бок ніякіх узаемадзеянняў між светамі няма. Але паралелі — відавочныя. Здрада сяброўкі, пакуты самавызначэння, адсутнасць бацькі, прыўкрасны прынц, у якім нейкі час сумняешся, вобразы дарослых персанажаў — усе яны перагукаюцца.

Вось тут і ўзнікае думка, што другая, фантастычная, лінія — толькі фантазія рэальнай Басі. Гэта самотнае дзяўчо, нікому не патрэбнае і незаўважнае, але надзвычай чуйнае да свету. Замкнёная ў сабе, яна ізалюецца ад рэальнасці і стварае альтэрнатыву. (Згадваецца фан-версія датычна «Гары Потэра», паводле якой свет магіі — хваравітая фантазія самотнага хлопчыка з каморкі). На карысць гэтай версіі — наяўнасць у рэальнай Басі рудога ката (новая тэндэнцыя белліту — уводзіць у твор свайго коціка: Шарова, Янкута...) і блакітнага папугайчыка. З якіх змаляваныя сілы жыццёвага коловароту ў свеце фантастычным — Вогненны Птушкалоў і Нябёсная Птушка.

І заканчваецца кніга тым, што рэальная Бася ідзе на спатканне. З невідзімкі яна ператвараецца ў жывую дзяўчыну, робіцца існай для іншага чалавека. Фантазіі ёй больш не патрэбныя.

Уменне ўбачыць уласныя комплексы, пераадолець нясмеласць і выцягнуць іх на святло — моцны бок аўтаркі. Гэта жэст насуперак няўпэўненасці, хоць і ў ім самім няўпэўненасць пакідае след.

Сунуцца да аўтараў з парадамі — вельмі смешна, але вельмі хочацца пажадаць Кацярыне не баяцца. Страх зрабіць «не так» бачны ў мове. Усё правільна, гладка, літаратурна. Жаданне зрабіць правільна цягне за сабой празмерную апісальнасць. Гэтая літаратурнасць — як панцыр, абарона ад магчымых заўваг. Але ў тым і справа, што памылкі робяць нас адметнымі. Памылкі і ёсць тое зерне, з якіх вырастае стыль.

На класічнае пытанне «Кім вы сябе бачыце праз N год?» я б сказала — пра Кацярыну: аўтаркай псіхалагічнай прозы для падлеткаў. У дэбютнай кнізе яна не раскрыла гэты свой талент, паставіўшы на кутні камень прыгодніцкую лінію. Неабходнасць вытрымаць тэмп аповеду папросту абкарнала псіхалагічны партрэт герояў. Але ёсць у аповесці месцы, якія недвухсэнсоўна паказваюць здольнасць Кацярыны тонка адчуваць іншага чалавека (чытай: персанажа). І калі другая лінія аповесці сапраўды фантазія гераіні, то сама аповесць з прыгодніцкага чытва ператвараецца ў сур'ёзную псіхалагічную драму (кшталту «Моста ў Тэрабітыю»).

Таму аўтарцы проста неабходна пераадолець страх быць сабой. Страх асуджэння глушыць мастацкі талент. І варта падумаць, што горш насамрэч: пачуць крытыку на свой адрас — ці так ніколі і не раскрыцца, не стаць сабой, не даць поўнай волі таленту?

**Наста Грышчук**

# «заВЕРШАНАЕ» падсумаванне

**Першы нумар часопіса «Дзеяслоў» за 2019 год атрымаўся не такім аб'ёмным, як звычайна, затое больш важкім сваім унутраным напаўненнем. Яго зручней чытаць і вальней разважаць над прачытаным. Аптымальна знойдзены фармат.**

Нумар запачаткаваны нізкай цудоўных вершаў **Вольгі Гронскай** пад назовам «заВершанае». Яна ўпарта трымаецца той мяжы паэзіі, якая палягае паміж вобразным светам старэйшага і малодшага пакаленняў. Гэта заўважна. Тут, праўда, яшчэ няма поўнага адыходу ад самой сябе, ад арытміі сэрца, прыліваў гарачай крыві, стрыманасці пачуццяў і агаленасці эмоцый, але ўжо ёсць надтрэснутасць, відна лінія расколіны, адчай чапляння, пераходу-перараскоквання ў свет віртуальны —самаставральны, абязболены, пралічаны, замяняльны на любы іншы, як штучны пратэз... Вольга яшчэ дыхае боскай прыроднай зямнога быцця.

*Дарога нібыта сама цябе выбірае*
*і абяцае прывесці*
*да брамы раю.*
*Ты па ёй крочыш —*
*і падыходзіш*
*да краю.*
*Прэч адляцець*
*трэба яшчэ вучыцца.*
*У логаве сэрца —*
*раненая ваўчыца.*
*Чым ад халоднага ветру*
*схаваць ключыцы?..*
*Піць малако тугі,*
*выдыхаць,*
*лячыцца.*

Паэт старэйшага пакалення **Віктар Ярац** (адзін з тых, хто поплеч з Алесем Разанавым змагаўся за беларускамоўнае выкладанне на філфаку БДУ напрыканцы 1960-х) прапануе чытачам паэму «Зіма без мамы», якая складаецца з паасобных вершаў заяўленай тэматыкі. Вершы элегічныя і рацыянальныя, аднак жывыя; аўтар спрабуе паўторна прайсці сцежкамі мацярынскага і ўласнага родавага лёсу.

*Боль загоіцца — чым*
*пытае днём і ноччу душа, — да яе*
*голас мамы з глыбіняў расстання*
*праз маўчання пласты дастае.*

Чарговае апавяданне **Вінцэся Мудрова** «Дом творчасці» — гэта гіпертрафіраваная іронія адносна (каля)літаратурнага працэсу канца 1970-х. Мне падалося, што фарбы аўтарам настолькі згушчаныя, што рэаліі мінулага праглядваюцца празмерна карыкатурна і, пэўна, выклічуць недавер не толькі ў тых, хто меў «шчасце» быць хай сабе ўмоўным прататыпам апісаных падзей. У тэксце фігуруе пісьменніцкі Дом творчасці Камарышчавічы (Каралішчавічы), куды накіраваны малады пачынаючы паэт з правінцыі для творчага «пад'ёму»... Але з чым ён там сутыкаецца? З поўнай дэградацыяй. Гурт старэйшых літаратараў-п'янтосаў, якія толькі тым і займаюцца, што пасылаюць ганца ў горад па «чарніла», п'юць і рэжуцца ў карты... З'яўленне дзвюх жанчын сітуацыю яшчэ больш ускладняе. Ні аднаго больш-менш прасветленага героя. Ды нават і сам галоўны герой на гэтым фоне выглядае камічна. (Безумоўна, было і такое ў жыццёвых праявах сацрэалізма, але ж не наскрозь і не пагалоўна, як паказана ў гэтым тэксце.)

*«— Ён ехаў сюды, думаў, пісьменнікі авангард нацыі, хварэюць душой за лёс мовы. Маюць нейкія ідэалы і перакананні, прагнуць, нарэшце, ісціны, а аказалася, што вас апроч ганарараў...*

*— Ну-ну, працягвай, — перабіў Падгурскі, — цікава паслухаць вось такіх — маладых ды неаб'езджаных. Сам быў такім калісьці.*

*— Вы сваёй бяздарнасцю, п'янкамі і звычайным халуйствам давялі літаратуру да ціхага сконы, — успыхнуў Юрась, забыўшыся скончыць папярэднюю фразу.*

*— Малады яшчэ, каб старэйшым указваць, — з інтанацыяй лаянкі выдаў Падгурскі, — калі такі ідэйны, дык чаго сунешся на дармавы сняданак, ды яшчэ ў кампаніі з літаратурнымі прыстасаванцамі?»*

Чытаючы тэкст, увесь час круціцца пытанне: а хто ж пісаў тыя творы нашай нацыянальнай літаратуры, якія сталі яе класічным скарбам? Цікава, а каб з такога ракурса і з такім сатырычным імпэтам зірнуць на сучасны літпрацэс? На мой погляд, карціна выглядала б не менш саркастычна...

На гэтым фоне аптымістычнымі (у сэнсе творчага росту) падаюцца абразкі ад **Зараславы Камінскай.** Добрая мова, чысты літаратурны стыль, лірычная падаплёка, што ствараюць адзіную жыццесцвярджальную аўру.

Новая нізка вершаваных тэкстаў **Вольгі Гапеевай** — гэта своеасаблівыя метафарычныя пасылы да чытацкай свядомасці з надзеяй дачакацца пэўнага водгуку. Як мне думаецца, такія аўтарскія спадзевы недарэмныя.

*цяперашні час даецца мне цяжка*
*мінулы ведаю лепш*
*так і жыву*
*вось бы як у кіно*
*страціць памяць*
*і тыя хто там прапісаўся*
*не маючы майго на тое дазволу*
*тады кожную згадку буду спакойна здымаць*
*як волас з пляча паліто*
*не здолеўшы прыгадаць ужо чыйны*

На маё меркаванне, лепшая проза нумара па глыбіні і мастацкім раскрыцці заяўленай тэмы — гэта апавяданне «Бомж» **Сцяпана Сяргея.** У экстравагантный сітуацыі нечакана сутыкаюцца два былыя сябры-аднакурснікі. Адзін — бізнесовец, другі — бомж. Ёмкая, у меру экспрэсіўная проза — спроба філасофскага погляду на сучаснае чалавечае і грамадскае жыццё. Два героі, дзве супрацьлегласці, якія ніяк не могуць знайсці кропкі сутыкнення, што маглі б прымірыць іх стаўленне да ўзаемаадносін людзей у свеце, альбо хоць паразумецца ім дваім у гэтым іхнім прыватным выпадку...

*« — Чалавек заўсёды знойдзе сабе апраўданне. А калі ён яшчэ і адукаваны, то падвядзе пад гэта цэлую філасофію, возьме ў адвакаты Платона, Ніцшэ. І так запудрыць мазгі і сабе, і другім, што хоць ты помнік пры жыцці яму стаў. А, між іншым, ісціна не ў мудраванні, не ў сафістыцы, а ў простых, зразумелых нават непісьменнаму чалавеку запаведзях: не ўкрадзі, не забі, не сведчы лжыва... — гэта тое, аб чым ты нядаўна хацеў сказаць, успамінаючы Хрыста.*

*— Штосьці, дарагі ты мой, пачаў сам сабе супярэчыць. Толькі што сцвярджаў, што ісціна ў віне, а зараз загаварыў пра боскія запаведзі, — Касцюкевіч засмяяўся, наліў поўныя чаркі.*

*— А адно другому не пярэчыць, — крутнуў галавою Толя. — Наадварот, першае дапамагае больш поўна і востра ўспрымаць і адчуваць другое.*

*— Магчыма і так. Але ўсё ж з адным я пагадзіцца не магу. З тваіх слоў можна зрабіць выснову, што ўсе багатыя — нягоднікі, а бедныя — анёлы. А жыццё паказвае, што сярод бедных людзей нягоднікаў не менш, чым сярод багатых. Проста бедны нягоднік можа атруціць жыццё толькі сваім блізкім, а багаты, ды яшчэ пры ўладзе, — тут, вядома, маштаб другі.»*

Друкуюцца ў новым часопісе вершы сёлетняй лаўрэаткі прэміі імя Міхася Стральцова *Анхелы Эспіносы Руіс*. Пэўна ўсе ўжо ведаюць, што гэта маладая іспанка з Малагі, якая вывучыла і выдатна ведае беларускую мову. Нават піша на ёй вершы. Гэта эмацыйна-пачуццёвая грамадзянская ды інтымная лірыка — як удзячнасць лёсу за гэтую «беларускую праяву» ў яе душы і сэрцы.

*Называлі мяне тут паэткай,*
*легендай, прарокам,*
*Быць прарокам няможна*
*на роднай зямлі.*
*Беларускую мову, відаць,*
*толькі цэняць здалёку,*
*І стагоддзе назад вы яе*
*сапраўды прадалі.*

Два гістарычныя апавяданні гарадзенца **Віктара Варанца** займальныя і чытэльныя. Ну, каму падасца абыякавай яшчэ адна гісторыя з росшукам расейскага імперскага золата, якое захапіў Напалеон! Яно на дне Бярэзіны ці ў таемнай скарбніцы езуітаў? Не менш захапляльны і расповед пра справы шпіёнскія і «гусарскі (публічны) дом» з выведкай і прастытуцыяй... напярэдадні вызвалення Заходняй Беларусі...

Нізка вершаў ураджэнкі Гайнаўкі (Польшча) **Кацярыны Сянкевіч** адчувальна сухаватая. Тэксты пераважна здуманыя.

*без цябе мае думкі*
*— кіслая рака крыві*
*з табою маё сэрца*
*наперад гоніць*
*салодкія рэкі*

Мастак і паэт **Рыгор Сітніца** у гэты разам выявіў сябе ў іпастасі драматурга. Драма ў дзвюх дзеях з пралогам і эпілогам называецца «Фармат Вечнасці». Хаўтуры па творцу (мастаку, пісьменніку, архітэктару) Душа Мікалаю. Адпаведны шэраг прысутных узгоднены з пратаколам. Дзейства адбываецца як у рытуальнай зале і за жалобным сталом, так і ў віртуальным пазачасавым і пазапрасторавым *фармаце*, дзе *мёртвыя* могуць быць жывымі, а жывыя *мёртвымі*... Ці прымірающь грэшных людзей той і гэты свет? Драматычны тэкст захапляе і не адпускае да канца драмы. Мяркую, што пры магчымай таленавітай рэжысёрскай пастаноўцы ўражанне ад спектакля будзе яшчэ больш яскравым.

Празаічныя творы пераможцаў конкурсу «Экслібрыс» да 100-годдзя БНР, якія друкуюцца ў гэтым нумары, зразумела, маюць гістарычны і грамадска-палітычны характар, як у сюжэтным, так і ў ідэйным (нацыянал-патрыятычным), і ў вобразным выяўленні. Сярод аўтараў: **Яўген Ансарэўскі, Зміцер Астроўскі** і **Андрэй Кулеш.**

Як заўсёды, у часопісе моцны і арыгінальны падбор перакладной літаратуры. Гэтым разам вядомага літоўскага паэта **Томаса Вянцлаву** прадстаўляе наш не менш вядомы перакладчык **Лявон Баршчэўскі.** Нізка вершаў называецца «Пейзаж з Паліфемам». У літоўцаў мой кумір Імантас Зыедоніс, але, скажу вам, і Вянцлава мала ў чым яму саступіць.

*Улетку часта, прачнуўшыся на світанку,*
*я адчуваю без страху набліжэння часу,*
*калі прыйдуць новыя пакаленні*
*і ўсё ад нас пяроймуць: слоўнік, неба,*
*соль, хлеб, а мне застанецца*
*адно свабода.*

Выдатныя іранічна-сціслыя апавяданні класіка амерыканскай літаратуры **О. Генры** чытаюцца на адным дыханні ў адмысловых перакладах маладой **Сашы Сайкоўскай.**

Многімі чытаны віцебскі сатырык-іраніст **Міхась Мірановіч** прапануе ў сваіх перакладах адмысловыя «непрычасаныя думкі» **Станіслава Ежы Ленца.** Вось адна, датычная нас, смяротных, думка: *«Адзін сваёй творчасцю будуе сабе надмагільны помнік, другі капае сабе магілу».*

А вось пераклад аб'ёмнага даследавання «Вёскі Камаровічы ў Мазырскім павеце» гжэчнай польскай шляхцянкай **Эмай Яленскай** (пісьменніцай і фальклярыстам-этнографам), зроблены вядомым фальклярыстам Уладзімірам Васілевічам, на мой погляд, проста падарунак як чытачам, так і беларускім навукоўцам. Гэты, на першы погляд, побытавы, з падрабязнымі ўзгадкамі духоўнай і матэрыяльнай культуры, нарыс (1891–1892) будзе прачытвацца кожным глыбока нацыянальным чалавекам, як «ойча наш» усяго нашага прамінулага, але, на шчасце, не забытага. Тут падрабязна апісана ўсё: самі палешукі, іх жыццё, будовы, звычкі, абрады, рэчы, адзенне, праца, побыт... Ну, вось, да прыкладу хоць бы гэты фрагмент:

*«Само памяшканне палескай хаты пры святле лучніка ўяўляе сапраўды маляўнічае відовішча. Нейкі водар старажытнасці, дауно мінулых гадоў сыходзіць з гэтага зацішнага свету, для якога чужымі здаюцца агульначалавечыя, грамадскія і палітычныя інтарэсы і які пра тое, што хвалюе ўсю астатнюю Еўропу, не мае найменшага ўяўлення і зусім не прагне вырвацца з гэтага зачараванага кола, спрадвеку яшчэ распачатага продкамі. Наглядзеўшыся на цывілізаваныя краіны, на адукаваныя народы, цяжка паверыць, што гэтая палеская хата ці яе жыхары, усе гэтыя прыстасаванні і ўвесь гэты першабытны лад сапраўды існуюць пасярод зменлівага еўрапейскага грамадства на схіле XIX стагоддзя. Такія гэтыя людзі яшчэ простыя, самародкавыя, наіўныя, поўныя дзіцячай абаяльнасці і такія блізкія да першабытнай прыроды!»*

Выдавец, паэт і празаік **Кастусь Цвірка** працягвае занатоўваць сваё ўласнае і грамадскае жыццё. У тым ліку і літаратурнае, і культурніцкае. Гэтым разам у нарысе «Мой дзве тысячы шаснаццаты» гаворка ў асноўным вядзецца вакол працы над выданнем 200-томнай серыі «Беларускага кнігазбору».

Філасоф **Валянцін Акудовіч** працягвае сваю справаздачную «хроніку беларускага інтэлектуала» і прапануе запісы пра дзейнасць «Бум-Бам-Літа», якія, як мяркуецца, дададуцца да зместа яго будучай кнігі «Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым».

Літаратуразнаўца **Таццяна Кабржыцкая** ў сваім эсэ распавядае пра жыццёвы лёс і творчасць «волата ўкраінскага Адраджэння» Клімента Квіткі (1880–1953), мужа Лесі Украінкі.

Таленавіты **Васіль Дранько-Майсюк** дасціпна і абгрунтавана піша пра творчае жыццё драматурга Уладзіслава Галубка, спрабуючы вызначыць і высняваць мастацкі плён ягоных рэжысёрскіх пакутаў. Эсэ называецца «...Душагуб беларускай сцэны».

Пра (цяпер ужо сталічны раён) «Грушаўку і Падгрушша» піша ў сваім эсэ **Вольга Бабкова,** *ціхая* самасная пісьменніца з тонкім вычуваннем акаляючых рэчаў і ўнутранага стану чалавека.

Эсэ **Марыны Яўсейчык** пра тое, што ўсе мы ходзім пад Богам, а вось пакідаем гэты свет не ўсе і не заўсёды па Яго волі, але нярэдка і насуперак ёй, — па волі забойцаў, следчых, пракурораў і пракуратараў... Жыццё даецца кожнаму, а ўласная смерць не ўсякаму... Эсэ пра лёсы, згадкі і здагадкі людзей, якія былі прысуджаны да смяротнай меры пакарання. *«Расстрэл можа стаць развязкай у жыццёвай гісторыі толькі для чалавека, пазбаўленага жыцця. Для яго родных расстрэл — гэта кульмінацыйны момант у няскончанай гісторыі роду, пасля якога іх чакае працяг — незваротна зменелае ўласнае жыццё.»*

**Уладзімір Сіўчыкаў** успамінае пры свайго настаўніка малявання мастака і педагога Уладзіміра Макарава.

Найбольш яркімі запісамі пра літаратуру і мастацкую творчасць пад агульным назовам «Мой чытацкі лёс» са сваёй фэйсбучнай фрэндстужкі дзеліцца з чытачамі часопіса літаратуразнаўца і крытык **Павал Абрамовіч.**

**Леанід Галубовіч** разважае над старонкамі кнігі выбранай паэзіі Міколы Пракаповіча «Прытулак памяці».

Напрадвесні лепшага чытання для абуджэння душы і розуму і не падбярэш.

**ЛеГал**

ПРЭМІІ

## Дзве нобелеўскія літпрэміі за год

**Шведская акадэмія афіцыйна абвесціла, што гэтай восенню будуць уручаны дзве Нобелеўскія прэміі па літаратуры: за 2018 і 2019 гады.**

Пасля пасяджэння Нобелеўскі фонд, які выконвае волю-запавет Альфрэда Нобеля, абвясціў, што «крокі, якія Шведская акадэмія распачала і збіраецца распачаць, створаць добрыя магчымасці для аднаўлення даверу» і што будуць абвешчаны лаўрэаты на 2018 і 2019 гады.

Нагадаем, што пасля скандалу з разгалошваннем інфармацыі пра лаўрэатаў і абвінавачванняў у сэксуальным гвалце мужа аднаго з членаў Акадэміі, некаторыя акадэмікі выйшлі з яе складу, хоць іх сяброўства было пажыццёвым.

У сакавіку мінулага года новы пастаянны сакратар Шведскай акадэміі Андэрс Олсан абвясціў аб адтэрміноўцы прысуджэння прэміі, заявіўшы, што арганізацыі неабходна засяродзіцца на «ўзнаўленні грамадскага даверу» з-за таго, што яна разгледзела шэраг абвінавачванняў у сэксуальным гвалце, вылучаных супраць Жана-Клода Арно, мужа члена Акадэміі Катарыны Фростэнсан. Арно быў асуджаны за згвалтаванне і прысуджаны да турэмнага зняволення ў мінулым кастрычніку.

Значнымі зменамі ў прэміі стала прызначэнне пяці незалежных і знешніх членаў, якія дапамогуць Шведскай акадэміі выбраць нобелеўскіх лаўрэатаў «на наступныя некалькі гадоў». Тое, як выбіраецца пераможца, доўгі час было сакрэтам, які старанна ахоўвалі: вядома, што ў лютым Акадэмія разглядзела каля 200 намінацый, а да траўня быў вызначаны кароткі спіс. Яшчэ пяць аўтараў былі вызначаны летам. Архівы, у якіх падрабязна выкладаецца матывацыя журы, раскрываюцца для знешняга свету толькі праз 50 гадоў пасля падзеі.

## Найбуйнейшая літаратурная прэмія Аўстраліі

**Як паведаміла выданне «The Guardian», іранскі аўтар Бехруз Бучані, які шукае палітычнага прытулку, атрымаў найбуйнейшую аўстралійскую літаратурную прэмію.**

Аднак сам лаўрэат, які сумарна атрымаў 125 тысяч долараў у намінацыі «Non-fiction prize» і «Victorian prize» за літаратуру і «Victorian premier's literary awards-2019», не прысутнічаў на цырымоніі, паколькі з'яўляецца вязнем турмы на востраве Мануса.

У адпаведнасці з жорсткай іміграцыйнай палітыкай Аўстраліі асобы, якія шукаюць прытулку і якія спрабуюць трапіць у краіну на лодцы, «апрацоўваюцца» ў афшорных цэнтрах.

Бехруза Бучані, чыя дэбютная кніга атрымала як навукова-папулярную прэмію (25 тысяч даляраў), так і галоўны прыз за літаратуру ў памеры 100 тысяч даляраў, не пускаюць у Аўстралію. Курдска-іранскі пісьменнік просіць палітычнага прытулку, яго амаль 6 гадоў трымаюць на «чыстцы» на востраве Мануса ў Папуа-Новай Гвінеі — спачатку за сеткай аўстралійскага афшорнага цэнтра ўтрымання пад вартай, а затым у альтэрнатыўным жыллі на востраве.

А цяпер яго кніга «Няма аднаго, акрамя гор», складзеная з тэкставага паведамлення з цэнтра заключэння, была прызнана ўрадам той жа краіны, якая адмовіла яму ў доступе… Гэта, паводле выказвання пісьменніка, «парадаксальнае пачуццё».

Сам аўтар распавёў «The Guardian»: «Я, вядома, не пісаў гэтую кнігу проста дзеля таго, каб атрымаць узнагароду. Мая заўсёдная галоўная мэта — каб людзі ў Аўстраліі і ва ўсім свеце глыбока разумелі, як гэтая сістэма здзекавалася з нявінных людзей у Мануса і Науру на працягу амаль шасці гадоў. Я спадзяюся, што гэтая ўзнагарода прыцягне больш увагі да нашай сітуацыі, прывядзе да зменаў і да завяршэння гэтай варварскай палітыкі».

Ад імя Бучані ўзнагароду атрымаў яго перакладчык Амід Тафігян, які працаваў сумесна з перакладчыкам Мунсом Мансубі над тэкстам Бучані пры перакладзе з фарсі на ангельскую.

Прэмію ў галіне мастацкай літаратуры атрымала Эліз Вальморбіда за раман «Мадона гор» («The Madonna of the Mountains»).

Кендал Фівер быў уганараваны ў намінацыі «Драма» за п'есу «Усемагутны зрэдку» («The Almighty Sometimes»), а Кейт Лілі атрымала прыз у намінацыі «Паэзія» за зборнік «Цілт» («Tilt »).

Кім Скот атрымала прэмію за «Табу» («Taboo») у намінацыі «Літаратура абарыгенаў».

Вікторыя Ханна ўзнагароджана ў намінацыі «Неапублікаваныя рукапісы» (прыз у памеры 15 тысяч долараў) за «Кокамо» («Kokomo»), а Бры Ці выйграла прыз глядацкіх сімпатый за мемуары «Чэрап з яечнай шкарлупіны».

## Серыя паштовак, прысвечаных пісьменніцам

**Выдатная калекцыя «SHE» з 100 мастацкіх паштовак, натхнёных знакамітымі жанчынамі-пісьменніцамі, была прафінансавана на краўдфандынгавай платформе «Kickstarter» напрацягу сутак.**




Больш за 500 спонсараў папярэдне замовілі калекцыю (на памяць) з дапамогай розных узнагарод, якія яны атрымаюць да ліпеня.

«SHE-art» — гэта візуальная ода жанчынам-пісьменніцам, якія сваім словам зрабілі значны ўплыў на будучыя пакаленні чытачоў. Элегантныя ілюстрацыі прыцягваюць увагу да вялізнага ўнёску знакамітых пісьменніц.

Калекцыя «ўключае ў сябе» па дзве з 100 паштовак: адну — для захоўвання і адну — для адпраўкі поштай. Яны аддрукаваныя на дарой паперы з выдатнай якасцю друку і захоўваюцца ў падарункавай скрынцы, якую можна пакласці на кніжную паліцу або часопісны столік, і з'яўляюцца выдатным калекцыйным прадметам для ўсіх, хто любіць мастацтва і літаратуру, а таксама ўнікальным падарункам для аматараў кніг і мастацтва.

Калекцыя паштовак «SHE-art» упершыню была выдадзена ў 2017 годзе і складалася з 24 ілюстрацый. Яна атрымала шырокі водгук у энтузіястаў, прымусіўшы сузаснавальнікаў кампаніі «Obvious State» імкнуцца да большага, а поспех першага праекта натхніў на пашырэнне калекцыі.

## Першая экранізацыя «Ста гадоў адзіноты»

**Паводле паведамлення «плыневага» інтэрнэтсэрвіса «Netflix», ён атрымаў правы на першую экранізацыю найбольш вядомай кнігі калумбійскага пісьменніка, Нобелеўскага лаўрэата Габрыэля Гарсіі Маркеса. Упершыню будзе зняты серыял па матывах рамана «Сто гадоў адзіноты».**




У паведамленні адзначаецца: « "Netflix" набыў правы на шэдэўр Габрыэля Гарсіі Маркеса «Сто гадоў адзіноты» і адаптуе яго да вытворчасці ў серыі. Гэта першы і адзіны раз за больш чым 50 гадоў існавання рамана, калі сям'я аўтара дазволіла адаптаваць праект для экрана».

Як паведаміла выданне «Variety», здымкі серыяла пройдуць пераважна ў Калумбіі — на радзіме літаратара. Таксама вядома, што сыны пісьменніка — Радрыга Гарсія Барч і Гансала Гарсія Барч — будуць выканаўчымі прадзюсарамі серыяла. Пра іншыя падрабязнасці праекта пакуль не паведамлялася.

Паводле слоў Радрыга Гарсія, яго бацька дзесяцігоддзі адмаўляўся прадаваць правы на экранізацыю «Ста гадоў адзіноты» з прычыны абмежаванасці кінафільмаў у часе, а таксама патрабаванняў экранізацыі толькі на іспанскай мове. Сын сусветна вядомага літаратара адзначыў: «Аднак менавіта цяпер, у залаты век серыялаў, калі ўзровень сцэнарнага і рэжысёрскага таленту такі высокі, а гледачы ва ўсім свеце з задавальненнем спажываюць кантэнт на замежных мовах, гэта стала магчыма».

Раман «Сто гадоў адзіноты» Габрыэля Гарсіі Маркеса, 92-я гадавіна з дня нараджэння якога адзначалася 6 сакавіка, быў апублікаваны ў 1967 годзе. За яго, а таксама і іншыя творы, пісьменнік быў уганараваны Нобелеўскай прэміяй па літаратуры.

## Кніга-рэкардсмен 2018 года ў ЗША

**Аўтабіяграфія былой першай лэдзі ЗША займае першыя радкі рэйтынгаў па продажах.**




Кніга «Станаўленне» (або «Becoming» у арыгінальным варыянце назвы) — моцная і неверагодна цікавая аўтабіяграфія, напісаная для людзей і пра людзей. Мішэль Абама паўстала ў сваім звычайным амплуа і акцэнтавала ўвагу на тым, што жыццё яе і гісторыя — такія ж, як і тысяч іншых амерыканцаў.

Продажы «Станаўлення» пабілі рэкорд, усталяваны бэстсэлерамі ЗША з 2012 года.

У першыя тыдні продажаў выдавецкі дом «Penguin Random House "Becoming"» быў вымушаны дадрукоўваць новыя асобнікі, але пры гэтым слухаў «стогны ўладальнікаў кніжных крам у ЗША»: «Кніга скончылася, рабіце ж што-небудзь!».

Менавіта гэтая кніга стала пераможцам у ролі каляднага падарунка: яе набывалі мамам і жанчынам, падлеткам і босам у кампаніях, калегам і, нарэшце, проста куплялі сабе.

«Галоўная "разыначка" аўтабіяграфіі ў тым, што Мішэль не выдумала ні слова — усё праўда», — пішуць чытачы. «Аўтарка адкрытая і неверагодна харызматычная. Апошняга ў ёй ці не больш, чым у мужа, які дамогся такой неверагоднай пасады і з гонарам вытрымаў усе выпрабаванні!», — дадаюць іншыя.

«"Станаўленне" — гэта не ўсё жыццё, а толькі яго адрэзак. Я не маю намеру спыняцца, бо наперадзе яшчэ вельмі шмат цікавага!», — сказала Мішэль Абама на адной з прэзентацый сваёй кнігі ў Амерыцы.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Байсангур з Беною — чалавек з каменю

Мікалай ДЗЯДОК

**Якая ўнутраная сіла штурхае людзей да самаахвярнасці? Што можа прымусіць чалавека пазбавіцца самага дарагога, што ў яго ёсць, — жыцця? Рэлігія? Нянавісць? Любоў да радзімы? А што бывае, калі ўсё гэта спалучаецца і накладаецца на прыроджаную непахісную волю і воінскае выхаванне? Тады нараджаюцца такія, як Байсангур з Беною.**

Антыкаланіяльная барацьба народаў Каўказу мае доўгую гісторыю, якая цягнецца і па сённяшні дзень. У гэтым крывавым віры нараджаліся героі, імёны якіх малавядомыя нават тым з нас, хто цікавіцца гісторыяй, але яны па-сапраўднаму вартыя таго, каб іх памяталі.

Байсангур з'явіўся на свет у 1794 годзе, што даволі сімвалічна, — у гэтым годзе на нашай радзіме віравала паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Пра дзяцінства і продкаў Байсангура амаль нічога не вядома, акрамя таго, што ён паходзіў з сялянскай сям'і. Затое гісторыкі дакладна ведаюць, што да пачатку газавата (вайны за веру) Імама Шаміля Байсангур ужо быў падрыхтаваным паўстанцам: у 1826 годзе ён прыняў удзел у бунце пад кіраўніцтвам Бейбулата Таймiева, а ў 1828–1832 гадах — у паўстанні імама Газі-Мухамада.

Беной — не толькі сяло (цяпер гэта Нажай-Юртаўскі раён Чачні), але і буйнейшы па колькасці тэйп Ічкерыі, з якога паходзяць таксама браты Ямадаевы і сямейства Кадыравых. Але ў сярэдзіне XIX стагоддзя сяло і яго ўраджэнцы былі мясцовым цэнтрам супраціву Расійскай імперыі. Тут у 1839 годзе хаваўся пасля разгрому адзін з наібаў (намеснікаў) Імама Шаміля Ташэв-Хаджы. У тым жа годзе сюды сышоў сам Імам Шаміль з сям'ёй, які пацярпеў паразу ў Дагестане. У гэтым апірышчы паўстанцаў і пачалося баявое сяброўства аварца Шаміля, кумыка Ташэв-Хаджы і чачэнца Байсангура.

Пасля абвяшчэння Шаміля імамам Чачні і Дагестана, ён зрабіў Байсангура сваім наібам і кіраўніком Беною.

У 1842 годзе здарылася першая перамога. Кіруючы атрадам беноеўцаў, Байсангур удзельнічаў у разгроме экспедыцыйнага атрада карнікаў расійскага генерала Грабэ, які за 11 гадоў да таго змагаўся з паўстанцамі пад Мінскам. Каля 2000 горцаў пры дапамозе мясцовага апалчэння чатыры дні гамілі 10-тысячны экспедыцыйны корпус рускіх, здолелі знішчыць дзве тысячы салдат і выштурхнуць Грабэ з Ічкерыі. За мужнасць у баі



**Тэадор Гаршэль. Паланенне Шаміля**

**Калі Байсангур даведаўся, што імам ідзе здавацца, то, як мог, спрабаваў угаварыць яго гэтага не рабіць. Але імам ужо не збіраўся мяняць рашэнне. Раз'юшаны Байсангур выхапіў пісталет і крыкнуў: «Павярніся!» Той праігнараваў, бо ведаў — Байсангур не страляе ў спіну**



Шаміль узнагародзіў Байсангура медалём.

У 1845 годзе Байсангур у складзе войскаў паўстанцаў паспяхова разбіў атрады графа Варанцова. Навіны пра гэта хутка абляцелі ўсю Еўропу. Карл Маркс у «Камуністычным часопісе», друкаваным органе патаемнага лонданскага «Саюза камуністаў», пісаў: «Храбрыя чаркесы зноў нанеслі рускім некалькі сур'ёзных паразаў... Народы, вучыцеся ў іх, на што здольныя, людзі, якія хочуць заставацца вольнымі!»

У 1846 годзе ў баі Байсангур згубіў руку і вока, аднак не спыніў барацьбу. У 1847-м пры асадзе аула Гергебіль у Дагестане наібу адарвала нагу, і яго, ледзь жывога, узялі ў палон царскія жаўнеры. Пры непасрэднай дапамозе Шаміля атрад горцаў атакаваў канвой, які вёз параненага палкаводца ў крэпасць Грозную. Байсангур і тады бачыў супраціў адзіным сэнсам свайго жыцця. Не здольны самастойна трымацца ў сядле, ён, аднавокі, аднарукі і аднаногі, патрабаваў, каб яго прывязвалі да каня падчас бою, трымаў павады зубамі і адной цэлай рукой сек ворагаў.

Пасля правалу першай лабавой атакі на народы Каўказа царызм змяніў тактыку, і новыя царскія генералы высякалі лясы, дзе хаваліся паўстанцы, высялялі цэлыя вёскі, а галоўнае — пачалі сеяць разлад між наібаў, падкупляць і прыцягваць да калабарацыі мясцовых лідараў. Супраць войскаў Шаміля сцягнулі да 200 тысяч расійскіх жаўнераў — гэта прыблізна столькі, колькі было ў арміі Напалеона, калі яна наступала на Расію. Да траўня 1859 года ўся Чачня была занятая царскімі войскамі. Пасля шэрагу паразаў некалькі сотняў найбольш адчайных горцаў спыніліся ў ауле Гуніб, дзе далі апошні бой войскам імперыі.

Гара Гуніб, на якой знаходзіўся аул, — прыродная крэпасць, якая ўзвышаецца над мясцовасцю на 200–400 метраў. Амаль па ўсім перыметры яна абкружаная стромкімі схіламі. Само сяло знаходзілася ва ўсходняй частцы гары, і адзіным шляхам да яго была крутая сцежка ўздоўж крыніцы.

Абаронцы Гуніба (сярод якіх былі і беглыя расійскія жаўнеры) умацавалі падыходы да гары заваламі з бярвення, падрыхтавалі горы камянёў у якасці зброі і выставілі вартавых. У Шаміля было не больш за 400 чалавек з чатырма пушкамі. Войска расійцаў, што падышло пад Гуніб, складала шаснаццаць тысяч...

Напад рыхтаваўся два тыдні — войскі генерала Кеслера рабілі асаду па ўсіх правілах вайсковай навукі. І вось на золку 25 жніўня 1859 года пачаўся штурм. Удзень усё было скончана. Большасць абаронцаў Гуніба загінулі — і сярод іх, дарэчы, было нямала жанчын. Імам Шаміль добраахвотна здаўся ў палон.

Дагэтуль лічыцца, што калі Байсангур даведаўся, што імам ідзе здавацца, то паскакаў да Шаміля і, як мог, спрабаваў угаварыць яго гэтага не рабіць. Але імам ужо не збіраўся мяняць рашэнне. Тады раз'юшаны Байсангур выхапіў пісталет і, наставіўшы яго на Шаміля, які сыходзіў, крыкнуў: «Павярніся!» Той праігнараваў гэты крык, бо ведаў — Байсангур не страляе ў спіну. І таму застаўся жывы. Гэты драматычны эпізод, дарэчы, адлюстраваны ў многіх песнях чачэнскіх бардаў сучаснасці: у прыватнасці, Цімура Муцураева і Імама Алімсултанава.

Тым не менш з купкай паплечнікаў Байсангур змог прарвацца з Гуніба і сысці ў Беной, дзе заставаўся да траўня 1860 года.

Царскія войскі ўжо святкавалі перамогу над непакорным Каўказам, чыноўнікі ўжо падрыхтаваліся дзяліць урадлівыя землі і абкладаць сялян падаткамі — але не ўсё было так проста. Няспынны Байсангур не толькі залечваў раны — ён рыхтаваў новае паўстанне. У тым жа месяцы ў ауле Беной і вярхоўі ракі Аргун пачаліся сутычкі з царскімі войскамі. Часам паўстанцам удавалася перамагчы, часам яны цярпелі паразы. У чэрвені наіб палоннага імама разграміў атрад генерал-маёра Мусы Кундухава — мясцовага калабаранта. Яшчэ год Беной заставаўся вольнай тэрыторыяй. У адным з баёў пад Байсангурам быў забіты конь, сам ён атрымаў чарговае раненне і, нягледзячы на супраціў, быў захоплены ў палон разам з сынамі.

Палкаводца судзілі хуткім ваенна-палявым судом. Ён быў прыгавораны да смерці. 3 сакавіка 1861 года Байсангура павезлі на галоўную плошчу Хасавюрта, каб павесіць. Калі 67-гадовага Байсангура, скалечанага, але няскоранага, без рукі, нагі і вока, параненага, падвялі да шыбеніцы, ён не даў кату здзейсніць прысуд. А калі з натоўпу выйшаў запрошаны «добраахвотнік», сам выбіў з-пад сябе табурэт.

На месцы яго павешання расійцы неўзабаве пабудавалі праваслаўную царкву.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Назарбаеў па-ранейшаму прэзідэнт

У Туркменістане палічылі за лепшае не заўважыць падзеі ў Казахстане. Дзяржаўныя СМІ Туркменістана (больш за 60 друкаваных выданняў, 7 тэлеканалаў і 4 радыёстанцыі) не прысвяцілі ніводнага матэрыялу сыходу Назарбаева. Замест гэтага дзяржаўныя медыя апублікавалі поўныя тэксты святочных віншаванняў з Наўрузам на адрас прэзідэнта Бердымухамедава ад кіраўнікоў розных дзяржаў. Верагодна, мясцовыя эліты асцерагаюцца ўзнікнення ў насельніцтва нязручных аналогій у вельмі цяжкі для краіны час. Апошнімі гадамі эканамічнае становішча краіны сур'ёзна пагоршылася з-за праблем з экспартам газу — асноўнай крыніцы даходаў бюджэту. З вясны 2018 года з-за дэфіцыту хлеба ў туркменскіх крамах прозвішчы пакупнікоў запісваюцца ў спецыяльныя кнігі, і людзі атрымліваюць не больш як два боханы на рукі. Аналагічная сітуацыя, паводле сведчанняў відавочцаў, назіраецца і з іншымі жыццёва важнымі прадуктамі. Зрэшты, не выключана, што ў Ашхабадзе палічылі: адстаўка Назарбаева — не вартая ўвагі, у адрозненне ад шматлікіх «поспехаў» Гурбангулы Бердымухамедава.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Без цара няма адзінства?

У грузінскай сталіцы працягваецца беспрэцэдэнтны судовы працэс. Тбіліскі гарадскі суд разглядае пазоў адной галіны царскай фаміліі Баграціёнаў-Грузінскіх да іншай — Мухранскіх. Служкам Феміды трэба вызначыць, якая з галін мае права лічыцца царскай. Пікантнасці працэсу надае тое, што судзяцца непасрэдна былыя муж і жонка. На думку шматлікіх экспертаў, цяперашні працэс — агонія грузінскага манархізму, які, дарэчы, мае дастаткова вялікую падтрымку ў грамадстве. Пры гэтым таксама ўзгадалі, што адраджэнне манархіі давала шанц на аднаўленне адзінства краіны. Грузінскія манархісты ніколі не хавалі, што спадзяюцца прымірыцца з абхазамі як гістарычнымі саюзнікамі ў працэсе стварэння сярэднявечнага грузінскага царства. Таксама вядома, што муж царыцы Тамары, Давід (Саслан), быў з Асеціі. Іншымі словамі, у грузін, асецінаў і абхазаў маецца нейкая агульная платформа ў выглядзе гістарычнай памяці. Аднак у кантэксце цяперашняга працэсу, які нагадвае здзек з ідэі манархіі, пра гэты варыянт аднаўлення еднасці давядзецца забыць. Зрэшты, некаторыя гісторыкі кажуць, што манархія — вельмі рызыкоўны праект. Да таго, як у 1810 годзе Расія ліквідавала Грузінскае царства, у краіне не спыняліся крывавыя канфлікты паміж арыстакратычнымі кланамі.

**Паводле грузінскай прэсы**

### РАСІЯ. Першы помнік Чынгісхану

У Яшкульскім раёне Калмыкіі адкрыецца мемарыяльны комплекс, прысвечаны Чынгісхану. Цэнтрам яго стане першы ў Расіі помнік вялікаму мангольскаму заваёўніку. У канчатковым варыянце мемарыяльны ансамбль будзе складацца са скульптур чатырох мангольскіх ваяроў, якія ўздымаюць Чынгісхана над зямлёй. Ваяры будуць сімвалізаваць чатыры мангольскія плямені. Сярод іх былі і торгуты, з якіх вялікі мангольскі палкаводзец набіраў сабе асабістую ахову. Нашчадкі тых торгутаў зараз жывуць у Калмыкіі. Цалкам адкрыць першы ў Расіі мемарыял у гонар Чынгісхана плануецца праз некалькі месяцаў, летам 2019 года. Для з'яўлення ў калмыцкім стэпу мемарыяльнага комплексу ў гонар мангольскага хана ёсць цалкам прагматычная прычына. Мясцовыя спадзяюцца, што незвычайны помнік стане цэнтрам прыцягнення турыстаў. Не дзіўна, што 4-метровая скульптура хана стваралася метадам народнай будоўлі і на ахвяраванні мясцовых жывёлаводаў і фермераў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Майкла Джэксана — у чорны спіс?

У прэсе ўсур'ёз абмяркоўваюць магчымасць поўнай забароны творчасці вядомага амерыканскага музыкі Майкла Джэксана. Усё з-за дакументальнага фільма «Leaving Neverland», які нядаўна паказалі ў ЗША. Героямі нашумелай стужкі сталі Джэймс Сейфчак і Уэйд Робсан, якія праз гады прызналіся, што ў дзяцінстве, калі яны разам са сваімі сем'ямі гасцявалі на знакамітым ранча спевака «Neverland», падвяргаліся сексуальнаму гвалту з боку Джэксана. Па слядах прэм'еры паўстала незвычайная думка: песні Майкла Джэксана былі часткай яго злачыннай схемы. За кошт музыкі ён, нібыта, хацеў увайсці ў давер да дзяцей. Адсюль ідэя цалкам забараніць спадчыну Джэксана як інструмент злачынства. Акрамя таго, як лічаць прыхільнікі забароны, песні Джэксана могуць інспіраваць новую хвалю сексуальнага гвалту. Некаторыя радыёстанцыі ў Новай Зеландыі, ЗША і Канадзе падтрымалі заклік і ўжо выкраслілі з плэй-лістоў творы караля поп-музыкі. Праўда, да ініцыятывы далучыліся не ўсе. Для многіх Майкл Джэксан застаецца часткай амерыканскай культурнай спадчыны і атрыбутам іх юнацтва.

**Паводле французскай прэсы**

# Апошнія выбары з тэлевізарам

Алег НОВІКАЎ

**Выбары прэзідэнта Украіны, якія адбудуцца 31 сакавіка, лічацца вызначальнымі з пункту гледжання таго, як краіна будзе развівацца далей. Але ўжо відавочна: цяперашнія выбары — апошнія, надвор'е на якіх вызначаў тэлевізар.**



Фота www.ok.ru

Яшчэ ў 2014 годзе, калі палітолагі разбіралі прычыны краху Віктара Януковіча, яны адзначалі: рэжым аказаўся не гатовы да інфармацыйнага супрацьстаяння новага тыпу. У той час, як каманда Януковіча спрабавала захапіць татальны кантроль над «тэлескрыняй», яна ўшчэнт прайграла інтэрнэту і сацыяльным сеткам. У гэтым плане нават сімвалічна, што пратэсты пачаліся пасля публікацыі ў Facebook паста журналіста Мустафы Наема, які заклікаў сяброў выходзіць на Майдан.

За апошнюю пяцігодку тэндэнцыя ўзмацнення ўплыву інтэрнэту стала больш яскравай. Ужо сёння рэйтынгі тэлебачання і навінавых сайтаў ва Украіне цалкам супастаўныя. 17-мільённая аўдыторыя сацыяльных сетак таксама выйшла за межы спажыўца навін. З дапамогай інтэрнэту некалькі кандыдатаў у прэзідэнты зрабілі моцныя кампаніі і фандрайзінг. Асабліва памятная кампанія незалежнага журналіста Дзмітрыя Гнапа, якому праз сеціва ўдалося сабраць неабходныя для рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты прыкладна 80 тысяч долараў. З іншага боку, магчыма, лепш бы тая кампанія была не такой паспяховай. Тут жа стала вядома, што ў 2015 годзе Гнап атрымаў грант у 15000 еўра, які абавязаўся ахвяраваць на войска, але слова не стрымаў.

Што да ролі новых медыя на выбарах, дык у тэлебачання з'явіўся такі магутны канкурэнт, як Youtube. Назіраецца папросту бум каналаў, якія асвятляюць палітычны працэс. Прычым часта гэтыя студыі пачалі цясніць тэлеканалы. Сакрэт поспеху новых медыя заключаецца ў мабільнасці, незалежнасці, адсутнасці цэнзуры. Такім чынам, на выхадзе аказалася, што канал на Youtube патрабуе значна менш выдаткаў пры не меншай эфектыўнасці ўздзеяння на публіку, чым тэлебачанне. Ажыятаж прыватных каналаў падаграваюць лічбы — прыкладна траціна рэкламы ўжо сышла ў сеціва. Як вынік, тэлебачанне пакуль застаецца галоўным інструментам агітацыі, аднак роля інтэрнэту значна ўзрасла.

Менавіта на адным з такіх каналаў — BIHUS info — з'явіўся сенсацыйны матэрыял пра карупцыйныя схемы ў абароннай галіне, да якіх меў дачыненне Парашэнка. Лічыцца, што скандал, выкліканы той публікацыяй, не дазволіў Парашэнку замацаваць тэндэнцыю росту рэйтынгу і дыскрэдытаваў яго ў асяроддзі патрыётаў.

Упершыню ў гісторыі краіны палітычны парадак дня пачалі дыктаваць блогеры. Да шэрагу класікі ўжо цяпер можна аднесці флэшмоб апазіцыйнага блогера Анатоля Шарыя. Той заклікаў сваіх падпісантаў на розных мітынгах і сустрэчах з удзелам Парашэнкі задаваць кіраўніку дзяржавы нязручныя пытанні наконт расследу ўладай. Гарант і яго ахова рэагавалі на такія пытанні вельмі эмацыйна.

**Калі Зяленскі, які арыентуецца на сацсеткі, атрымае істотную колькасць галасоў, з'явяцца ўсе падставы казаць — выбарчы цыкл стаў апошнім, калі тэлебачанне з'ядала значную долю выбарчых бюджэтаў**

Парашэнка зрываў шапкі ў прысутных, а ахоўнікі нават неяк спалілі аўтамабіль аматара задаваць прэзідэнту правакацыйныя пытанні. У выніку перадвыбарчы тур Парашэнкі апынуўся хаатычным. У навіны траплялі не агучаныя на мітынгах тэзісы кандыдата, а паведамленні пра выхадкі фанатаў Шарыя.

Аднак гэта толькі кветачкі. Фаварытам выбараў 31 сакавіка лічыцца кандыдат, які ўвогуле практычна не з'яўляецца ў рэале. Уладзімір Зяленскі, што, паводле апытанняў, мае 30 працэнтаў падтрымкі, правёў усю выбарчую кампанію ў лічбавым фармаце і не выходзіў у народ у якасці палітычнага дзеяча.

Такога сусветная электаральная гісторыя яшчэ не ведала. Таму беспрэцэдэнтны поспех віртуальнага кандыдата палохае нават самых паслядоўных парашэнкафобаў. «Ён жыве ў „лічбе“, мае невыразную праграму і невыразныя абяцанні. А ці можа быць лічбавым галоўнакамандуючы? Усё ж у яго павінны быць рэальныя адміністрацыйныя кампетэнцыі, паўнамоцтвы і дзейнасць», — кажа палітолаг Вадзім Карасёў.

Апісаных прыкладаў уплыву інтэрнэту на выбары некаторым палітолагам хапае, каб гучна заявіць: бліжэйшая пяцігодка стане часам новых інфармацыйных выбарчых тэхналогій і новых інфармацыйных праектаў. Праўда, некаторыя ў жаху ад такіх прагнозаў. Узровень палітычных дэбатаў у сацсетках вельмі прымітыўны. Адпаведна, прымітыўнай будзе і палітычная культура, пабудаваная на такой базе. Звяртаецца ўвага на тое, што пераход палітыкі ў інтэрнэт прапарцыйны росту палітычнага папулізму.

Хаця сама ідэя таго, што інтэрнэт можа замяніць тэлебачанне, усё яшчэ выклікае сярод украінскіх экспертаў шмат скепсісу. Справа ў тым, што звычайны выбаршчык у сваёй большасці ў інтэрнэце не сядзіць. На вэб-сайтах і ў сацсетках — пераважна палітыкі, журналісты, офісныя клеркі, моладзь. Яны там нешта лайкаюць. Але, калі надыходзіць дзень выбараў, трэба не проста лайкнуць, а ўстаць, узяць пашпарт, некуды пайсці ды згубіць як мінімум гадзіну часу. А менавіта на такі крок гэтая група насельніцтва не здольная.

Напэўна, пераможцаў гэтай палемікі вызначаць 31 сакавіка. Калі Зяленскі, які арыентуецца на аматараў сацсетак, атрымае істотную колькасць галасоў, з'явяцца ўсе падставы заявіць — выбарчы цыкл 2019–2020 гадоў стаў апошнім цыклам, калі графа «тэлебачанне» з'ядала львіную долю выбарчых бюджэтаў.

Дарэчы, Зяленскі абяцае, што на наступных выбарах прэзідэнта, праз пяць гадоў, украінцы будуць галасаваць ужо праз сацыяльныя сеткі: толькі на кампутар ці мабільнік трэба будзе спампаваць адпаведную праграму.


Фота www.ru-an.info

# Аграрый атакуе

Алег НОВІКАЎ

**За Бугам назіраецца незвычайная, падавалася, для нашага XXI стагоддзя з'ява — бунт фермераў.**

Аграрыі блакуюць аўтамагістралі, рашуча б'юцца з паліцыяй, кідаюць у сілавікоў бульбай і яблыкамі... Такія сцэны адразу выклікаюць у памяці польскія рэаліі пачатку нашага стагоддзя. На той час праз эканамічныя рэформы сацыяльная сітуацыя ў Польшчы была вельмі напружанай. Менавіта тады ўзышла зорка Анджэя Лепера і яго папулісцкай партыі «Самаабарона».

У 2000 годзе «Самаабарона» арганізавала пікеты аграрыяў на найбуйнейшых аўтамагістралях краіны ды зрабіла сабе добрую рэкламу. На выбарах 2000 года «Самаабарона» заняла трэцяе месца, яе падтрымалі 10,5% выбаршчыкаў. У першым туры прэзідэнцкіх выбараў 2005-га Анджэй Лепер заняў трэцяе месца з 15% галасоў, і нават стаў міністрам.

Аднак утрымацца ў палітычным істэблішменце Леперу не ўдалося. Хутка «Самаабарона» маргіналізавалася, вылецела з Сейму, а яе лідар быў знойдзены павешаным у сваім працоўным кабінеце. Паліцыя палічыла яго смерць самагубствам, хаця беларускі прадстаўнік у АБСЕ выказаў занепакоенасць «трывожным фактам гібелі буйнога апазіцыйнага палітыка».

І вось дух Лепера, падаецца, вярнуўся. Ад сакавіка мінулага года ў краіне здараюцца пратэсты аграрыяў. Найбольш папулярным сродкам барацьбы, як і ў 1990-я гады, з'яўляецца блакада аўтамагістраляў, хаця часам у ход ідуць і папулярныя перфомансы. Напрыклад, падчас аднаго з пікетаў сяляне зварылі суп са сцягам Еўрасаюза. Найбольш рэзанансная была акцыя 13 сакавіка ў цэнтры Варшавы. Дэсант з правінцыі раскідаў на галоўных вуліцах і трамвайных шляхах яблыкі і тушы свінняў, заблакаваўшы транспартны рух.

Канцэпт таго, што адбываецца, растлумачыў лідар аграрыяў Міхал Каладзейчак (Michał Kołodziejczak). «Варшавяне былі адрэзаныя ад дарог, што вельмі сімвалічна. Такім чынам нам удалося давесці, як фермеры адрэзаны ад рынкаў збыту ў Польшчы. І гэта толькі пачатак», — сказаў ён.

Міхал Каладзейчак — адзін з лідараў групы AGROunia, якая пачынала як лакальнае таварыства. Цяпер AGROunia за кошт рэзанансных акцый мае агульнанацыянальную структуру. Гучыць па ўсёй краіне таксама і імя яе 31-гадовага правадыра, які да таго, як стаць радыкалам, займаўся вырошчваннем капусты. Прыкладна ў 2016 годзе ў бізнесе пачаліся праблемы, і Каладзейчак зацікавіўся палітыкай.

На думку Каладзейчака і яго паплечнікаў, прычынай крызісу аграсектару з'яўляецца шэраг памылак ураду. Нізкія закупачныя цэны, якія прапануюць сеткі супермаркетаў, згода на імпарт свініны з Літвы і Украіны, адсутнасць поспеху ў барацьбе з афрыканскай чумой свінняў... Кабмін робіць крайнім таксама за расійскае эмбарга на тавары польскай сельскай гаспадаркі. Адным словам, патрэбная «карэкцыя міжнароднай палітыкі ўрада, паколькі яна павінна ўлічваць інтарэсы польскіх сем'яў, якія працуюць у сельскай гаспадарцы», — адзначаецца ў пракламацыях AGROunia.

Па сутнасці, рэалізацыі патрабаванняў сялян азначае змену геапалітычнага курса Варшавы. Гандлёвы кампраміс з Масквой, абмежаванне імпарту з Украіны, аўтаномія ад Еўропы ў сферы аграрнай палітыкі — немагчымыя без канфрантацыі з Бруселем і Вашынгтонам.

Архаічна гучаць і патрабаванні фермераў наконт новых правілаў на ўнутраным рынку. Сярод іх — увядзенне квоты для польскіх прадуктаў ва ўсіх харчовых крамах. Такая квота, на думку AGROunia, павінна складаць 51 працэнт. З іншага боку, нельга не пагадзіцца з тым, што польскія фермеры часам няздольныя супрацьстаяць заходнім калегам па Еўрасаюзе, якія наперадзе Польшчы з пункту гледжання выкарыстання новых тэхналогій, арганізацыі вытворчасці і маркетынгу на агульным рынку.

Эксперты прызнаюць: «Каладзейчак агучвае лозунгі работнікаў сярэдніх польскіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія не ў стане канкураваць з заходнімі калегамі». Яму сімпатызуюць таксама маладыя правінцыялы, якім надакучылі старыя партыі. Дадатковыя пункты папулярнасці Каладзейчаку прынёс выклік 25 сакавіка ў сталічную пракуратуру, дзе яго абвінавацілі ў парушэнні шэрагу крымінальных артыкулаў. Цяпер актывісту пагражае пяць гадоў турмы.

Важна адзначыць, што справа адбываецца напярэдадні травеньскіх выбараў у Еўрапарламент і восеньскіх выбараў у Сейм. Як вынік, Каладзейчака спакушаюць з усіх бакоў. Правыя бачаць у ім змагара за нацыянальныя інтарэсы. Левыя пяюць яму дыфірамбы як паслядоўнаму праціўніку дыктатуры карпарацый і вялікага капіталу. Каладзейчака ўжо бачылі ў кампаніі Януша Корвіна Міке — вядучага польскага еўраскептыка.

У сваю чаргу, назіральнікі пішуць, што ў галаве ў Каладзейчака абсалютны ідэйны кактэйль, і ніводнай партыі пасаваць ён не будзе. Таму яго палітычная будучыня не вызначаная. З іншага боку, яны таксама адзначаюць, што такога харызматычнага і рашучага маладога палітыка Польшча даўно не бачыла.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Цьеры Бадэ



Нідэрландскі палітык, лідар правай партыі «Форум за дэмакратыю» (FvD), нарабіў шмат шуму на выбарах у сенат.

«Форум за дэмакратыю» набраў найбольш працэнтаў на выбарах у сенат (14 працэнтаў галасоў). Самае незвычайнае ў тым, што рыторыка Бадэ мала адрозніваецца ад таго, што кажуць лідары іншых правапапулісцкіх партый. Палітык, як усе, крытыкуе ЕЎрасаюз, наплыў мігрантаў, зону еўра, барацьбу супраць змены клімату... Аднак чамусьці людзі галасуюць менавіта за яго.

Сакрэт папулярнасці часткова тлумачаць тым, што FvD стала мішэнню ліберальных медыя. На яе старонках Бадэ параўноўвалі з Трампам і Гітлерам. Медыя-кампанія, хутчэй, выклікала цікавасць да «Форуму за дэмакратыю». Аднак значна цікавейшая тэорыя, што за Бадэ галасуюць з-за яго незвычайнага палітычнага стылю.

Бадэ не імкнецца быць папулярным палітыкам, упарта стварае сабе вобраз інтэлектуала, падкрэслена складанага, які не хоча, каб яго разумелі ўсе. Напрыклад, у парламенце ён выступае на латыні, грае на раялі класіку, піша кнігі па філасофіі, прынцыпова не ведае і не жадае ведаць нічога пра сучасную моладзевую культуру. Бадэ нават не спрабуе схаваць сваёй прыналежнасці да эліты і не імкнецца стаць бліжэй да людзей.

І самае цікавае, што такі імідж падабаецца простым выбаршчыкам, і ў тым ліку моладзі. Пакуль палітолагі не могуць зразумець сакрэту феномену правадыра «Форуму за дэмакратыю».

### Ганна Шчокіна



Хатняя гаспадыня сібірскага горада Усць-Ілімск з Іркуцкай вобласці, балатуючыся ад ЛДПР, сенсацыйна выйграла выбары мэра.

Пераможца набрала 44,04% галасоў выбаршчыкаў, а кандыдат ад партыі ўлады — толькі 37,3% галасоў. Самае смешнае, што падчас выбарчай кампаніі кандыдатка прасіла за яе не галасаваць.

Скандальны канфуз «Адзінай Расіі» спрабуюць разглядаць як адказ выбаршчыкаў на маніпуляванне грамадскай думкай. Паколькі ў рэгіёне папулярныя камуністы, «мядзведзі» вырашылі гэтую праблему апаратна-банальна: знялі з перадвыбарчай гонкі камуніста. У выніку гэта прывяло да таго, што ўвесь камуністычны электарат пайшоў і прагаласаваў за ЛДПР на знак пратэсту супраць выбрыкаў улады.

Але ёсць і іншая версія. Перамога Шчокінай — праява татальнага непрымання партыі ўлады. Людзі гатовыя галасаваць за каго заўгодна, абы не за прадстаўніка «Адзінай Расіі». У цяперашніх умовах «выбараў» пры штучнай адсутнасці рэальных альтэрнатыў, галасаванне за самага неадпаведнага персанажа — найбольш натуральная і разумная грамадзянская рэакцыя. Такая тэндэнцыя ўзнікла ў мінулым годзе ды працягвае ўмацоўвацца і ў гэтым сезоне.

У гэтай сувязі восеньскія выбары губернатараў і муніцыпалітэтаў у Расіі абяцаюць уладзе сур'ёзныя і, галоўнае, маштабныя паразы. Што тычыцца самой Ганны, то 28-гадовай дзяўчыне трэба будзе кіраваць горадам, не маючы ані каманды, ані адміністрацыйнага вопыту.

### Касым-Жамарт Такаеў



Прэзідэнт Казахстана, які заняў пасаду пасля рашэння Нурсултана Назарбаева сысці ў адстаўку, робіць першыя крокі ў новым статусе. Першапачаткова лічылася, што Такаеў — часовая фігура, якую на выбарах у наступным годзе зменіць хтосьці з Назарбаеўскай дынастыі. Такаеў пачаў дзейнасць на пасадзе прэзідэнта з перайменавання сталіцы, кадравых перастановак у адміністрацыі, знаёмства з краінай, а таксама візіту на футбольны матч Казахстан—Расія.

У чымсьці Такаеў сапраўды здзівіў. Ён дазволіў рэмарку пра тое, што неабходна спыніць марнаваць сродкі дзяржбюджэту на пампезныя мерапрыемствы — адна з любімых фішак Назарбаева. Да таго ж вярнуў у вертыкаль чыноўніка, якога прыкладна месяц таму асабіста адправіў у адстаўку Елбасы. На гэтай глебе паўстала версія, згодна з якой Такаеў вырашыў абаперціся на нядаўна разгромленыя эліты, што, аднак, не страціў уплыву, і сфармаваць з іх нейкую кааліцыю.

Іншыя звяртаюць увагу на тое, як Такаева сустракаюць чыноўнікі на месцах. Няма нават намёку на павагу, якую яны дэманстравалі Елбасы. Для іх Такаеў — не больш чым першы сярод роўных. Пакуль Такаеў усё ж выглядае як «транзітны» прэзідэнт, хаця нічога выключаць нельга.

# Як у Гомелі «Рускую народную

## У сакавіку 1919 года на фронце пад Калінкавічамі ўзбунтаваліся два палкі Чырвонай Арміі

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Ваенны мяцеж пад кіраўніцтвам былога штабс-капітана Стракапытава і яго наступствы былі адным з галоўных міфаў савецкай гісторыі Гомеля. У памяць пра яго ахвяраў было названа 7 вуліц горада, ім былі ўсталяваныя помнік і мемарыяльная дошка. Аднак і цяпер у гісторыі гэтага выступу хапае «белых плямаў». А ў апошні час з'яўляюцца і новыя інтэрпрэтацыі тых падзей. Гавораць ужо, нібы паўстанцы былі абгавораныя бальшавікамі, і наспеў час перагледзець старыя ацэнкі.**


Язэп Адамовіч


Віктар Аскілка

### Тульская брыгада ў Гомелі

Што ж адбылося ў Гомелі сто гадоў таму? Кім былі паўстанцы-стракапытаўцы і чаго яны хацелі? Ці можна іх параўнаць з удзельнікамі Слуцкага паўстання або махноўцамі?

67-ы і 68-ы палкі 8-й стралковай дывізіі былі ўкамплектаваныя найперш выхадцамі з Тульскай губерні і масквічамі. У Гомель яны прыбылі ў пачатку 1919 года і з цікаўнасцю разглядалі мясцовае асяроддзе. У горадзе пражывала шмат яўрэяў — з улікам пабытавага антысемітызму, абвостранага грамадзянскай вайной, некаторых чырвонаармейцаў і былых царскіх афіцэраў гэта моцна раздражняла. Яшчэ большую незадаволенасць выклікала і тое, што гамяльчане, у параўнанні з цэнтральнымі расійскімі губернямі, жылі адносна нядрэнна. У Гомелі на рынку можна было набыць розныя прадукты, працавала мноства крам, кафэ і рэстаранаў. І згаладалым тулякам багацце ў крамах яўрэйскіх гандляроў было відавочна не па душы.

Размясцілі палкі на прыватных кватэрах — былыя казармы 160-га пяхотнага абхазскага палка нямецкія войскі прывялі ў непрыдатнасць. Многія чырвонаармейцы апынуліся на пастоі ў «Залініі» — раёне прыватнага сектара, некалі самавольна ўзведзенага гомельскімі чыгуначнікамі на пустках побач з лініяй Лібава-Роменскай дарогі. Раён гэты і ў «ліхія 90-я» карыстаўся крымінальнай славай. А ў 1919 годзе тут панавалі асаблівыя настроі. Паміж «Залініяй» і наваловаю яўрэйскім «горадам» здаўна тлела глухая варожасць.

У 1903 годзе чыгуначнікі, хоць і падбухтораныя тайнай паліцыяй, але ў цэлым самастойна, наладзілі ў Гомелі пагром. Пасля тут дзейнічаў Гомельскі аддзел «Саюза рускага народа», адзін з самых буйных у Расійскай імперыі. Праўда, рабочых у яго запісвалі ў «добраахвотна-прымусовым» парадку. Але з пачаткам Першай сусветнай вайны манархічныя ілюзіі хутка развеяліся. Рабочыя чыгункі прынялі актыўны ўдзел і ў Лютаўскай, і ў Кастрычніцкай рэвалюцыі. І ў 1918 годзе чыгуначнікі былі адной з вядучых сіл супраціву нямецка-гайдамацкай акупацыі. Але знаходзіліся пераважна пад уплывам левых эсэраў і, часткова, анархістаў.

Савецкая ўлада, якая вярнулася ў Гомель 14 студзеня 1919 года, была ўжо іншай. Гэта пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў гомельскім Савеце засядалі і свабодна дыскутавалі дэлегаты ці не ўсіх сацыялістычных партый, а рабочыя праз свае органы самакіравання кантралявалі адміністрацыю і нават абіралі міліцыю. За год жорсткай і крывавай грамадзянскай вайны бальшавікі ўзмужнелі і адцяснілі ад улады сваіх ідэалістычна настроеных саюзнікаў.

У Гомелі была ўтворана Надзвычайная камісія (НК), якая хутка заторкнула рот нязгодным. А самае галоўнае — прадукты сталі вывозіцца ў цэнтральныя галадаючыя губерні. Забеспячэнне чыгуначнікаў пагоршылася, узмацніліся праблемы з заробкамі, і пры нямецка-гайдамацкім рэжыме не вельмі высокімі. Сярод працоўных хадзілі чуткі, што некаторыя савецкія служачыя, прыкрываючыся службовым становішчам, не грэбуюць і спекуляцыяй.

Традыцыйна больш пісьменныя яўрэі, якія пражывалі ў мяжы аселасці, займалі многія партыйныя і гаспадарчыя пасады, што давала глебу для росту антысемітызму.

Усёй гэтай незадаволенасцю шматлікія «залінейцы», па дамах якіх кватаравалі чырвонаармейцы, шчодра дзяліліся з пастаяльцамі. А мабілізаваныя тулякі, і асаблівa рускія афіцэры, і самі ўжо даўно мелі зуб на Саветы. У выніку ў брыгадзе стала неспакойна. Справы даходзілі да таго, што падчас прагляду фільмаў у мясцовым сінематографе чырвонаармейцы пачыналі страляць у столь і крычаць: «Бі жыдоў!» Некаторыя вайскоўцы «Тульскай брыгады» былі арыштаваныя Надзвычайнай камісіяй. Але 18 сакавіка 1919 года гэты галаўны боль мясцовых уладаў і чальцоў Надзвычайнай камісіі нарэшце адбыў на фронт — пад Мазыр–Оўруч. Гэта быў Дзень Парыжскай Камуны, і напярэдадні рэдактар «Вестак Гомельскага рэўкама» Мікалай Білецкі напісаў артыкул пра камунараў. Ці адчуваў ён, што паўторыць іх лёс у хуткай будучыні?

### Насенне змовы

З поўдня на Мазыр–Калінкавічы наступала Паўночная група войскаў УНР атамана Аскілкі, якая спрабавала зноў захапіць гэты раён. Па прыбыцці на пазіцыі чырвонаармейцы патрапілі пад артылерыйскі абстрэл і панеслі першыя страты. «Здрада!» — нібы разрад электрашоку пранеслася па палках. Замітынгаваўшы, чырвонаармейцы пагрузіліся ў эшалоны і рушылі назад. Камісар 68-га палка Фёдар Сундукоў паспрабаваў спыніць узбунтаваныя часткі, але быў лінчаваны мяцежнікамі. Ужо ў Калінкавічах бунтаўшчыкі паспрабавалі ўчыніць яўрэйскі пагром, але былі спыненыя таварышамі. 24 сакавіка паўстанцы прыбылі ў Гомель, 26 сакавіка — занялі Рэчыцу.

У фільме «Вяселле ў Малінаўцы» дзед Нічыпар пытае пана-атамана Грыцыяна-Таўрыцкага: «А ці ёсць у цябе хоць нейкая праграма?» Невядома, ці запытвала пра гэта паўстанцаў дэлегацыя гомельскай грамадскасці ў складзе святароў, чыноўнікаў і буржуа, што адразу ж падтрымалі мяцеж. Але праграма ў паўстанцаў была.

Пра яе раптам заявіў «Палескі паўстанцкі камітэт» (ППК), які з'явіўся невядома адкуль. Ён быў ананімны, і не ўсе асобы, што ўваходзілі ў яго, дакладна вядомыя да гэтага часу. ППК абвясціў у Гомелі «Рускую народную рэспубліку». Камітэт абяцаў таксама скліканне Устаноўчага сходу, свабоду гандлю і прыватнай ініцыятывы ў спалучэнні з дзяржаўным сектарам. Пры гэтым, зразумела, замоўчвалася, што «вярхоўны кіраўнік» Расіі «адмірал» Аляксандр Калчак нядаўна разагнаў Камітэт членаў Устаноўчага сходу, пры гэтым частка дэпутатаў была расстраляная. Важнае пытанне пра тое, каму будзе належаць зямля ў гомельскай «Рускай народнай рэспубліцы», таксама абыходзілася гранічна абстрактнай фразай: «Зямля — народу».

Камандуючым «1-й арміяй» РНР стаў начальнік забеспячэння 68-га палка, былы штабс-капітан царскай арміі Стракапытаў. Паводле ўспамінаў відавочцаў, гэта быў сярэдніх гадоў чалавек з паголенай галавой. Стракапытаў нарадзіўся ў сям'і заможных тульскіх купцоў. Мабыць, яго кар'ера і развівалася б па камерцыйнай частцы, калі б царская Расія не ўступіла ў Першую сусветную вайну. Зрэшты, афіцэр ваеннага часу, ён вялікай «вернасцю трону» не вылучаўся. І пасля лютага 1917 года далучыўся да РСДРП — праўда, меншавікоў. У Чырвоную Армію быў мабілізаваны разам са многімі іншымі афіцэрамі. У лістападзе 1918 года ўжо арыштоўваўся НК.

Нянавісць Стракапытава да Савецкай улады, якая пазбавіла яго і яго сваякоў «свабоды гандлю», зразумелая. Але хто ў цэлым стаяў за паўстаннем? Наяўнасць у паўстанцаў досыць хутка ўзніклай арганізацыі і якой-ніякой, а праграмы, кажа пра тое, што выступ не быў спантанным.

Насенне змовы маглі прывесці з сабою афіцэры, мабілізаваныя ў Туле і Маскве. Вось што казаў пра сітуацыю ў Туле дэлегат III з'езда партыі левых эсэраў Іосіф Краскоў летам 1918 года: «Сяляне да савецкай улады ставяцца добра… У Туле стан савецкай улады вельмі дрэнны, цяжкі, бо там моцныя правыя эсэры і меншавікі, ды і самі працоўныя, што абраслі дробнымі гаспадаркамі. Сацыялісты правага лагера правялі ў горадзе страйк. Да таго ж бальшавікі рабілі і працягваюць рабіць мноства бестактоўнасцяў. У шэрагі арміі прымаюць вельмі шмат афіцэраў старой загартоўкі, арыштоўваюць працоўных… Калі яны запрасілі на службу старога генерала, салдаты ўсе хацелі сысці да левых эсэраў».

Меншавікі ў Туле, да якіх належаў і Стракапытаў, былі мала падобныя да інтэлігентаў у пенснэ, якімі іх адлюстроўвала пасля савецкая прапаганда. Падчас згаданага страйку на зброевым заводзе рабочыя-меншавікі арыштавалі губернскага камісара і ўчынілі перастрэлку.

Другім цэнтрам змовы маглі быць гомельскія чыноўнікі і службоўцы ўсё той жа чыгункі. У ліку «прадстаўнікоў грамадскасці», запрошаных Стракапытавым да супрацоўніцтва, былі і гомельскія меншавікі, і цяпер вельмі папулярызаваны архітэктар Станіслаў Шабунеўскі.

Пра тое, што абвяшчэнне «Рускай народнай рэспублікі» ў Гомелі магло быць часткай шырокага плана, кажа і назва — «1-я армія РНР». Магчыма,



Гатэль «Савой»

# рэспубліку» усталёўвалі

дзесці ў гэты час павінны былі паўстаць 2-я і 3-я «арміі». Пры гэтым тэксты заклікаў «Палескага паўстанцкага камітэта» нагадваюць ці пераймаюць стыль галоўнага антыбальшавіцкага змоўшчыка таго часу — Барыса Савінкава.

Больш за тое, у адным са зваротаў Стракапытава гаворыцца: «Цяпер не 1918 год, а Гомель — не Яраслаўль». Былы эсэр-тэрарыст і паляўнічы за царскімі міністрамі летам 1918 года паспрабаваў арганізаваць няўдалае паўстанне ў Яраслаўлі, Мураме і Рыбінску. А ў 1919 годзе «Саюз абароны Радзімы і свабоды» Савінкава, пры падтрымцы Калчака, рыхтаваў новую серыю выступаў па ўсёй Расіі.

### Гомельская самаабарона

Савецкім кіраўнікам Гомеля тады было зусім не да таго, каб у дэталях высвятляць палітычныя прыхільнасці мяцежнікаў. Калі 23 сакавіка эшалоны з узбунтаванымі часткамі прыбылі на станцыю «Гомель», яны паспрабавалі арганізаваць абарону горада. У ноч на 24 сакавіка для гэтага быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт (ВРК).

Улада ў Гомелі ў той час належала кіруючай партыі РКП(б). Супраць немцаў у 1918-м бальшавікі змагаліся разам з левымі эсэрамі і анархістамі. Але адразу ж пасля выхаду з падполля непатрэбныя зараз «ультралевыя» саюзнікі былі адкінутыя. Дый сама кіруючая РКП(б) дзялілася ў Гомелі на дзве арганізацыі — «Гарадскую» і «Залінейную». Пры гэтым камуністаў-чыгуначнікаў, якія адыгралі такую значную ролю ў 1917 годзе і барацьбе з акупантамі, у кіраўніцтве горада было не так шмат.

Пасады занялі маладыя гомельскія інтэлігенты, якія ўступілі ў партыю на хвалі рэвалюцыі. Старшынёй ВРК стаў 24-гадовы Сямён Камісараў (Гурэвіч). У складзе камітэта таксама былі Мікалай Білецкі-Язерскі, галоўны рэдактар гомельскіх «Известий» і сын царскага генерала, старшыня НК Іван Ланге, ураджэнец Прыбалтыкі, і Васіль Селіванаў — дэлегат Усебеларускага з'езда, былы левы эсэр, які раней арыштоўваўся НК. Ад чыгуначнікаў у ВРК уваходзілі бальшавікі Гуля і Валадзько.

Сілаў у ВРК было зусім мала. Ахоўны батальён Дзямідава фармальна заняў «нейтральную» пазіцыю, а на справе перайшоў на бок мяцежнікаў. У распараджэнні штаба абароны быў толькі невялікі Інтэрнацыянальны атрад НК з кітайцаў, немцаў і сербаў, і частка супрацоўнікаў міліцыі. З камуністычнай і беспартыйнай моладзі былі створаныя атрады, якія шмат у чым нагадвалі яўрэйскую самаабарону, якая ўжо не раз ратавала горад ад пагромаў. Пры гэтым сваю дапамогу ВРК прапанавалі як левыя эсэры, так і сацыялісты-сіяністы — але атрымалі адмову.

Падобна на тое, што першапачаткова ані гэты штаб абароны, ані самі паўстанцы не ведалі дакладна, што будуць рабіць. Большасць шараговых



НА ЭТОМ МЕСТЕ В МАРТЕ 1919 ГОДА В ЗДАНИИ БЫВШЕЙ ГОСТИНИЦЫ „САВОЙ" НАХОДИЛСЯ ВОЕННЫЙ ШТАБ ОБОРОНЫ ГОРОДА ГОМЕЛЯ ОТ БЕЛОГВАРДЕЙСКИХ МЯТЕЖНИКОВ. ЗДЕСЬ СРАЖАЛИСЬ ГОМЕЛЬСКИЕ КОММУНАРЫ, ГЕРОИЧЕСКИ ЗАЩИШАВШИЕ ЗАВОЕВАНИЯ ВЕЛИКОЙ ОКТЯБРЬСКОЙ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ РЕВОЛЮЦИИ.

**Амаль палова дамоў у кварталах, прылеглых да вакзала, была разрабаваная або спаленая. На вуліцах ляжалі трупы. Так выглядалі рэаліі «белай барацьбы» за «адзіную і непадзельную Расію» не толькі ў Гомелі, але і ва Украіне, Сібіры і на Далёкім Усходзе**

мяцежнікаў хацела толькі аднаго — ехаць на Бранск, а адтуль самастойна дабірацца дадому, у Тулу. Ні пра якую «Рускую народную рэспубліку» яны і не марылі. Стракапытаву давялося прыкласці нямала намаганняў, каб, запалохваючы паўстанцаў рэпрэсіямі Троцкага, схіліць іх да арганізаваных дзеянняў супраць бальшавікоў.

Першапачатковa чальцы ВРК нават спадзяваліся ўлагодзіць справу мірам. А потым прапаноўваліся розныя планы — разабраць шляхі і не даць мяцежным эшалонам ісці на Бранск і Маскву. Альбо наадварот — прапускаць мяцежнікаў па чыгунцы невялікімі партыямі, каб затым ізаляваць і раззброіць. У любым выпадку, сіл для падаўлення паўстання ў ВРК не было. На 300 чалавек спешна сабранай самаабароны было толькі 150 вінтовак розных сістэм, да часткі якіх бракавала патронаў. У раўкомаўцаў быў толькі адзін кулямёт. У стракапытаўцаў — 78 кулямётаў і 12 гармат. Але бой давялося прыняць усё роўна…

### Трагедыя «Савоя»

Свае нешматлікія сілы штаб абароны засяродзіў у гасцініцы «Савой» (цяпер — ААТ «Стары Універмаг»), дзе змяшчаліся галоўныя ўстановы горада, на тэлеграфна-тэлефоннай станцыі, гарадской тэлефоннай станцыі і будынку НК (цяпер — «Паляўнічая хатка»). У бок вакзала былі высланы ўзброеныя патрулі, якіх мяцежнікі ў хуткім часе адсеклі ад цэнтра горада. 24 сакавіка стракапытаўцы захапілі гарадскую турму і вызвалілі ўсіх арыштаваных — як крымінальных, так і палітычных. Адначасова ў Гомель сталі сцягвацца бандыты з навакольных вёсак. У горадзе пачаліся першыя рабаванні і пагромы. Увечары гэтага ж дня адбыўся штурм «Савоя».

Першая атака была адбітая, знішчаныя некалькіх мяцежнікаў. Тады паўстанцы абрынулі на гасцініцу агонь артылерыйскіх гармат і мінамётаў. Дарэмна «Руская народная рэспубліка» гарантавала недатыкальнасць прыватнай уласнасці — самы фешэнебельны гатэль Гомеля, на вяртанне якога так спадзяваўся яго ўладальнік купец Шановіч, рухнуў на вачах. Аднак яшчэ цэлую ноч і палову дня 25 сакавіка абарона «Савою» працягвалася.

Пры гэтым у штурме гасцініцы ўдзельнічала толькі меншасць мяцежнікаў. Большая частка працягвала сядзець у эшалонах на станцыі «Гомель-Гаспадарчы». У сілу гэтых ці іншых меркаванняў, але кола блакады вакол «Савою» цалкам закрытае не было, і шмат хто з удзельнікаў абароны сышоў з гатэлю. Да другой паловы дня 25 сакавіка колькасць абаронцаў скарацілася прыкладна ўдвая.

ВРК спадзяваўся затрымаць прасоўванне мяцежнікаў да падыходу Чырвонай Арміі. Але дапамогі не было — раўкамаўцы не ведалі, што стракапытаўцы ад іх імя разаслалі ілжывыя тэлеграмы аб хуткай «ліквідацыі» бунту. А артылерыя мяцежнікаў пагражала зраўняць гасцініцу з зямлёй. І тады кіраўнікі абароны вырашылі здацца — пад сумленнае слова паўстанцаў захаваць усім удзельнікам абароны жыццё. Частка абаронцаў змаглі вырвацца з «Савоя», не спадзеючыся на міласць пераможцаў.

Аднак большасць кіраўнікоў заставалася да канца — каб падзяліць лёс са сваімі байцамі. Паўстанцы, п'яныя і раз'юшаныя, свае слова не стрымалі — адразу ж пасля выхаду з гасцініцы былі забітыя кітайскія добраахвотнікі. Аднаму з іх адсеклі галаву шабляй. Тых, хто здаўся, павялі па Румянцаўскай вуліцы (цяпер — Савецкая). Гэта была дарога на Галгофу — увесь час іх неміласэрна збівалі пад ухвальныя крыкі натоўпу, які сабраўся паглядзець на «прадстаўленне». Паводле ўспамінаў відавочцаў, вароты турмы здаліся ім выратавальным прыстанкам. Дарэчы, начальнік турмы пры «Рускай народнай рэспубліцы» застаўся той жа, што і пры Саветах.

Пасля таго, як супраціў у «Савоі» быў задушаны, стракапытаўцы пачалі ў Гомелі масавы пагром. Ротмістр дэ Маньян піша ў сваіх успамінах, што ў рабаваннях і вымаганнях у яўрэяў прыняў удзел амаль кожны паўстанец. Сёння частка даследчыкаў спрабуе падаць «Рускую народную рэспубліку» Стракапытава ў больш мяккім выглядзе. Некаторыя пішуць, што дзеянні паўстанцаў не суправаджаліся такой колькасцю забойстваў і гвалту, як вядомыя гомельскія пагромы 1903 і 1906 гадоў. Але, на нашу думку, — стракапытаўцы значна перасягнулі іх.

З успамінаў гамяльчанкі Марыі Раманавай: *«Цэлы дзень мы баяліся выходзіць на вуліцу, назіралі за пагромамі з вокнаў. Добра памятаю, як салдаты разбілі вітрыннае шкло цырульні Боруха Мельніка і выцягнулі вялікія бутэлькі з адэкалонам. Адэкалон яны выпілі на вуліцы, а цырульню падпалілі. У той самы дзень пачалі лавіць на вуліцах яўрэяў. Некалькіх нашых суседзяў павесілі на ліхтарах каля вакзала. На наступны дзень на галовах трупаў сядзелі вароны і дзяўблі вочы. Было страшна, але нам, дзецям, цікава. Мне хацелася на вуліцу, але бацькі не пускалі. За пагромам мы з братам Сашам (быў ён на два гады старэйшы за мяне, 10-гадовай) назіралі з вокнаў. Маці адганяла нас, каб не глядзелі на вісельнікаў… Салдаты выглядалі жудасна: брудныя, барадатыя, п'яныя дзядзькі ў доўгіх шынялях. Яны стралялі ў паветра і гучна мацюкаліся. Потым невядома адкуль узяўся святар з харугвай, які хадзіў разам з салдатамі і заклікаў «біць жыдоў».*

*Неўзабаве да нас прыбеглі яўрэі-суседзі — можа, чалавек дзесяць. Памятаю толькі дзве сям'і: Мельнікаў і Шэндаравых, бо з іх дзецьмі я сябравала. Яўрэі вельмі баяліся пагромшчыкаў. У гасцініцы «Залаты якар» быў шырокі склеп, дзе стаялі бочкі з-пад віна, селядцоў і салёных агуркоў. Мае бацькі схавалі яўрэяў у бочках, а зверху навалілі нейкія скрыні. У той жа дзень да нас прыйшлі пагромшчыкі. Я бачыла іх на ўласныя вочы. Запомнілася, што ўсе яны сябрэлі, як свінні. Дзверцыры былі чымсьці ўзлаваныя і паводзілі сябе вельмі нахабна. Маці сустрэла іх з абразом у руках. Бацька падрыхтаваў самагонку. Пагромшчыкі з парога спыталі: «Дзе тут жыды хаваюцца? Пакажыце нам!» Мая маці пачала гаварыць, што яна сапраўдная праваслаўная і ўласнымі рукамі гатовая перадушыць усіх хрыстапрадаўцаў. Бацька выставіў пагромшчыкам усю самагонку, якая была ў доме. На шчасце, салдаты не ведалі пра вінны склеп. Выпілі, перахрысціліся на абраз і сышлі. Суседзі-яўрэі хаваліся ў бочках да канца пагромаў. Маці і бацька насілі ім ежу і пітво».*

Паводле сведчання Марыі Раманавай, амаль палова дамоў у кварталах, прылеглых да вакзала, была разрабаваная або спаленая. На вуліцах ляжалі трупы, сярод якіх Марыя бачыла знаёмых. Так выглядалі рэаліі «белай барацьбы» за «адзіную і непадзельную Расію» не толькі ў Гомелі, але і ва Украіне, Сібіры і на Далёкім Усходзе.

Але сутыкнення з рэгулярнай Чырвонай Арміяй дэмаралізаваныя рабаваннямі і забойствамі паўстанцы не вытрымалі. 29 сакавіка Магілёўскія курсы чырвоных камандзіраў, часткі Бранскай дывізіі і фактычна атрады апалчэння, спехам сабраныя з сялян суседніх паветаў, лёгка выбілі стракапытаўскае «1-е войска РНР» з Гомеля. 1 красавіка была ўзятая Рэчыца. У падаўленні «Рускай народнай рэспублікі» прымаў удзел будучы кіраўнік урада БССР Іосіф Адамовіч.

Мая бабуля ўспаміналa, як паўстанцы, якія збягалі, ні з чаго шпурнулі гранату ў іх двор. Цудам ніхто не пацярпеў. Пры адступленні мяцежнікі па-зверску забілі 12 захопленых кіраўнікоў абароны ў хляве на станцыі «Гомель-Гаспадарчы». Забівалі з нечалавечай жорсткасцю, халоднай зброяй і тупымі прадметамі. Івану Ланге размазжылі галаву. Яго грамадзянскай жонцы Песе Каганскай, адной з першых у Гомелі прыгажунь, наматалі доўгія чорныя валасы на палена і сарвалі з галавы скальп…

Мяцежнікі адышлі па жалезнай дарозе ў бок Мазыру і перайшлі там да войскаў УНР. Характэрна, што ў хуткім часе камандуючы Паўночнай групай войскаў Дырэкторыі атаман Аскілка таксама падняў мяцеж супраць свайго галаўнога атамана Пятлюры. У Роўна Аскілка падняў лозунг Устаноўчага сходу, арыштаваў урад УНР, але Сымона Пятлюру захапіць не змог. Пацярпеўшы паразу, Аскілка збег у Польшчу. Цікава, што ў 1917 годзе паручнік Аскілка быў губернскім камісарам Часовага ўрада ў Туле…

Ці магла цягнуцца адна з нітачак змовы тулякоў у Гомелі да гэтага ровенскага амбіцыйнага атамана? Начальнік штаба Паўночнай групы генерал-маёр Усевалад Агапееў у хуткім часе апынуўся ва «Узброеных сілах Поўдня Расіі» ў Дзянікіна.

«Руска-Тульскі атрад» Стракапытава таксама чакаў польскі канцэнтрацыйны лагер у Стшалкава. Пасля стракапытаўцы зноў ваявалі за «адзіную і непадзельную Расію» ў арміі Юдзеніча. І зноў былі інтэрнаваныя — гэтым разам у Эстоніі. Тут у 1940 годзе Стракапытаў і быў арыштаваны НКУС. Уладзімір Брант, галоўны ідэолаг стракапытаўшчыны, працаваў рэдактарам у варшаўскай газеце Савінкава «За свабоду» («Меч»). У 1930–1940-х гадах быў адным з дзеячаў «Народна-працоўнага саюза расійскіх салідарыстаў», што супрацоўнічаў з нацыстамі. Адначасова Брант быў супрацоўнікам Абвера. У 1941 годзе ўзначальваў ва ўправе акупаванага Смаленска бежанскі аддзел, памёр ад тыфу.

А загінулым гомельскім камунарам быў пастаўлены помнік — у скверы, які насіў імя «25 сакавіка». Дарэчы, «камунарамі» яны былі названыя ўжо пасмяротна — ніякай камуны ў Гомелі не было. Але аналогіяй паслужыла расправа над удзельнікамі Парыжскай Камуны. Адсюль і «Віленскія камунары» Максіма Гарэцкага. У 1929 годзе ў Гомелі пра тыя падзеі быў зняты адзін з першых беларускіх мастацкіх фільмаў — «Гатэль «Савой».

## Пагартаць лепшыя дзіцячыя кнігі і пакаштаваць печыва і напой ад Цёткі

**Сёлета Прэмія Цёткі ператворыцца ў міні-фэст для дзяцей і дарослых.**

6 красавіка з 12-й да 16-й гадзіны ў прасторы OK16 можна будзе пагуляць і паразмаўляць, паглядзець спектакль і паслухаць музыку, пачаставацца печывам і напоем ад Цёткі. Таксама можна будзе пагартаць і набыць намінаваныя на прэмію кнігі ды іншыя дзіцячыя беларускамоўныя выданні. Уваход вольны.

Свята пройдзе ў межах Фестывалю інтэлектуальнай кнігі «Прадмова».

12:10 — 13:10 — дыскусія на тэму сучаснай беларускай дзіцячай ілюстрацыі (Кацярына Дубовік, Вольга Кузьміч, Павел Татарнікаў, мадэратарка Юля Цімафеева).

13:30 — 14:15 — спектакль «Мама Му паранілася» ад тэатрыка лялек «Лямцавая Батлейка» (партнёр «Будзьма беларусамі»).

14:30 — цырымонія ўганаравання лаўрэатаў Прэміі Цёткі.

15:00 — 16:50 — музычны сэт ад Эрыка Арлова-Шымкуса.

Цягам усяго міні-фэсту будуць адбывацца розныя актыўнасці для дзяцей і не толькі: размалёўкі Піў.піў, майстар-клас ад лаўрэаткі 2018 года Лізаветы Лянкевіч, аздабленне пячэнек, гульня-віктарына і іншае.

Інфармацыя пра праграму міні-фэсту будзе абнаўляцца на старонцы падзеі ў Facebook, таксама за навінамі прэміі можна сачыць на сайце ciotka.by.

Прэмія ўручаецца ў дзвюх намінацыях: за найлепшы твор для дзяцей і падлеткаў і за найлепшае мастацкае афармленне. Кожны пераможца атрымае грашовую ўзнагароду, эквівалентную 2000 долараў.

Прэмія была заснаваная ў 2015 годзе Беларускім ПЭН-цэнтрам, фондам «Вяртанне» і Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Папярэднія пераможцы прэміі: Надзея Ясмінска, аўтарка кнігі «Сем ружаў», і Кацярына Дубовік — яе ілюстратарка, а таксама Уладзімір Арлоў і Павел Татарнікаў з кнігай «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі», Валер Гапееў за кнігу «Мая мілая ведзьма» і Лізавета Лянкевіч за афармленне «Азбукі» Рыгора Барадуліна.

**Паводле прэс-рэлізу**

## ЕГУ запрашае на летнія майстэрні

**Адбудзецца III Летняя школа Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.**

У Вільні з 1 па 12 ліпеня пры падтрымцы дасведчаных настаўнікаў удзельнікі Летняй школы змогуць праявіць сябе і свае здольнасці ў адной з шасці майстэрняў:

Тэатральная майстэрня Вольгі Палевіковай і Аляксандра Марчанкі.

- Майстэрня візуальнай спадчыны Сцяпана Стурэйкі і Касі Сырамолат.
- Майстэрня крэатыўнага пісьма Віктара Марціновіча і Ксеніі Шталенковай.
- Майстэрня графічнага малюнка Сяргея Сялецкага.
- Анімацыйная майстэрня Юліі Цітовай і Валентаса Ашкініса.
- Майстэрня англійскай мовы Людмілы Арцымавічэне.

Вынікам Летняй школы стане агульная адкрытая сесія 12 ліпеня, на якой слухачы кожнага з напрамкаў прадставіць свае індывідуальныя і калектыўныя творчыя праекты. Аўтары лепшых праектаў у рамках Летняй школы будуць узнагароджаныя дыпломамі 1, 2 ці 3 ступені, якія могуць быць дададзеныя ў партфоліа для ўдзелу ў конкурсе на атрыманне грантаў пры паступленні ў ЕГУ.

Удзел у Летняй школе платны, кошт розны для кожнай майстэрні. Удзельнікам афармляецца бясплатная віза на тэрмін правядзення Летняй школы ЕГУ.

Дэдлайн падачы заявак — 10 траўня.

**Паводле adukacyja.info**

# БагатаДата

**Вы ведалі, што ёсць Дзень дзяржаўнасці беларускай мовы? А пра міжнародны дзень бэкапа і Дзень супоў? Больш цікавостак у нашым аглядзе.**

### 30 сакавіка

**1689.** Быў пакараны смерцю за атэізм філосаф родам з-пад Брэста Казімір Лышчынскі, аўтар трактату «Аб неіснаванні Бога». Спачатку яму адсеклі галаву, а потым спалілі. Рукапіс трактату быў таксама спалены. Да нас дайшлі толькі асобныя фрагменты твора, якія захаваліся ў матэрыялах судовага працэсу над Казімірам Лышчынскім. У вёсцы Малыя Шчытнікі Брэсцкага раёна да 300-годдзя пакарання Лышчынскага быў усталяваны памятны знак.

**1964.** У Мінску ў сям'і спевака філармоніі нарадзіўся Мікалай Халезін, журналіст, сцэнарыст, заснавальнік Беларускага свабоднага тэатра, які зарэгістраваны ў Лондане і пазіцыянуецца як падпольны.

### 31 сакавіка

**Міжнародны дзень рэзервовага капіявання (бэкапа).**

**1949.** Нарадзіўся адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы, біёлаг, галоўны рэдактар выдавецтва «Тэхналогія» Зміцер Санько.

**1969.** У Чыкага пайшоў з жыцця Мікола Шчаглоў-Кулікoвіч, беларускі кампазітар, адзін з арганізатараў у Мінску Тэатра оперы і балета Беларусі, дзеяч беларускага руху ў эміграцыі. На лібрэта Наталлі Арсенневай напісаў оперы «Лясное возера» і «Усяслаў Чарадзей».

### 1 красавіка

**Дзень смеху,** або дзень дурня. А таксама Міжнародны дзень птушак.

**1919.** У Мінску нарадзілася жывапісец і графік Раіса Кудрэвіч. У 1999 годзе ўганараваная званнем «Народны мастак Беларусі».

### 2 красавіка

**Міжнародны дзень дзіцячай кнігі.** Адзначаецца ў дзень нараджэння вядомага пісьменніка-казачніка Ханса Хрысціяна Андэрсена.

**1949.** У Лагойску нарадзіўся кампазітар, дырыжор, збіральнік беларускага фальклору Алесь Рашчынскі. Музычны кіраўнік ансамбля «Харошкі», квартэта «Купалінка», групы-капэлы аўтэнтычнага фальклору «Агмень». У верасні 2016 года ў Мінску пасля яго смерці быў створаны народны хор імя Алеся Рашчынскага.

### 3 красавіка

**Дзень дзяржаўнасці беларускай мовы.** Некаторыя прапануюць адзначаць такую дату. Нагода — прыняцце ў гэты дзень 1918 года пастановы Народнага камісарыяту БНР, якой беларуская мова абвяшчалася дзяржаўнай і абавязковай для выкарыстання ў дакументах урадавых установаў.

### 4 красавіка

**1914.** У вёсцы Паддзягцярня Пухавіцкага раёна нарадзілася Алена Мазанік, савецкая выведніца, Герой Савецкага Саюза, непасрэдная выканаўца знішчэння ў ноч з 21 на 22 верасня 1943 года генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ. За некалькі месяцаў да ўчынення забойства яна ўладкавалася працаваць у дом, дзе жыла сям'я Кубэ, прыбіральшчыцай. Мазанік падклала бомбу пад ложак гаўляйтара. Да таго Алена Мазанік працавала афіцыянткай у казіно, там яе і знайшоў Кубэ, запрасіўшы ў абслугу свайго трохпавярховага дома ў Мінску. Міну Мазанік перадала падпольшчыца Марыя Осіпава.

Таксама існуе версія, што замах маглі падрыхтаваць самі немцы — палітычныя апаненты Кубэ з СС, незадаволеныя тым, што той пратэставаў супраць жорсткіх метадаў акупацыі і крыху падтрымліваў беларускі нацыянальны рух. Ці, прынамсі, СС і СД маглі ведаць пра падрыхтоўку замаху і не прадухіліць яго. Што да наступстваў ліквідацыі Кубэ, то, з аднаго боку, такім чынам Гітлеру далі моцную рэзанансную аплявуху, а з другога — у Мінску былі схопленыя і расстраляныя дзве тысячы жыхароў. Мазанік і Осіпаву ўдалося вывезці ў Маскву.

**1904.** Нарадзіўся каталіцкі святар, пакутнік Юрый Кашыра. Памёр у лютым 1943 года ў выніку Росіцкай трагедыі. Яна адбылася ў вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна. Фашысты праводзілі тут маштабную карную аперацыю. У касцёле мясцовых жыхароў сартавалі: каго адправіць на працы ў Германію, а каго — на знішчэнне. Кашыру загадалі блаславіць асуджаных да смерці і стаць у іншую калону. Але святар пайшоў да тых, каго адправілі ў апошні шлях, — на спаленне ў стайні. Усяго падчас карнай аперацыі ў Росіцы за некалькі дзён былі спаленыя некалькі тысяч чалавек.

### 5 красавіка

Нефармальны Міжнародны дзень супоў, які звяртае ўвагу на важнае месца ў харчаванні першых страваў, якія здаўна ў Беларусі называліся поліўкамі, — крупнік, граматка, халаднік, боршч, панцак...

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №488

Падпісана да друку 29.03.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

